Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР
АДДЗЕЛ С.-Г. ЭКАНОМІІ і АГРАРНАЙ ПАЛІТЫКІ

ТОМ VII. ВЫП. 5.

М. П. МАКАРАЎ

# СПРОБА
## ВЫВУЧЭНЬНЯ ЭФЭКТЫЎНАСЬЦІ ФОРМ ЗЕМЛЯКАРЫСТАНЬНЯ Ў БССР

Беларусский Научно-Исследовательский Институт Сельского и Лесного Хозяйства имени В. И. Ленина при СНК БССР

ОТДЕЛ С.-Х. ЭКОНОМИИ И АГРАРНОЙ ПОЛИТИКИ

ОПЫТ ИЗУЧЕНИЯ ЭФЕКТИВНОСТИ ФОРМ ЗЕМЛЕПОЛЬЗОВАНИЯ В БССР

М. П. МАКАРОВ

Belarussisches Institut für Wissenschaftliche Forschungen in der Land-und Forstwirtschaft auf den Namen von W. I. Lenin beim Rate der Volkskommissare von der BSSR

ABTEILUNG FÜR LDW. OEKONOMIE UND AGRARPOLITIK

VERSUCHE ZUR ERFORSCHUNG DER BRAUCHBARKEIT VERSCHIEDENER ARTEN VON LANDNUTZUNG IN BSSR

M. P. MAKAROW

МЕНСК—MINSK
1929

Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя У. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

АДДЗЕЛ С.-Г. ЭКАНОМІІ і АГРАРНАЙ ПАЛІТЫКІ

ТОМ VII. ВЫП. 5.

М. П. МАКАРАЎ



# СПРОБА
# ВЫВУЧЭНЬНЯ ЭФЭКТЫЎНАСЬЦІ ФОРМ ЗЕМЛЯКАРЫСТАНЬНЯ Ў БССР



Беларусский Научно-Исследовательский Институт Сельского и Лесного Хозяйства имени В. И. Ленина при СНК БССР

ОТДЕЛ С.-Х. ЭКОНОМИИ И АГРАРНОЙ ПОЛИТИКИ

ОПЫТ ИЗУЧЕНИЯ ЭФЕКТИВНОСТИ ФОРМ ЗЕМЛЕПОЛЬЗОВАНИЯ В БССР

М. П. МАКАРОВ

Belarussisches İnstitut für Wissenschaftliche Forschungen in der Land-und Forstwirtschaft auf den Namen von W. İ. Lenin beim Rate der Volkskommissare von der BSSR

ABTEİLUNG FÜR LDW. OEKONOMİE UND AGRARPOLİTİK

VERSUCHE ZUR ERFORSCHUNG DER BRAUCHBARKEİT VERSCHİEDENER ARTEN VON LANDNUTZUNG IN BSSR

M. P. MAKAROW

МЕНСК—MİNSK
1929

## АД АЎТАРА

Гэта дасьледваньне ўзьнікла па ініцыятыве Кіраўніцтва Мэліярацыі і Земляўпарадкаваньня Наркамзема Беларусі, прапанаваўшага аўтару ўзяць на сябе распрацоўку пытаньня аб формах землякарыстаньня у БССР, оптымуме пасёлкаў і г. д. па маючыхся ва ўстановах матар'ялах. У сваім адказе НКЗБ аўтар паказаў на мэтазгоднасьць дыфэрэнцыяцыі пытаньня на паасобныя тэмы, адзначыўшы, што апрацаваньне іх патрэбуе значнай падрыхтоўкі і экспэдыцыйнага дасьледваньня на мясцох. У рэзультаце шэрагу нарад па гэтаму пытаньню, пры Інбелкульце (цяпер Беларуская Акадэмія Навук) пры старшыні Я. А. Кісьлякову была ўтворана спэцыяльная камісія (існаваўшая да заснаваньня Навукова-Дасьледчага Інстытуту), якая выдзеліла тры наступных тэмы: „Пасёлкавая форма землякарыстаньня“, „Тэхнічны эфэкт земляўпарадкаваньня“ і „Рэнтабельнасьць розных форм землякарыстаньня“. (Меркавалася выдзеліць чацьвёртую тэму, па вывучэньню геаграфіі і дынамікі форм землякарыстаньня, але яна канчатковага афармленьня не палучыла.

Апошняя з названых трох тэм была даручана мне і зьяўляецца зьместам данай работы. Адсутнічаньне распрацаванай мэтадалёгіі і мэтодыкі па вывучэньню падобных пытаньняў і нестатак адпаведаючай літаратуры ня спрыялі выкананьню заданьня і пэўна павялічылі лік недахопаў, якіх і без таго ўдосталь у кожнай рабоце. Не мала сумненьняў не толькі ў рацыянальнасьці вырашэньня тых або іншых пытаньняў, але і ў пастаноўцы самой тэмы паўстане ў уважлівага чытача пры азнаямленьні з работай, як яны паўставалі і ў аўтара ў працэсе дасьледваньня. Трэба толькі пажадаць, каб гэтыя сумненьня і нязгоды вызвалі здаровую крытыку работы ў інтарэсах тэарэтычнага і практычнага „асваеньня“ прадмету.

Работа складаецца с двух частак: тэксту і табліц. У тэксьце найбольш поўна прааналізавана эфэктыўнасьць асноўных індывідуальных форм землякарыстаньня ў БССР (вёсак, пасёлкаў і хутароў). З прычыны абмежаванасьці матар'ялу, разьмеру тэксту і часу паасобныя моманты эфэктыўнасьці апрацаваны неаднолькава падрабязна і глыбока, а некаторыя больш далёкія, зусім не закрануты; значная частка таблічнага матар'ялу тэкстуальна не апрацавана.

Шчыра дзякую студэнтам Беларускай С. Г. Акадэміі, прымаўшым удзел у Экспэдыцыйным дасьледваньні і распрацоўцы матар'ялу, асьпірантам катэдры с.-гасп. Эканоміі В.С. Пудаву і ў асаблівасьці І. Ц. Байкову, спэцыялістаму НКЗБ тав. Л. Г. Опра, а таксама ўсім дапамагаючым рабоце супрацоўнікам Навукова-Дасьледчага Інстытуту, у асобе дырэктара яго Г. І. Гарэцкага.

*Аўтар*

# МЭТАДАЛЁГІЯ І МЭТОДЫКА

## Агульнае абаснаваньне

1.

Навуковае дасьледваньне якога-б то ні было зьяўленьня перш за ўсё патрабуе ўстанаўленьня мэты дасьледваньня і мэтада, пры дапамозе якога дасьледчык мяркуе зрабіць вывучэньне. Устанаўленьне мэты або задачы дасьледваньня іначай можа быць вызначана як ўстанаўленьне самога прадмету дасьледваньня, разумеючы пад словам прадмет ня ўсю злучнасьць належачых данаму аб'екту (напр. формам землекарыстаньня) пытаньняў, а толькі тую частку іх, якая будзе падлягаць вывучэньню. Вызначэньне прадмету дасьледваньня, вызначэньне кута погляду, пад якім вывучаецца аб'ект і ўстанаўленьне сыстэмы тых меркаваньняў, пры дапамозе якіх будзе вывучацца прадмет і якія будуць служыць прадпасылкай для чарговых дзеяньняў па дасьледваньню, зьяўляецца першачарговай задачай.

З усяго комплексу пытаньняў, з пункту погляду якіх можна вывучаць формы землекарыстаньня, нас цікавіць круг пытаньняў, належачых да выяўленьня эфэктыўнасьці форм, выяўленьня таго ўплыву, які робяць розныя формы землякарыстаньня на разьвіцьцё вытворчых сіл с. гаспадаркі ў БССР. Выкажам некалькі агульных меркаваньняў аб характары гэтага ўплыву. Формы землякарыстаньня вызначаюцца тым тэхнічным і прававым становішчам зямельнага вучастку, пры якім землякарыстальнік будуе і накіроўвае сваю с.-гаспадарчую вытворчасьць. Як з тэхнічнага, так і з прававога боку становішча зямельнага вучастку будзе рознае пры розных формах землякарыстаньня. З тэхнічнага боку зямельное карыстаньне можа быць у большай ці меншай ступені раздроблена або комасіравана ў межах індывідуальных гаспадарак, або аб'еднана з другімі, з прававога пункту таксама можа быць цалкам або часткова індывідуалізаванага або аграмаджана.

Антыподамі ў гэтых адносінах зьяўляюцца хутарская і калектыўная формы, якія знаходзяцца на процілеглых канцавосьсях сацыяльна-тэхнічных станаў, ствараемых пры арганізацыі зямельнай тэрыторыі з мэтаю с.-гаспадарчага скарыстаньня. Пры хутарской форме землякарыстаньня і тэхнічны і прававы бок індывідуалізаваны. Зямельное карыстаньне кожнага землякарыстальніка тут, у ідэальным выпадку, зьведзена да аднага адасобленага вучастка с.-гаспадаркі, распараджэньне якім па-за кантролем і прымусам з боку сумежных землякарыстальнікаў. Свабода дзеяньняў на хутарох абмяжоўваецца толькі агульным для ўсіх дзяржаўным парадкам. Дыямэтральна адваротнае становішча маем ў поўнай калактыўнай форме, дзе і тэхнічны і прававы бакі аграмаджаны. З разглядаемага пункту погляду абедзьве формы хутарская і калактыўная зьяўляюцца гарманічна пабудованымі, у іх абодва бакі, тэхнічны і прававы, дапасованы і вытрыманы ў пэўным напрамку. Але акрамя гэтых гарманічных форм, мы знаем цэлы шэраг другіх, якія адрозьніваюцца большым

ці меншым разьвіцьцём індывідуальнага або аграмаджанага начала. Тыповым „старым“ прадстаўніком нагарманізаваных форм зьяўляецца грамадаўская.

Пры грамадаўскай форме тэхнічнае становішча індывідуальнага землякарыстаньня такое, што яно зьяўляецца раздробленым на дзесяткі, а іншы раз і сотні цераспалосных вучасткаў, а прававое становішча з аднаго боку дае індывідуальную свабоду кожнаму землякарыстальніку будаваць сваю с.-гаспадарчую вытворчасьць, а з другога абмяжоўвае гэту свабоду цэлым шэрагам унутры грамадаўск. абавязкаў, у выглядзе сумеснай пасьбы жывелы, прымусовага севазвароту і інш. Такім чынам пры грамадаўскім землякарыстаньні мы бачым рознае становішча абодвух бакоў, характарызуючых форму землякарыстаньня: тэхнічнага і прававага. Калі першы да абсурднай граніцы індывідуалізаван, так што кожны землякарыстальнік атрымоўвае належачую яму зямельную плошчу з падлікам усяй рознастайнасьці і асаблівасьцяй гаспадарчых уласьцівасьцяй агульнага зямельнага вучастку, дык прававы бок зьяўляецца зьмешаным: індывідуалізаваным у адносінах няпэўнасьці вытворчасьці права на прадукт і г. д., але „аграмаджаным“ у адносінах некаторых момантаў арганізацыі с.-гаспадарчай вытворчасьці.

Акрамя грамадаўскай, як ведома, маецца цэлы шэраг іншых форм землякарыстаньня, з іншым складам тэхнічных і прававых момантаў (падворна-цераспалосная, пасялковая, атрубная), але ўсе яны галоўным чынам адрозьніваюцца ўзмацненьнем альбо памяншэньнем індывідуальнага начала, і з гэтага пункту погляду многа бліжэй адна да другое, чым да калектыўных форм.

Указаныя адзнакі прававога і тэхнічнага характару ў розных формах землякарыстаньня, само сабою зразумела, уплываюць на структуру с.-гаспад. вытворчасьці, яе эфэктыўнасьць, вытворчыя адносіны і культурна-бытавы бок.

Перш за ўсё вызначым прынцыповы бок гэтага ўплыву. Пры ўсім сваім значэньні для арганізаванага парадку вытворчасьці, форма землякарыстаньня сама па сабе не вырашае пытаньня аб напрамку с.-гаспадаркі, яе рэзультатыўнасьці і сацыяльным становішчы земляроба. Прымат тут, вядома, за больш магутнымі фактарамі, ствараемымі ўсёй сыстэмай вытворчых адносін данай грамады і ступеньню разьвіцьця вытворчых сіл краю.

У. І. Ленін (том IX. стар. 89) кажа: „Амэрыка наглядна пацьвярджае тую ісьціну, якую падкрэсьліў К. Маркс у III томе „Капіталу“, менавіта, што капіталізм у земляробстве не залежыць ад форм земляўладаньня і землякарыстаньня“. Адсюль бачна падлеглае значэньне формы землякарыстаньня. Пашыраючы выказанае У. І. Леніным, можна сказаць, што як капіталістычны спосаб вытворчасьці ў земляробстве не залежыць ад форм землякарыстаньня, якія зьяўляюцца выводнымі ад разьвіцьця вытворчых сіл і вытворчых адносін, так і сацыялістычны лад, які ідзе на зьмену капіталізму не будзе залежаць ад форм землякарыстаньня, а сам створыць уласьцівыя гэтаму спосабу вытворчасьці эканамічныя формы. Адсюль усё адпавядаючае новаму ладу, сацыялістычнаму, у тым ліку характар і напрамак разьвіцьця с.-гаспадаркі ня будзе залежаць ад форм землякарыстаньня.

Сказаным вызначаецца наогул тое месца, якое мае форма землякарыстаньня ў пытаньні ўплыву на разьвіцьцё сельскай гаспадаркі. Прынцыпова форма землякарыстаньня сама ствараецца вытворчым ладам, але як бы не залежала яна ад спосабу вытворчасьці, усе-ж, існуючы in natura, форма землякарыстаньня бяз сумненьня робіць той ці іншы ўплыў

на разьвіцьцё сельскае гаспадаркі, хаця-бы ў парадку большага альбо меншага спрыяньня пэўнаму спосабу вытворчасьці. Уплыў гэты можа быць разглядаем, як уплыў надбудоўкі на базіс. У гэтым сэнсе формы землякарыстаньня могуць быць прыдатны для мэт далейшага і больш хуткага разьвіцьця вытворчых сіл сельскай гаспадаркі не ў аднолькавай ступені.

Адна і тая жа форма ў адных умовах спрыяе разьвіцьцю, у другіх тармазуе яго. Напрыклад эканамічнае землякарыстаньне ў Заходняй Сібіры, узьнікшае на свабодных казённых землях, пры няздольнасьці дзяржавы плянава асвоіць прыдатныя для с.-гасп. вытворчасьці тэрыторыі, дапамагала да часу разьвіцьцю сіл с.-гасп. у гэтай гістарычна адасобленай мясьцовасьці. Але тая-ж самая форма землякарыстаньня з пэўнай ступені разьвіцьця вытворчых сіл пачынае тармазіць далейшае іх разьвіцьцё, настае супярэчнасьць, якая заўсёды закончваецца, ў канчатковым выніку, ломаньнем старой формы і стварэньнем новай.

Такім чынам самы факт ламаньня старых форм паказвае на тое, што з пэўнага моманту форма пачынае перашкоджаць нарастаньню вытворчых сіл. Учыняючы перашкоду, форма землякарыстаньня праяўляе ступень і сілу ўплыву, якія выражаюцца ў большай ці меншай прыстасавальнасьці да новых спосабаў вытворчасьці. Чым вышэй гэта сіла супраціўленьня, тым больш павінна намножыцца колькасьці процілеглай сілы, у даным выпадку супярэчнасьцяй з новым спосабам вытворчасьці, каб зламаць старую форму. Але зламаўшы яе, вытворчыя сілы не застаюцца бясформеннымі, а прыймаюць новую форму, найбольш адпаведаючую ім. Калі так, дык гэтыя новыя формы, магчыма, у пэўнай меры і да пэўнага моманту будуць спрыяць далейшаму разьвіцьцю сіл, пасьля чаго ізноў настане момант, калі яны зьвяцца неадпавядаючымі ўнутранаму зьместу, і ізноў будуць зломлены, зьменены. Так гістарычна і адбываецца зьмена форм землякарыстаньня, але само сабою зразумела, што яна не адбываецца ізалявана, без зьмены форм на іншых вучастках сацыяльна-гаспадарчага ладу, а ідзе сумесна з імі.

Гэта зьмена форм, як ведома, пры капіталістычным ладзе адбываецца стыхійна, падпарадкоўваючыся сваёй уласнай стыхійнай законамернасьці. У сацыялістычным ладзе яна будзе адбывацца плянава, пры чым плянавасьць будзе зьмяшчацца ня толькі ў простым прадбачаньні будучай формы і сваечасовай замене старое аджыўшае формы землякарыстаньня новай, адпаведаючай данай ступені разьвіцьця вытворчых сіл сельскай гаспадаркі. Гэта зводзіла бы ўсю плянавасьць да „тэхнікі" прышуканьня больш адпаведных форм да працэсу разьвіцьця вытворчых сіл, які ідзе як-бы самастойна. Плянавае будаўніцтва ставіць пытаньне ня толькі „тэхнічна", але і прынцыпова: вясьці самы працэс разьвіцьця вытворчых сіл с.-гасп. ў пэўным мэтавым сацыялістычным напрамку і змагацца супроць стыхійна-капіталістычных тэндэнцый, маючыхся яшчэ ў індывідуальным сэктары с.-гасп. Такім чынам ня проста разьвіцьцё вытворчых сіл, незалежна ад сацыялістычных шляхоў і мэт, а разьвіцьцё ў сацыялістычным напрамку. І з гэтага пункту погляду розныя формы землякарыстаньня будуць неаднолькава прыдатны, чаму пры ацэнцы эфэктыўнасьці форм гэты момант павінен быць прынят пад увагу.

## 2.

Вызначыўшы агульны характар нашага разуменьня эфэктыўнасьці форм землякарыстаньня і прынцыповы бок яе, установім: 1) асноўныя паказальнікі і прыметы эфэктыўнасьці і 2) мэтад атрыманьня іх.

Эфэктыўнасьць форм землякарыстаньня вызначаецца тым уплывам, які робяць яны на стан і разьвіцьцё сельска-гаспадарчай вытворчасьці і вытворных адносін Гэты уплыў можа праявіцца ў тым, што адны і тыя-ж моманты вытворчасьці (арганізацыя тэрыторыі, сродкаў вытворчасьці, працы і г. д.) і вытворных адносін (наймы працсілы, дыффэрэнцыяцыя, кааперавансьць і інш.) пры розных формах землякарыстаньня будуць мець наднолькавы колькасны выраз.

Розьніцы ў становішчы гэтых момантаў у розных формах, напрамак, у якім яны зьмяняюцца, вызначэньне тэмпу зьмены і г. д., зьяўляюцца асноўнымі прыметамі, з якіх належыць выходзіць пры вызначэньні эфэктыўнасьці форм.

Але на становішча і на разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ўплываюць ня толькі формы землякарыстаньня, а адначасова з імі іншыя, больш магутныя фактары і умовы.

Адсюль заходзіць асноўнае і коордынальнае пытаньне мэтадалёгіі тэмы: як выявіць з агульнай масы перакрыжоўваючыхся і перакрываючых адзін другога уплываў тое, што адносіцца да форм землякарыстаньня Якія асаблівасьці з таго, што мы будзем мець у розных вытворчых злучнасьцях, належыць прыпісаць уплыву форм землякарыстаньня. Цяжкасьць гэтай задачы сама сабою відавочна. Перш за ўсё трэба адзначыць, што тут можа ісьці гутарка толькі аб адносным выяўленьні ўплыву форм землякарыстаньня, большай або меншай праўдападобнасьці таго, што можа быць прыпісана ім. Пасільнае вырашэньня задач належыць шукаць:

1) у аналітычным разгляданьні ўплыву форм землякарыстаньня на розныя бакі сельскай гаспадаркі і 2) у дапасаваньні мэтаду ізаляцыі.

Уплыў форм землякарыстаньня на розныя бакі сельскай гаспадаркі неаднолькавы: на адны ён большы, на другія меншы.

Беспасярэдным прадстаўніком форм землякарыстаньня зьяўляецца становішча тэхнічнай арганізацыі тэрыторыі (шмат-дробна-узка-далёкапалосіцы). Але і гэты прадстаўнік больш ці менш бяспрэчны толькі пры параўнаньні розных форм у адных і тых жа прыродных і эканамічных умовах. Адна і тая-ж форма ў розных умовах будзе мець розны колькасны выраз паказаных паказальнікаў тэхнічнай арганізаванасьці тэрыторыі. За гэтым момантам, па ступені ўплыву форм землякарыстаньня, належыць паставіць арганізацыю земляробства і жывёлагадоўлі, у адносінах складу культур, тэхнікі, кормадабываньня і г. д. Тут уплыў форм больш перакрыжоўваецца з уплывам іншых фактараў, але ўсё-ж даволі яўны і мала ўскладнёны. Найбольш зьмешаны ўплыў форм з другімі фактарамі ў агульным рэзультаце гаспадарчай дзейнасьці.

Выяўленьне ўплыву форм на вытворчыя адносіны таксама ўскладняецца з прычыны адначасовага ўплыву на гэта іншых момантаў.

Аналітычнае разгляданьне прымет, па якіх можна меркаваць аб эфэктыўнасьці форм землякарыстаньня дае магчымасьць расьцэньваць іх з пункту погляду большай ці меншай залежнасьці іх ад форм.

Дапасаваньне мэтаду ізаляцыі ўплыву іншых фактараў, акрамя форм землякарыстаньня, мае асабліва важнае значэньне. Калі-б было магчыма зраўнаць усе іншыя фактары і умовы ў раўняемых аб'ектаў, дык усе адмены ў становішчы вытворчасьці і вытворчых адносін у розных формах можна-б было прыпісаць іх уплыву. Але зразумела, што аб дапасаваньні мэтаду ізаляцыі пры эмпірычным дасьледваньні эканамічных зьявішч можна гаварыць вельмі абмежавальна і, само сабою зразумела, не можа быць і гутаркі аб поўным раўнаньні ў вывучаемых аб'ектаў усіх, акрамя форм землякарыстаньня, умоў і фактараў. Аднак у адносінах цэлага

шэрагу апошніх гэта, у некаторай ступені, дасягальна альбо пры выбары аб'ектау, альбо пры распрацоўцы сабранага матар'ялу.

Пры выбары аб'ектаў, першай прадпасылкай некаторай роўнасьці умоў, зьвязаных з прасторам (гал. чын кліматычных умоў, адлегласьці ад рынку і г. д.), зьяўляецца іх тэрытарыяльная блізкасьць. Адсюль вынікае неабходнасьць гнездавога разьмяшчэньня аб'ектаў. Чым бліжэй разьмяшчаны аб'екты, тым больш могуць лічыцца ізаляванымі прыродныя і эканамічныя макро-умовы і фактары. Але таму што самае месцапалажэньне гнязда вызначаецца тыповасьцю яго для сельска-гаспадарчага раёну (гл. ніжэй), а тэрытарыяльная блізкасьць вывучаемых аб'ектаў ня можа быць створана штучна, то выкананьне выказанага вышэй палажэньня не ва ўсіх выпадках магчыма з аднолькавым посьпехам.

Затым, апроч магчымага раўнаньня макроумоў і фактараў, пры выбары аб'ектаў можна, зноў такі ў некаторай ступені, зраўнаць глебавыя адмены, адмены рэльефу, суадносіны абсалютных угодзьдзяў і рэзьмер землякарыстаньня.

Ідучы па лініі выяўленьня момантаў ізаляцыі, неабходна спыніцца на ўзросьце аб'ектаў. Само сабой зразумела, што афармленьне гаспадаркі, перацярпеўшай карэннае арганізацыйнае ламаньне пры пераходзе да новай формы землякарыстаньня, звычайна зьвязанае з утварэньнем новай сядзібнай аселасьці, і выяўленьне асноўных асаблівасьцяй, уласьцівых форме, патрабуе пэўнага часу. Мінімальным тэрмінам дзеля гэтага можна лічыць 5—6 год. У межах-жа 5—6 гадовага тэрміну можна гаварыць толькі аб тэндэнцыях першых крокаў выяўленьня асаблівасьцяй.

Праяўленьне-ж і замацаваньне ўсіх асаблівасьцяй, уласьцівых новай форме, патрабуе большага тэрміну. Хаця трэба мець на ўвазе, што ўзрост неаднолькава ўплывае на ўсе моманты вытворчасьці. Так напр., для арганізацыі тэрыторыі ён мае мінімальнае значэньне, прынамсі ў межах тэрміну сямейных падзелаў.

Ізаляваць поўнасьцю гэты момант ў вывучаемых аб'ектаў, відочна, магчыма, чаму пры параўнальнай ацэнцы паказальнікаў эфэктыўнасьці форм належыць уводзіць карэктыў на ўзрост.

Пры распрацоўцы сабранага матар'ялу асноўнай мэтадычнай прадпасылкай ізаляцыі зьяўляецца агульнае групаваньне для ўсіх форм землякарыстаньня. Гэта дае паставу лічыць тую прымету, па якой зроблена дагрупаваньне, ізаляванай. Акрамя таго, пры распрацоўцы можа быць дапасован цэлы шэраг карэляцыйных і інш. вылічэньняў, якія даюць магчымасьць разважаць аб залежнасьці між тымі ці іншымі прадпасылачнымі і рэзультатыўнымі паказальнікамі эфэктыўнасьці.

### 3.

Пасьля агульнай устаноўкі адпраўных палажэньняў мэтадалёгіі і мэтодыкі вывучэньня, вырашым канкрэтна тры асноўных пытаньні:

1) Эфэктыўнасьць якіх форм будзе вывучацца; 2) у якіх мясцовасьцях БССР будуць выбірацца гнёзда — комплексы форм і 3) для якіх сацыяльна-эканамічных груп будзе зроблена вывучэньне эфэктыўнасьці форм землякарыстаньня.

Формы землякарыстаньня не маюць цьвёрда ўстаноўленага і ўсімі прызнанага азначэньня; адсюль клясыфікацыі іх, даваемыя паасобнымі аўтарамі, не супадаюць, вызываюць цэлы шэраг супярэчаньняў, папраўак і г. д.

Няма адзінай думкі аб форме землякарыстаньня, форме расьсяленьня, парадку землякарыстаньня і г. д.

Не паглыбляючыся ў тэаратычны разгляд гэтага пытаньня, адзначым, што пад формай землякарыстаньня мы разумеем такую злучнасьць сацыяльна-прававых і тэхнічных асаблівасьцяй арганізацыі тэрыторыі зямельнага вучастка, здаваемага землякарыстальніку для вядзеньня сельскай гаспадаркі, у якой колькасьць асаблівасьцяй паказанага парадку выстарчаюча для наданьня ёй новай якасьці (формы). Мы ведаем, што ўсё зьмяняецца і „ўсё цячэ“. Кожная канкрэтна існуючая форма землякарыстаньня ёсьць таксама вучастак працэсу, у якім колькасныя зьмены не настолькі яшчэ вялікія, каб перайсьці ў новую якасьць, у новую форму. У адной і той-жа форме землякарыстаньня, але ўзятай у розных стадыях разьвіцьця, мы знойдзем рознае сацыяльна-прававое і тэхнічнае становішча землякарыстаньня. Яскравым прыкладам гэтаму служыць „эвалюцыя“ хутароў, аб чым сказана ніжэй (разьдзел — арганізацыя тэрыторыі).

З канкрэтна існуючых у БССР форм землякарыстаньня найбольш пашыраны: неземляўпарадкаваныя вёскі, пасёлкі і хутары, у меншай ступені атрубы і ваколіцы. Адпаведна гэтаму найбольш падрабязнаму ў адносінах колькасьці аб'ектаў вывучэньню падлягалі першыя тры формы, якія ўзяты ва ўсіх чатырох гнёздах (гл. ніжэй). Атрубы і ваколіцы вывучаны толькі ў двух гнёздах, бо таму што ў другіх іх ня стала.

Акрамя ўказаных індывідуальных форм землякарыстаньня, вывучаны калектыўныя гаспадаркі (камуны і арцелі) у тых гнёздах, у якіх яны апынуліся паблізу індывідуальных форм. Вывучэньне іх зьяўляецца дапамагаючым і мела мэтай атрымаць матар'ял для некаторых параўнаньняў і больш рэльефнага адцяненьня эфэктыўнасьці індывідуальных форм. Само сабою зразумела, што спэцыяльнае вывучэньне калгасаў, як гэтакіх, патрабуе зусім іншага мэтаду і праграм, паскольку калгасы маюць шмат рэзкіх прынцыповых і тэхнічных адзнак ад індывідуальных гаспадарак.

Эфэктыўнасьць адной і той жа формы землякарыстаньня ў розных прыродных і эканамічных умовах неаднолькава, чаму для дэталёвага выяўленьня параўнальнай эфэктыўнасьці і ўстойлівасьці асаблівасьцяй форм неабходна вывучэньне іх па сельска-гаспадарчых раёнах.

Вывучэньне эфэктыўнасьці ва ўсіх раёнах БССР не ўяўлялась магчымым, таму намі выбраны чатыры рэзка адрозьніваючыяся і антыподна разьмешчаныя раёны: на поўначы—поўдні і захадзе—усходзе, выдзеленыя пры с.-гаспад. раёнаваньні БССР загадчыкам аддзелу с.-г. эканоміі пры НКЗ Беларусі Л. Г. Опра пад назваю: 1) Віцебска-Гарадзецкі, 2) Менска-Слуцкі, 3) Рагачоўскі (ст. Бабруйская акруга) і 4) Палескі (Мазырская акруга). Раёны ахопліваюць асноўныя вытворчыя тыпы сельскай гаспадаркі БССР.

Вывучэньне якіх бы то ні было пытаньняў, зьвязанных з сялянскай гаспадаркай, як вядома, павінна мець на ўвазе пэўную сацыяльна-эканамічную групу.

Гэта пытаньне не зьяўляецца толькі пытаньнем мэтадалёгіі распрацоўкі матар'ялу, куды яго звычайна адносяць, а павінна быць асноўным прынцыповым пытаньнем мэтавай устаноўкі: у адносінах якіх сацыяльна-эканамічных груп праводзіцца вывучэньне прадмету. Мы вядзём вывучэньне эфэктыўнасьці форм землякарыстаньня для трох груп, на якія ўмоўна падзяляем усе сялянскія гаспадаркі па эканамічнай прымеце: разьмеру (па вартасьці) с.-гасп. асноўных сродкаў вытворчасьці на 1-ну гаспадарку. Гэта прымета, хоць сама па сабе ня зьмяшчае сацыяльных момантаў, але яна шчытна зьвязана з імі, што зьяўляецца адным з най-

больш дакладных пабочных паказальнікаў сацыяльнай сутнасьці гаспадаркі, з якою заўсёды карэлююць простыя сацыяльныя прыметы (наём працсілы і інш.). Таму ў некаторай ступені выдзеленыя групы могуць лічыцца прадстаўнікамі: 1) — бядняцкай часткі вескі: 2) — серадняцкай і 3)—заможнай.

Выдзяленьне груп зроблена мэханічна, па вясковай форме землякарыстаньня, з мэтаю мець магчымасьць параўнаньня груп ва ўсіх новых формах землякарыстаньня з „матчынскай“ формай.

Пасьля акругленьня, устаноўленыя па вясковай форме інтэрвалы амаль што прышліся да інтэрвалаў, якія атрымліваюцца пры выдзяленьні груп па злучанасьці гаспадарак усіх форм гнязда.

У групы ўвайшлі гаспадаркі, маючыя с.-гасп. асноўных сродкаў вытворчасьці (руб.):

| | I | II | III |
|---|---|---|---|
| У Віцебскім гнязьдзе . . . | до 450 руб. | 450—1000 | звыш 1000 (максімум 2065 р.) |
| У Менска-Слуцкім гнязьдзе . | „ 500 „ | 501—1000 | 1000-2000 (выдзелена чацьвёрт. група звыш 2000 р.) |
| У Бабруйскім „ . | „ 350 „ | 351— 800 | зв. 800 (максімум 1863 р.) |
| У Мазырскім „ . | „ 300 „ | 301— 700 | „ 700 (максімум 1657 р.) |

Апрача паказаннага групаваньня для некаторых супастаўленьняў і вывадаў, выдзелены таксама 3 групы па с.-гасп. плошчы на 1 гаспадарку з наступнымі інтэрваламі (га):

| | I | II | III |
|---|---|---|---|
| У Віцебскім гнязьдзе . . . . . | да 6,0 | 6,01—13,0 | зв. 13,0 |
| У Менска-Слуцкім гнязьдзе . . . | да 5,5 | 5,51—11,00 | „ 11,0 |
| У Бабруйскім „ . . . | да 6,0 | 6,01—12,0 | „ 12,0 |
| У Мазырскім „ . . . | да 5,5 | 5,51—10,0 | „ 10,0 |

## Плян і мэтодыка дасьледваньня

### I.

Матар'ял сабран экспэдыцыйным шляхам улетку 1927 г. Адзінкамі дасьледваньня ў кожнай форме землякарыстаньня зьяўляліся:

1) Селішча альбо група хутароў і 2) паасобныя двары ў межах. селішча. Дасьледваньне (апытаньне) рабілася па трох фармулятарах: 1) „паселішчнай манаграфіі“, 2) падворнай картачцы і 3) аграрна-бюджэтнаму блянку. Усе фармуляры складзены аўтарам, зумесна з дацэнтам. Я. А. Кісьляковым, праводзіўшым у тым-жа годзе спэцыяльнае вывучэньне пасёлкаў (оптымум тэрыторыі і эфэкт земляўпарадкаваньня).

Не кранаючы зьместу фармуляраў адзначым, што агулам яны займаюць каля 50 стар. і па грунтоўных разьдзелах (а падворка цалкам)

пабудаваны ў дынамічным разрэзе, г. зн. ахопліваюць момант да пераходу да новай формы землякарыстаньня і цяпер, у год дасьледваньня. Асноўнай мэтадычнай умовай пры выбары паселішч (альбо груп хутароў) усяго комплексу форм у кожным з намечаных с.-гасп. раёнаў зьяўлялась іх тэрытарыяльная блізкасьць (гнездавое разьмяшчэньне). Гэта з аднаго боку, з другога,—відочна, гнёзды павінны былі быць выбраны ў мясцовасьцях тыповых для с.-гасп раёнаў, з найбольш яскрава выяўленымі вытворчымі тыпамі, каб мець некаторую падставу пашыраць атрыманыя пры дасьледваньні вывады на большы лік аб'ектаў. З гэтай мэтай намі загадзя быў вывучан маючыйся статыстычны матар'ял і матар'ял па с.-гасп. раёнаваньню (валастныя паказальнікі).

На аснове гэтага вывучэньня былі выдзелены наступныя адміністрацыйныя рэёны для дасьледваньня: 1) У Віцебска-Гарадзецкім с-гасп. раёне—Сіроцінскі (быўш. Мішневіцкая валасьць), 2) у Менска-Слуцкім—Грэскі (часткі быўш. валасьцяй Ленінскай, Грозаўскай і Пукаўскай), 3) у Рагачоўскім—Гарадзецкі (б. Перкулевіцкая вол.) і 4) Палеска-Петрыкоўскі раён (быўш. Грабаўская, Камаравіцкая і Петрыкоўская вол.).

Пасьля экспэртнай ацэнкі выбраных пунктаў, на месцы былі пасланы спэцыяльныя асобы для папярэдняга збору матар'ялаў (падатковых сьпісаў, зьвестак аб разьмяшчэньні паселішч з рознымі формамі землякарыстаньня, схэматычных глебавых рысункаў і г. д.) і праверкі зробленых меркаваньняў праз мясцовых спэцыялістых. Сабраны такім чынам матар'ял, дапоўнены маючыміся ў С.-Г. Акадэміі пры габінэце статыстыкі зьвесткамі, даў магчымасьць намеціць больш-менш дакладна тыя паселішчы, якія павінны былі падпасьці дасьледваньню. Паселішчы выбіраліся з магчымым захаваньнем роўнасьці адлегласьці ад рынку, глебавых асаблівасьцяй і тыповыя для раёну па ліку двароў, землякарыстаньню і суадносінам абсалютных угодзьдзяў. Пры гэтым асаблівая перавага аддавалася формам, утвораным з аднаго „матчынскага“ паселішча, напр., вёска з пасёлкамі і хутарамі, якія выйшлі з яе і г. д. Пасьля выезду на месцы, выбраныя пункты яшчэ раз узгадняліся з мясцовымі зямпрацаўнікамі. Пры дасьледваньні ў натуры частка намечаных паселішч прышлося замяніць новымі, таму што іх тыповасьць, а іншы раз і форма землякарыстаньньня не адпаведалі таму, што лічылася ў папярэдніх сабраных матар'ялах. Тэрыторыі (гнёзда) дасьледваньня не перавышалі: у Віцебскім пункце 10 $\times$ 5 км, Менска-Слуцкім 26 $\times$ 10 км., Бабруйскім 8 $\times$ 4 км. і Мазырскім 50 $\times$ 10 км.

Для агра-бюджэтнага апісаньня двары выбіраліся ў кожнай эканамічнай групе тыповыя па разьмеру с.-гасп. асноўных сродкау вытворчасьці на 1 гасп., землязабясьпечанасьці і ліку едакоў. Акрамя таго прыймалася пад увагу ўстойлівасьць гаспадаркі, адсутнічаньне гаспадарчых узрушэньняў за апошнія 2—3 гады, магчымасьць атрымаць зьвесткі і інш. другародныя прыметы. Бюджэтны год лічыўся з красавіка 1926 па красавік 1927 г. Разьбіўка на сацыяльна-эканамічныя групы і выбар бюджэтных гаспадарак рабіліся пасьля падворнага дасьледваньня.

## 2.

Колькасьць аб'ектаў дасьледваньня намечалась наступная: 1) меркавалася браць у кожным гнезде па 2 паселішчы кожнай формы землякарыстаньня, з складаньнем на іх манаграфій, 2) у межах узятых паселішч дасьледваць скрозь усе двары па падворцы (за выключэньнем вёса Бабруйскага і Мазырскага гнёзд, дзе з прычыны многадворнасьці ўзяць толькі 50% двароў і 3) у вёсках, пасёлках і хутарох кожнага

гнезда скласьці па 6 аграбюджэтных апісаньняў, па 3 з кожнай сацыяльна-эканамічнай групы; для атрубоў скласьці па 4 апісаньні (2 на сярэднія гасп. і па 1 на крайнія) і для ваколіц па 2 апісаньні (на сярэднія гаспадаркі). У адносінах падворак і аграбюджэтных апісаньняў намечаныя меркаваньні больш-менш выкананы, толькі ў колькасьці бюджэтаў для Мазырскіх хутароў зроблена вялікае адступленьне, узята бюджэтаў больш, чым меркавалася, што тлумачыцца тэрытарыяльнай раскіданасьцю хутароў, якая патрабавала для ўтварэньня тыповай злучанасьці большага ліку аб'ектаў. Што-ж датычыцца ліку паселішч, то ў многіх выпадках яго прышлося павялічыць, таму што разьмер паселішч у асаблівасьці пасёлкаў і хутарскіх груп, па ліку двароў быў іншы раз настолькі малы, што два паселішчы было-б занадта недастаткова для аналізу.

**Усяго сабрана матар'ялу**

Табліца 1.

| ГНЁЗДЫ | Селішчных манаграфій | | | | | | Падворак | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Вёскі | Ваколіцы | Пасёлкі | Хутары | Калгасы | Усяго | Вёскі | Ваколіцы | Пасёлкі | Атрубы | Хутары | Усяго |
| Віцебскае . . . . | 2 | — | 4 | 2 | 2 | 10 | 65 | — | 34 | 28 | 72 | 199 |
| Менска-Слуцкае . . | 2 | 2 | 3 | 2 | 2 | 11 | 104 | 25 | 54 | 20 | 56 | 259 |
| Бабруйскае . . . . | 2 | — | — | 3 | — | 5 | 72 | — | 29 | — | 83 | 184 |
| Мазырскае . . . . | 2 | 1 | 2 | 2 | 2 | 9 | 63 | 16 | 28 | — | 90 | 197 |
| Разам . . . . | 8 | 3 | 9 | 9 | 6 | 35 | 304 | 41 | 45 | 48 | 301 | 839 |

| ГНЁЗДЫ | Бюджэтаў | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Вёскі | Ваколіцы | Пасёлкі | Атрубы | Хутары | Калгасы | Усяго |
| Віцебскае . . . . | 7 | — | 6 | 4 | 6 | 2/6 | 25/6 |
| Менска-Слуцкае . . | 6 | 2 | 6 | 4 | 6 | 2/6 | 26/6 |
| Бабруйскае . . . . | 7 | — | 4 | — | 7 | — | 18 |
| Мазырскае . . . . | 5 | 2 | 7 | — | 13 | 2/6 | 29/6 |
| Разам . . . . | 25 | 4 | 23 | 8 | 32 | 6/18 | 98/18 |

**Увага:** 1. У бюджэтах калгасаў паказаны ў лічніку поўныя бюджэты, узятыя для ўсяго калгасу, у назоўніку кароткія—для членаў.
2. Матар'ял па Бабруйскіх пасёлках сабран экспэдыцыяй Я.А. Кісьлякова.
3. Падрабязныя дадзеныя аб матар'яле дасьледваньня прыведзены ў табл. № 1 і 15 дадаткаў.

Асобна належыць прывесьці дадзеныя аб колькасьці дынамічных падворак, у новых індывідуальных формах землякарыстаньня. Атрымаць зьвесткі аб тым становішчы, якое было ў гаспадарцы перад выхадам з вёскі на пасёлак, отруб альбо хутар, удалося толькі ў частцы дасьледваных гаспадарак і то з вялікай цяжкасьцю, і, магчыма, нявысокай дакладнасьцю, асабліва ў дарэвалюцыйных хутарох і атрубох.

Табліца 2.

| ГНЁЗДЫ | Пасёлкі | | | | | Хутары | | | | | Атрубы | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | Усяго | Узрост год | I | II | III | Усяго | Узрост год | II | Узрост год |
| Віцебскае . . . | 5 | 20 | 7 | 32 | 2 | — | 18 | 3 | 21 | 9 | 6 | 13 |
| Менскае . . . . | 11 | 12 | 3 | 26 | 2,5 | 2 | 3 | 11 | 16 | 14 | 4 | 13 |
| Бабруйскае . . | — | 10 | 6 | 16 | 3,5 | 3 | 23 | 12 | 38 | 7,5 | — | — |
| Мазырскае . . . | 4 | 7 | — | 11 | 4,0 | — | — | — | — | — | — | — |
| Разам . . . | 20 | 49 | 16 | 85 | 3 | 5 | 44 | 26 | 75 | 10 | 10 | 13 |

Гэткая наяўнасьць дынамічнага матар'ялу прымушае быць вельмі асьцярожным у спасыланьні на яго; самая-ж выпадковасьць савакупнасьцяй дазваляе браць толькі простыя сярэднія.

Адзначым узрост вывучаемых аб'ектаў. Па зусім зразумелым прычынам узяць для дасьледваньня ўсе аб'екты аднолькавага ўзросту не ўяўлялася магчымым. Вёскі і ваколіцы маглі быць толькі старыя, пасёлкі і калгасы пасьлярэвалюцыйнага пахаджэньня. Атрубы і хутары абодвых пэрыядаў; з мэтаю мець матар'ял з ізаляцыяй узростнага моманту па асноўных новых індывідуальных формах, пасёлках і хутарох, апошнія вывучаліся двух пэрыядаў: да і пасьля-рэвалюцыйныя. Але, на жаль, апошніх удалося ўзяць нямнога, чаму нельга было скарыстаць для ўсіх момантаў аналізу.

Падрабязна ўзрост усіх форм землякарыстаньня паказан у табл. 1.

Наогул-жа адзначым наступнае: пасёлкі маюць ад 2 да 5 год, у сярэднім-жа, па ўсіх чатырох гнёздах, некалькі вышэй 3 год. Такі-ж сярэдні ўзрост маюць калгасы. Атрубы ўсе дарэвалюцыйнага пахаджэньня (1912—13 г.г.). Хутары на 70% таксама дарэвалюцыйнага пахаджэньня; сярэдні ўзрост іх каля 12 гадоў (для бюджэтных хутароў=10 г.). Пасьлярэвалюцыйныя хутары маюць у сярэднім каля 4 год (1922 — 24 г.г.). Вялікі процант „маладых“ узят у Бабруйскім гнязде (каля 60%).

У час дасьледваньня на месцох увесь матар'ял падлягаў крытыцы з боку кіраунікоў груп; за тым перад распрацоўкай ён зноў быў падлеглы фармальнай крытыцы і параўнаваньню аналягічных даных у манаграфіі, падворцы і бюджэтцы. Акрамя таго бюджэты дакладна былі выверaны па цэламу шэрагу момантаў вытворчасьці (высяву, кармленьню, выдатках працы і інш.) з нарматыўнымі дадзенымі для ўстанаўленьня яўна сапсутых запісаў. У канчатковым рэзультаце былі забракаваны 9 падворак і 3 бюджэты. Астатні матар'ял палічан здавальняючым і пайшоў у распрацоўку.

## Распрацоўка матар'ялу

Падробнай распрацоўцы падпалі падворкі і бюджэты; паселішчныя манаграфіі спэцыяльна не распрацоўваліся, але іх даныя скарыстованы для характарыстыкі і падмацаваньня шэрагу палажэньняў.

Распрацоўка вялася паасобна па кожнаму гнязду, у межах гнязда па формах землякарыстаньня, а ў межах форм па сацыяльна-эканамічных групах і часткова па асобных паселішчах. Сацыяльна эканамічных груп, як адзначана вышэй, выдзелена тры, па двух прыметах: с.-гасп. асноўных сродках вытворчасьці і с.-гасп. плошчы; акрамя таго ў Менскіх хутарох па першай прымеце выдзелена чацьвёртая група, маючая звыш 2000 р. на 1 гаспадарку.

Матар'ял падворных фармуляраў апрацован у выглядзе 14 табліц, якія дадзены ў канцы тэксту.

Спынімся на паясьненьні некаторых паасобных табліц. Таб 2—элемэнты абагульненьня, і I частка таб. 3 — элемэнты дыфэрэнцыяцыі, I-я частка таб. 7—арганізацыя тэрыторыі і табл. 8—выдаткі па земляўпарадкаваньню, складзены па дадзеных, распрацаваных быўш. асьпірантам пры катэдры с.-гасп. Эканоміі Беларуск. С.-Гасп. Акадэміі Б. С. Бойка, прарабіўшым распрацоўку часткі матар'ялу па спэцыяльнаму даручэньню Наркамзема БССР, прычым па пасёлках Бабруйскага гнязда ім скарыстаны былі ўсе падворкі, сабраныя экспэдыцыяй дацэнта Я.А. Кісьлякова.

У табл. 4—наём працоўнай сілы, перавод ва ўзрослых едакоў і працаўнікоў (мужчын „М") зроблен па каэфіцыентах прынятых у Цэнтральн. Стат. Упр. (ЦСУ).

Табл. 9-а, 11-б, 13-в і 14-б складзены па дынамічных падворках (гл. вышэй плян і мэтодыка дасьледваньня). У іх прыведзены толькі розьніцы паміж тым, што было ў момант пераходу да новай формы землякарыстаньня і сучасным становішчам.

Пры складаньні табл. 12-а і 12-б, прадукцыйнасьць земляробства, „валавы збор у руб." вылічан па тых жа цэнах, якія былі прыняты пры распрацоўцы бюджэтаў (гл ніжэй).

Матар'ял бюджэтных фармуляраў распрацован па рахункаводнаму мэтаду; прынятыя пры распрацоўцы цэны на с.-гасп. прадукты (таб. 23) устаноўлены па матар'ялах данага дасьледваньня (паселішчных манаграфіях і бюджэтных дадзеных) і пракарэктаваны па дадзеных ЦСУБ за 1926—27 г. Падзённая цана на працоўную сілу ўстаноўлена па сярэдняй рыначнай цане (наём у саўгасах і сялянскіх гаспадарках) у адзін руб. за працоўны дзень дарослага працаўніка („М"). Гной ацэнен 15 кап. за 1 цэнтнер.

Увесь бюджэтны матар'ял падрахован у табл. №№ 15—22, у якіх зьвесткі даны па кожнаму бюджэту асобна. Растлумачым складаньне некаторых табліц: у табл. № 15 у графах „групы па разьмеру" паказаны групы па агульнаму групаваньню, устаноўленаму пры распрацоўцы падворак, для групаваньня-ж бюджэтаў, у межах форм, патрэбна зьвярнуцца да табл. 18 (сродкі вытворчасьці) і табл. 20 (зямельная плошча ў бюджэтным годзе).

У табл. 18 перавод у дарослых працаўнікаў зроблен па каэфіцыентах ЦСУ.

Табл. 21 (прыбытак ад сельскай гаспадаркі: а) арганізацыйна вытворчая структура): вызначэньне „валовай прадукцыі брутто" дадзена ў разьдзеле тэксту „Агульны эфэкт вытворчасьці". Там жа дадзена вызначэньне „чыстай астачы". Сельска-гасп. прыбытак сям'і ад земля-

робства, жывёлагадоўлі і ўсей сельскай гасп. вылічан як сума „чыстай астачы“ і каштоўнасьць аплаты свае працоўнае сілы. Табл. 21 [б) „Народна-гаспадарчая структура“] складзена так: У валавую прадукцыю брутто ўвайшла валавая прадукцыя земляробства і жывёлагадоўлі (з табл. 21-а) і прадукцыя працоўнай жывёлы (з табл. 19). Адымаючы ад „валавай прадукцыі брутто“ выдаткі ўнутры-гаспадарчага звароту, атрымоўваем „валавую прадукцыю нэтто“; адымаючы ад яе ўсе іншыя выдаткі (акрамя аплаты працоўнай сілы) атрымоўваем „валавы прыбытак“. Выключаючы з апошняга зарплату свае і найманай працоўнай сілы маем „чысты прыбытак“, з якога адыманьнем арэнднай платы і падаткаў атрымоўваем чыстую астачу (табл. 31-а).

Табл. 22 (сярэдняя паказальнікі): „зямельная рэнта“ на 1-га вылічана як розьніца паміж „чыстым прыбыткам“ (табл. 21-б) і % на завязаныя ў сельскай гаспадарцы сродкі вытворчасьці. „Рэнта вытворчасьці“ на 1 гасп. вылічана так: „чыстая астача“ мінус % на завязанныя сродкі вытворчасьці. Пры вылічэньні ўсюду бралася 6%. Вызначэньне паняцьцяў як па табл. 21-б, так і табл. 22 дадзена ў разьдзеле тэксту „агульны эфэкт вытворчасьці“.

# СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧАЯ ВЫТВОРЧАСЬЦЬ

## Арганізацыя тэрыторыі

1.

**Найбольшы ўплыў формы землякарыстаньня робяць на арганізацыю тэрыторыі. Гэты бок агульнай арганізацыі с.-гасп. вытворчасьці зьяўляецца як-бы непасрэдным прадстаўніком форм, чаму вытворчая эфэктыўнасьць арганізацыі тэрыторыі (яе тэхнічнага боку) можа з найбольшай падставай лічыцца эфэктыўнасьцю форм землякарыстаньня.**

**Разгледзім уплыў форм на арганізацыю тэрыторыі с наступных бакоў: 1) тэхнічнай арганізаванасьці тэрыторыі і 2) складу ўгодзьдзяў.**

**У тэхнічнай арганізаванасьці тэрыторыі найбольш важнае значэньне маюць наступныя моманты:**

1. Раздробленасьць тэрыторыі (цераспалосіца);
2. Працяжнасьць тэрыторыі (дальназямельле).

**Раздробленасьць тэрыторыі можна ахарактарызаваць двума паказальнікамі: а) колькасьць палос на адну гаспадарку (шматпалосіца) і б) разьмерам палос (дробнапалосіца).**

**Раздробленасьць тэрыторыі**

Табліца 3.

| ПУНКТЫ | Лік палос на 1 г-ку | | | | Лік палос на 1 га | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Вёскі | Пасёлкі | Атрубы | Хутары | Вёскі | Пасёлкі | Атрубы | Хутары |
| Віцебскі . . . . | 101 | 15 | 7 | 12 | 14 | 2 | 2,2 | 1,5 |
| Менскі . . . . | 18 | 12 | 7 | 3 | 3,1 | 2 | 0,5 | 0,4 |
| Бабруйскі . . . | 51 | 25 | — | 4 | 6,4 | 2,9 | — | 0,5 |
| Мазырскі . . . | 16 | 9 | — | 8 | 4 | 1,3 | — | 1,4 |

**Пры вывучэньні раздробленасьці тэрыторыі належыць адрозьніваць раздробленасьць двух відаў: а) знадворную і б) унутраную.** Пад знадворнаю раздробленасьцю разумеецца намі такая раздробленасьць, калі палосы (вучасткі) аднаго землякарыстаньня цераспалосны з вучасткамі другіх угодзьдзяў у межах аднаго і таго-ж землякарыстаньня. Нас у даным выпадку цікавіць знадворная раздробленасьць. Падрабязныя дадзеныя прыведзены ў табл. № 7 (дадат). Тут жа пакажам адносную зьмену шматпалосіцы па пунктах гнёздаў.

**Перш за ўсё патрэбна адзначыць даўно назіраемы і звычайны факт: вельмі высокую шматпалосіцу ў вёсках, значна меншую ў пасёлках, яшчэ меншую ў атрубох і мінімальную на хутарох. Зварочвае на сябе**

ўвагу тая акалічнасьць, што ў Віцебскім і Мазырскім пунктах хутары ўладаюць большай шматпалосіцай і мелкапалосіцай.

На гэтым зьявішчы, ўяўляючым вялікую цікавасьць з пункту погляду працэсу ўтварэньня форм землякарыстаньня, належыць застанавіцца. Пры дасьледваньні форм у Віцібскім гнязьдзе быў выяўлен цэлы шэраг старых хутароў, якія ўтварыліся яшчэ ў дарэвалюцыйны час і якія зрабілі некалькі гадоў таму назад сямейныя падзелы. Пры падзеле зямельны вучастак дзяліўся па тыпу абшчынных перадзелаў, г. зн. было зроблена раўнаньне якасьці зямлі ў натуры, і новыя гаспадаркі карыстаюцца зямлёю церасьпалосна. Такім чынам „адзіныя і цэльныя" да гэтага часу хутары абярнуліся як бы ў маленькія пасёлкі, паўтарыўшы на нашых вачох дапушчальную гісторыю расьсяленьня ў цэлым шэрагу паўночных і паўночна-заходніх вобласьцяй эўрапэйскай часткі СССР. Асабліва цікава адзначыць у гэтым факце тое, што падзелы хутароў пайшлі па даўнейшаму, „гістарычнаму" шляху ўтварэньня церасьпалосных гаспадарак, а не па лініі ўтварэньня хутарскіх-жа вучасткаў альбо сумеснага землякарыстаньня па тыпу калякатыўных гаспадарак.

Апошняе, здавалася, можна было-б чакаць скарэй, бо таму што немалаважным стымулам для падзелу зьяўлялася падатковая палітыка, стварыўшая ў некаторых выпадках форму падзелаў для „знадворнага" дапасаваньня, але ў даным выпадку сама тэхніка падзелу паказвае, што гэтакі зроблен „сур'ёзна" і надоўга.

Намножаныя „сямейныя вытворчыя сілы" зламалі цесную для іх форму землякарыстаньня, але нічога прагрэсыўнага, новага не ўнясьлі ў гэтае перабудаваньне, а пашлі па стараму шаблённаму рэгрэсыўнаму шляху. Гэта надзвычайна паказальна для хутарской формы землякарыстаньня, маючай вельмі блізкія прадзелы свайго прагрэсыўнага разьвіцьця. Хутарская форма дала тут усё, што яна магла даць разьвіваючымся ў сям'і сілам, больш яна нічога не магла даць і ў рэзультаце шуканьне новых форм, якое пры наяўнасьці адпавядаючых умоў, накіроўваецца па стараму шаблённаму шляху.

Тут, у Віцебскім с.-гаспад. раёне, старым хутарскім гнязьдзе, утварыўшымся яшчэ ў 70 г. г. мінулага стагодзьдзя, мы бачым канчатковую фазу хутарскога разьвіцьця, „натуральную сьмерць" формы—дэхутарызацыю. Дыямэтральна процілеглы момант аднаго і таго-ж працэсу „эвалюцыі хутароў" установлен намі ў больш маладым у хутарскіх адносінах раёне — Палескім. Тут пры дасьледваньні намі таксама знойдзены церасьпалосныя хутары, якія разьвіліся ў рэзультаце „самацечнай хутарызацыі" у рэвалюцыйны час і няскончыўшыя яшчэ працэсу зьбіраньня церасьпалосных вучасткаў да аднаго месца. Высяліўшыйся на свой найбольш буйны і удобна разьмешчаны вучастак, землякарыстальнік камасіруе астатнія належачыя яму вучасткі шляхам абмену куплі (ў мінулы час) і інш. Такім чынам гэтае зьявішча можа быць названа пачатковай стадыяй хутарызацыі. Церасьпалосныя хутары сустракаюцца і ў Менскім гнязьдзе, але тут яны зьяўляюцца рэзультатам зьмешанага працэсу; з аднаго боку распаду, з другога—утварэньня хутароў.

Як вялікія гэтыя працэсы па ліку захопленых імі аб'ектаў. Да некаторай ступені аб гэтым можна судзіць па таму, які процант ад ўсіх дасьледваных намі хутароў, складаюць так званыя церасьпалосныя хутары. да якіх аднесены хутары. маючыя больш 3-х вучасткаў (гл. табл. 7 дадатак). Церасьпалосныя хутары складаюць ад усіх дасьледваных хутароў: 1) у Віцебскім с.-гасп. раёне 24%, 2) Менска-Слуцкім—28% і 3) Палескім 59%.

Вясковая шматпалосіца найбольш яскрава выяўлена ў Віцебскім с.-г. раёне, у напрамку на поўдзень, яна паменшаецца. Гэта зьявішча павінна было бязумоўна адбіцца як на тэмпе пераходу да новых форм землякарыстаньня так і на выбары саміх форм землякарыстаньня па с.-г. раёнах.

Землякарыстальнік, зусім разумеючы гаспадарчую шкоднасьць шматпалосіцы будзе тым больш імкнуцца збавіцца ад яе, чым яскравей яна выяўлена. Гэта імкненьне будзе праяўляцца ва ўзмоцненай комасацыі землякарыстаньня, якая знойдзе свае выяўленьне ў ліку земляўпарадкаваных гаспадарак (колькасны момант) і ў выбары такое формы землякарыстаньня, якая найбольш адрозьніваецца ў адносінах шматпалосіцы ад неземляўпарадкаванай вёскі (якасны момант), якою ва ўмовах дарэвалюцыйных зьяўлялася хутарская форма.

Гэты момант часткова аб'ясняе „староннасьць“ Віцябчан да хутароў.

Па асобных сацыяльна-эканамічных групах, у межах адной і той-жа формы землякарыстаньня, шматпалосіца мае розныя хістаючыяся паказальнікі і не праяўляе ўстойлівай тэндэнцыі: у адных выпадках яна павялічваецца з узбуйненьнем гаспадаркі, у другіх наадварот памяншаецца (табл. 7 дадат.).

Шматпалосіца асноўных угодзьдзяў, пахаці і сенажаці розна. Як правіла, ва ўсіх формах землякарыстаньня ўсіх гнёздаў (за выключэньнем 1—2 выпадкаў) паказальнік шматпалосіцы сенаж. ніжэй паказальніка пахаці; найбольш часта сустракаючыйся стасунак паміж імі=1:0,4 — 07, г. з. лік вучасткаў сенажаці на 1 гасп. ў $1^1/_2$—2 разы меншы пахаці.

Дробнапалосіца, вымераемая лікам палос на 1 гэктар, наагул для сярэдняй сялянскай гаспадаркі па с.-гасп. раёнах паўтарае амаль поўнасьцю малюнак шматпалосіцы, за вельмі невялікімі выключэньнямі. Гэта зусім зразумела, паскольку зямельная плошча сярэдніх гаспадарак у розных формах мала адрозьніваецца адна ад другое. Па ўгодзьдзях, пахаці і сенажаці таксама адтрымліваюцца пахатныя на шматпалосіцу паказальнікі, г. зн. лік вучасткаў пахаці і сенажаці на 1 гэктар знаходзіцца прыкладам у тых-жа суадносінах, як і на 1 гаспадарку.

Але зусім іначай ідзе справа пры разгляданьні дробнапалосіцы па эканамічных групах. Пры адсутнічаньні ўстойлівага становішча з шматпалосіцай, у розных эканамічных групах, мы бачым зусім вызначаную тэндэнцыю ў адносінах да дробнапалосіцы. Як правіла, яна паменшаецца з узбуйненьнем гаспадаркі.

Адносіны ліку палос на 1 гэкт.

Табліца 4.

| | Вёска | | Пасёлак | | Хутар | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пахаць | Сенажаць | Пахаць | Сенажаць | Пахаць | Сенажаць |
| I. Дробныя г—кі . . | 195 | 170 | 150 | 215 | 170 | 275 |
| II. Сярэднія „ . . | 130 | 125 | 125 | 135 | 110 | 245 |
| III. Буйныя „ . . | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |

З памяншэньнем разьмеру гаспадаркі паменшаецца і разьмер паасобных вучасткаў—палос ва ўсіх формах землякарыстаньня. У вёсцы дробныя гаспадаркі знаходзяцца ў лепшым становішчы ў параўнаньні з



буйнымі ў адносінах сенажацяй, чымся ў пасёлках, а тым больш у хутарох, дзе асабліва рэзка адасобілася буйная група.

У адносінах пахаці хістаньні значна меншыя. Такім чынам „дыфэрэнцыяцыя" ў гэтым моманце арганізацыі тэрыторыі больш праявілася на хутарох, дзе буйныя гаспадаркі маюць яўна спрыяючае становішча. Паказальнік дробнапалосіцы важны ў тых адносінах, што ён выкрывае нам запраўднае становішча і значэньне раздробленасьці тэрыторыі ў розных эканамічных групах сялянскіх гаспадарак. Разгляданьне адной толькі шматпалосіцы без падліку разьмеру землякарыстаньня яшчэ мала гаворыць аб велічыні той гаспадарчай страты, якую ўчыняе раздробленасьць тэрыторыі.

Шматпалосіца асабліва шкодна ў злучэньні з дробнапалосіцай, калі кожны вучастак настолькі малы, што пры адным выезьдзе ў поле, ня можа запоўніць усяго часу да звычайнага (у абед альбо ўвечары) звароту да двору, што прымушае траціць час на пераезды з вучастка на вучастак альбо дачасныя перапынкі працоўнага дня і зварот да двору. Само сабою зразумела, што шматпалосіца і без паказанага моманту мае свае, уласьцівыя ёй „абсалютныя" недахопы, асабліва пры дапасаваньні буйных машын, трактароў і пры такой арганізацыі работ, калі палявая работа ня моцна зьвязана з сядзібай і не патрабуе штодзённага звароту да яе (напр. арганізацыя па тыпу машына-трактарных станцый, зерневых саўгасаў з палявымі шатрамі і гэтак далей), але гэта ўжо другі бок пытаньня.

Ва ўсякім выпадку ў дробнапалосіцы ў большай ступені захован момант эканамічнай перавагі буйных заможных гаспадарак над бедняцкімі, чымся ў шматпалосіцы, што бачна з прыведзеных даных.

2.

Працягласьць тэрыторыі характарызуецца намі: 1) вузкапалосіцай[1]) вымераемай суадносінамі даўжыні да шырыні і 2) дальназямельлем г. з. адлегласьцю зямельных угодзьдзяў ад гаспадарчага цэнтру, сядзібы. Паказальнікам гэтага моманту зьяўляецца сярэдняя адлегласьць, вызначаемая як дзель ад дзяленьня на лік вучасткаў сумы ўсіх адлегласьцяй, на якой знаходзяцца цэнтры асобных вучасткаў, што ўваходзяць у землякарыстаньне, ўзважанай на велічыню перасоўваемага да іх і ад іх цяжару.

Становішча гэтых паказальнікаў бачна з наступнай табліцы (дальназямельле па бюджэтных фармулярах).

Табліца 5.

| ПУНКТЫ | Дальназямельле у кілёмэтрах | | | | Вузкапалосіца | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Вёскі | Пасёлкі | Атрубы | Хутары | Вёскі | Пасёлкі | Атрубы | Хутары |
| Віцебскі . . . . | 0,64 | 0,22 | 0,62 | 0,16 | 42 | 6 | 3 | 3,0 |
| Менскі . . . . | 0,70 | 0,39 | 1,08 | 0,24 | 195 | 11 | 6 | 3 |
| Бабруйскі . . . | 1,70 | 0,97 | — | 0,55 | 60 | 16 | — | 4 |
| Мазырскі . . . | 1,21 | 1,15 | — | 0,83 | 12 | 7,0 | — | 4,0 |

[1]) У адносінах паказальніка вузкапалосіцы неабходна адзначыць, што ён зьяўляецца мала надзейным, бо таму што атрыман з вельмі абмежаванай колькасьці матар'ялу (часткаю з паселішчных манографій, часткаю з бюджэтаў) і праводзіцца намі з ілюстрацыйнай мэтай бяз усякай прэтэнзіі на якія-небудзь агульныя вывады.

Па дальназямельлю рэзка выдзеляюцца дзьве групы: 1) Мазырскае і Бабруйскае гнёзда з высокім паказальнікам дальназямельля ва усіх асноўных формах (вёсцы, пасёлку і хутары) і 2) Віцебскае і Менскае з больш спрыяючым становішчам рэчаў. Сярэднія паказальнікі па агульных групах гнезд раўняюцца:

у вёсках 1,4 км. і 0,67 км. стасунак 1:2
у пасёлках 1,1 км.—0,30 км. „ 1:4
у хутарох 0,7 км.—0,20 км. „ 1:23,5

Такім чынам эфэктыўнасьць новых форм землякарыстаньня ў інтэнсыўных раёнах (Віцебскім і Менскім) у адносінах гэтага паказальніка вышэй, чымся у экстэнсыўных.

Тлумачэньне становішчу дальназямельля трэба шукаць з аднаго боку ў асаблівасьцях таго працэсу ўтварэньня новых форм землякарыстаньня, які мы застаем зараз у розных с.-г. раёнах, а з другога і, галоўным чынам, у натуральна-гістарычных умовах, зрабіўшых уплыў на спосаб расьсяленьня і асьваеньня выгодных зямель. Першыя: г. зн. асаблівасьці ўтварэньня форм даюць нам тлумачэньне адносна становішча хутарской формы ў разглядаемых намі раёнах. У Віцебскім і часткова ў Менска-Слуцкім раёнах хутары большаю часткай „нармальныя" альбо-ж распаўшыяся, але ў межах вузкіх мерак нармальнага хутарскога вучастку, што, пагоршыўшы становішча іх у адносінах шмат-дробна-вузкапалосіцы, ні чуць не зрабіла ўплыву на павялічэньне дальнапалосіцы г. значыць палёў ад сядзібы.

У Мозырскім-жа гнязьдзе мы маем большаю часткаю цераспалосныя хутары, зьявіўшыяся рэзультатам не канчатковай стадыі, „эвалюцыі" хутара, а пачатковай, чаму ў іх і ў адносінах дальназямельля больш сходнасьці з вёскамі, сваею мацярынскаю формаю.

Прыродна-гістарычныя умовы зрабілі ўплыў на гэты момант арганізацыі тэрыторыі перш за ўсе праз разьмер паселішч (вёсак), які вельмі розны у розных сельска-гаспадарчых раёнах і бязумоўна адбіўся на разьмеры новых утварэньняў—пасёлкаў. Відочна, што чым большы разьмер паселішча і агульная плошча яго зямельнага вучастку, тым далей будуць аддалены палі ад сядзібы пры іншых роўных становішчах арганізацыі тэрыторыі.

Сярэдні разьмер вёсак і пасёлкаў па маючыхся ў нас зьвестках у раёнах абслугоўваньня прыкладам наступны:

Табліца 6.

| Р А Ё Н Ы | Двароў у вёсцы | У пасёлку | |
|---|---|---|---|
| | | Двароў | Гэктараў |
| Віцебскі | 18 | 7 | 50 |
| Менскі | 53 | 14 | 100 |
| Бабруйскі | 85 | 15 | 125 |
| Мазырскі | 120 | 16 | 140 |

Табліца пацьвярджае агульнае палажэньне аб сувязі разьмеру паселішча і вучастка з дальназямельлем.

Прыродна-гістарычныя умовы зрабілі ўплыў ня толькі на разьмер паселішч, але і на спосаб і форму ўсваеньня неабжытых зямель. Дзеля таго, каб уявіць, як вяліка тут розьніца, даволі ўспамянуць Палескае „джунглі" з непраходнымі балотамі, перашкаджаючымі іншы раз ня толькі прамым, але і ўсякім зносінам і параўнаць іх з больш ці менш адкрытымі і прыступнымі для зносін, хаця і маладымі ў геалягічных адносінах прасторамі Віцебшчыны.

Для характарыстыкі становішча дальназямельля па эканамічных групах мною ўзяты сярэднія з падлікаў па табл. 7 (дадат.) (групаваньне па асноўных сярэдніх вытвор.) блізкіх і дальніх адлегласьцяй па групах і формах землякарыстаньня, пры чым зьявілася наступная адлегласьць ад сядзібы ў кілём. (сярэднее для усіх гнезд).

Табліца 6.

| ФОРМЫ | Пахаці | | | Сенажаці | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III |
| Вёскі . . . . | 1,09 | 1,22 | 1,86 | 3,2 | 3,8 | 3,3 |
| Пасёлкі . . . . | 0,37 | 0,34 | 0,28 | 5,5 | 6,2 | 5,7 |
| Хутары . . . . | 0,54 | 0,37 | 0,32 | 3,2 | 2,7 | 1,9 |

Табліца толькі да некаторай ступені адбівае становішча дальназямельля ў розных эканамічных групах, таму што цыфры атрыманы простым сумаваньнем бяз вучоту ліку і разьмеру блізкіх і дальніх палос. Як бачым, найбольшая дыфэрэнцыяцыя ў адносінах дальназямельля, дакладна таксама, як і дробнапалосіцы назіраецца на хутарох.

Тут буйныя гаспадаркі маюць яўную перавагу перад дробнымі, якія як у адносінах сенажаці, так і пахаці знаходзяцца ў менш спрыяючым становішчы.

У заканчэньне аналізу дальназямельля нельга не адзначыць, што атрубы ў адносінах гэтага паказальніка ў Віцебскім гнязьдзе раўнаюцца з вёскамі, а ў Менскім маюць нават горшы паказальнік, чымся вёскі.

Для вызначэньня колькаснага выразу таго эфэкту, які прыносіць лепшая тэхнічная арганізаванасьць тэрыторыі, намі зроблен наступны разьлік:

Табліца 7.

| РАЁНЫ і ФОРМЫ | Лік выхадаў на 1 га | Сярэдняя адлегласьць у кілёмэтрах | Пройдзена гэкт. кілёмэтр. | Коштоўнасьць часу, патрачанага на пераходы | Патрачана гэктараў на межнікі | Недапалучанага прыбытку | Агульная сума выдаткаў на 1 гэкт. (руб.) | Эфэктыўнасьць у параўнаньні з вёскай (руб.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Віцебскі с.-г. раён | | | | | | | | |
| Вёска . . . . | 200 | 0,64 | 256 | 5,12 | 0,48 | 9,96 | 15,08 | — |
| Пасёлак . . . | 200 | 0,22 | 88 | 1,76 | 0,13 | 2,60 | 4.36 | 10,72 |
| Отруб . . . | 200 | 0,62 | 248 | 4,96 | 0,10 | 2,00 | 6,96 | 8,12 |
| Хутар . . . | 200 | 0,16 | 64 | 1,28 | 0,08 | 1,60 | 2,88 | 12,20 |
| Менска-Слуцкі с.-г. раён | | | | | | | | |
| Вёска . . . . | 210 | 0,70 | 294 | 5,88 | 0,49 | 14,70 | 20,58 | — |
| Пасёлак . . . | 210 | 0,39 | 164 | 3,28 | 0,15 | 4,50 | 7,78 | 12,80 |
| Отруб . . . | 210 | 1,08 | 452 | 9,04 | 0,10 | 3,00 | 12,09 | 8,54 |
| Хутар . . . | 210 | 0,24 | 100 | 2,0 | 0,10 | 3,00 | 5,00 | 15,58 |

Для вылічэньня намі ўзяты толькі два раёны, па якіх меліся найбольш пэўныя дадзеныя. Тут падлічан уплыў дальназямельля праз сярэднюю адлегласьць і іншых момантаў раздробленасьці і працягласьці тэрыторыі праз страту зямлі на межнікі.

Мэтодыка вылічэньня: 1) лік выхадаў узят аднолькавы для ўсіх форм (сярэднее з бюджэтаў); усе дні пераведзены на пешыя мужчынскія, прычым для пераводу конных узят стасунак каштоўнасьцяй пешага і коннага рабочага 1:3. 2) Пры вылічэньні каштоўнасьці выдаткаў на пераходы прынята шпаркасьць у 1 гадз.=5 кілём., каштоўнасьць 10-ці гадз. працоўнага дня=1 руб. 3) Страта на межнікі ўстаноўлена з разьліку: а) даўжыні абводу межных ліній у Віцебскім і Менскім гнёздах: для вёсак=14,5 і 14,7 км, пасёлкаў 3,8 і 4,6 км., атрубоў 1,5 і 1,6 км. і хутароў 1,1 і 1,5 км. (даныя бюджэтаў) і б) шырыні: для вёсак і пасёлкаў 1/3 м., хутароў і атрубоў 2/3 м. Шырыня ўстаноўлена ўмоўна, з прыняцьцем пад увагу церараспалоснасьці хутароў і атрубоў. 4) Пры вылічэньні недапалучанага прыбытку узят с.-г. прыбытак ад земляробства (табл. 21-а дадат.) з разьліку: па Віцябскаму гнязду 20 руб. і Менскаму 30 руб. на 1 га.

Разьлік дае ўяўленьне аб адносным разьмеры выдаткаў або страт, якія падаюць на рахунак вывучаемых момантаў арганізацыі тэрыторыі. Мы бачым, што суадносіны выдаткаў паміж формамі землякарыстаньня ў абодвух раёнах вельмі блізкія.

Памяншэньне страт можна цалкам прыпісаць формам землякарыстаньня ў тым іх выглядзе, як яны склаліся. У сярэднім па абодвух гнёздах рэнтабельнасьць форм па разьліку на 1 га раўняецца (у рублёх з акругленьнем): пасёлкаў=11,5 руб., атрубоў=8,5 руб., хутароў=14,0 руб.

### 3.

Арганізацыю тэрыторыі ў адносінах да угодзьдзяў разгледзім з наступных пунктаў погляду: 1) якія суадносіны угодзьдзяў зьяўляюцца тыповымі для тых ці іншых форм землякарыстаньня, 2) наскользі яны зьвязаны з формай землякарыстаньня і 3) які уплыў формы на зьмену суадносін угодзьдзяў.

Склад угодзьдзяў па формах землякарыстаньня і раёнах падрабязна паданы ў табл. 9 (дадат.). З разгляду яе можна азначыць толькі наступную, больш-менш устойлівую тэндэнцыю: большую ўдзельную вагу ў новых формах землякарыстаньня маюць сядзібныя зямлі і часткова выганы на хутарох.

Аднолькавая тэндэнцыя, назіраемая ў зьмене угодзьдзяў, што стаяць на розных канцавосьсях інтэнсыўнасьці, можа быць растлумачана агульнай прычынай, якая месьціцца ў тым, што ў вёсках гэтыя угодзьдзя звычайна найбольш дэфіцытныя, г. з. у іх адчуваецца найбольшая патрэба, затым пры пераходзе да новых форм землякарыстаньня яны ў першую чаргу і павялічваюцца. Ламаньне старых сыстэм скарыстаньня зямлі і старых способаў тэхнікі адбываецца з большаю цяжкасьцю, чымся зьмена форм землякарыстаньня Пры перамене форм землякарыстальнікі стараюцца стварыць такія умовы, якія пагаджалі-б насьпелыя вытворчыя патрэбы з старымі тэхнічнымі спосабамі вядзеньня гаспадаркі. Патрэба інтэнсыфікаваць скарыстаньне зямлі з аднаго боку вымагае набліжэньня палёў да сядзібы, а з другога сустракаецца з кансэрватызмам селяніна, які ня зусім ахвотна ідзе на рэзкую зьмену прапорцыі палявых культур, што вядома, у сваю чаргу, зьяўляецца рэзультатам галоўным чынам аб'ектыўных умоў, а ня злое волі землякарыстальніка.

Абодва моманты находзяць задавальненьне ў адбіўцы большых, чымся было ў вёсцы, сядзібных вучастках. Што датычыцца выгану, то пры звычайным яго недахопе ў вёсках зусім натуральна імкненьне вызначаць большую плошчу пад выган, што нарэшце ізноў-такі дазваляе на некаторы час не зьмяняць рэзка старой тэхнікі ўтрыманьня жывёл. Акрамя таго на хутарох, у якіх назіраецца падвышаны процант выгану, гэта тлумачыцца і другімі меркаваньнямі, непасрэдна зьвязанымі з асаблівасьцямі формы землякарыстаньня, менавіта: адсутнічаньнем грамадзкіх выганаў і замена іх індывідуальнымі. Хаця трэба адзначыць, што гэта пытаньне, пытаньне аб пасьбе жывёлы не заўсёды вырашаецца такім чынам. У іншых выпадках яно мае свае асаблівае вырашэньне, жывёла асабліва дробная (авечкі) прадаецца на пасьбу на ўзбочча.

Іншых устойлівых тэндэнцый у суадносінах угодзьдзяў па формах землякарыстаньня, узятых сумарна, не назіраецца.

Пры разглядзе зьмен у складзе ўгодзьдзяў з пераходам да новых форм землякарыстаньня (табл. 9 дад.) бачым наступнае:

1. Плошча сядзібных угодзьдзяў узрастае.

2. Плошча пахаці наадварот, адносна падае, што тлумачыцца з аднаго боку пераходам часткі пахаці ў сядзібу, а з другога больш шпаркім, чымся рост пахаці, абсалютным павялічэньнем выгоднай зямлі пры пераходзе да новых форм землякарыстаньня.

3. Сенажаць у большасьці выпадкаў, адносна павялічваецца, г. з. зьмяняецца адваротна пахаці, што зьяўляецца звычайным узаемадзеяньнем гэтых угодзьдзяў.

З аналізу складу ўгодзьдзяў у сацыяльна-эканамічным разрэзе можна констатаваць наступнае:

1. Садова-гародная плошча павялічваецца ня толькі абсалютна, але і адносна ад дробных груп да буйных, пры чым гэтае павялічэньне ў буйных гаспадарках вышэй пры хутарской форме, чымся пасялковай. На 100 гэкт. выгоднай зямлі, у сярэднім па трох раёнах (без Бабруйскага) садова-гароднай плошчы прыходзіцца:

у пасёлках—1 групу 0,9 га III групу 1,20 га
у хутарох— 1 „ 1,1 „ III „ 1,8 „

2. У адносінах пахатной зямлі ва ўсіх формах землякарыстаньня назіраецца найменшая распаханасьць у буйных гаспадарках, найбольшая ў сярэдніх або ў дробных. У цыфрах гэта выражаецца так: (на 100 га с.-гасп. плошчы пахаці).

Табліца 8.

| | I група | II група | III група | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| а) по формах землякарыстаньня | | | | |
| Вёскі | 58 | 58 | 57 | 58 |
| Пасёлкі | 54 | 54 | 52 | 53 |
| Хутары | 57 | 58 | 55 | 57 |
| б) по раёнах | | | | |
| Віцебскі | 55 | 56 | 52 | 54 |
| Менска-Слуцкі | 61 | 63 | 60 | 62 |
| Бабруйскі | 64 | 64 | 62 | 63 |
| Мазырскі | 46 | 42 | 41 | 43 |

Хістаньні па формах землякарыстаньня і групах незначны. Шмат больш хістаньня па с.-гасп. раёнах: цэнтральныя раёны – Менска-Слуцкі і Бабруйскі зьявіліся найбольш распаханымі, тады як антыподы менш, пры чым паўночны антыпад, Віцебскі раён, больш паўднёвага, Мазырскага.

3. Сенажатныя угодзьдзя адбіваюць суадносіны пахаці ў адваротным парадку і ўплыў форм землякарыстаньня на гэта ў розных эканамічных групах мала заметны.

4.

З мэтаю даць сумарную характарыстыку суадносін угодзьдзяў у розных формах землякарыстаньня намі вызначана сярэдняя працаёмістасьць 1 гэкт. с.-гасп. плошчы.

Гэты паказальнік пры ўмове дапасаваньня аднолькавых каэфіцыентаў для ўсіх форм землякарыстаньня павінен адбіць агульныя суадносіны ўгодзьдзяў, паскольні яны розьняцца адно ад другога па ступені інтэнсыўнасьці.

Такім чынам працаёмістасьць асобных угодзьдзяў для ўсіх форм землякарыстаньня ў межах кожнага раёну ўзята аднолькавая, хаця ў сапраўднасьці тут, як мы ўбачым пазьней, назіраецца вялікая рознастайнасьць.

Гэтае дапушчэньне такім чынам будзе супярэчыць фактычнаму становішчу рэчаў, але для нашай мэты яно зьяўляецца мэтадалёгічна правільным і неабходным, таму што дае магчымасьць ізалявацца ад асаблівасьцяй скарыстоўваньня ўгодзьдзяў і характарызаваць той момант, які мы і хочам, г. з. суадносіны ўгодзьдзяў.

**Працаёмістасьць 1-га ўгодзьдзяў у мужчынскіх днёх (перавадных)**

Табліца 9.

| Угодзьдзя \ Раёны | Віцебскі | Менскі | Бабруйскі | Мазырскі | Сярэднее |
|---|---|---|---|---|---|
| Сад і гарод . . . | 110 | 129 | 138 | 108 | 120 |
| Пахаці . . . . | 24 | 38 | 27 | 36 | 30 |
| Сенажаці . . . | 9 | 11 | 12,5 | 8,5 | 10 |

**Працаёмістасьць 1 гэктара сельска-гасп. плошчы**

Табліца 10.

| Формы земля-карыстаньня \ Раёны | Па раён. працаёміст. | | | | Па сярэдняй | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Віцебскі | Менскі | Бабруйскі | Мазырскі | Віцебскі | Менскі | Бабруйскі | Мазырскі |
| Вёска . . . . | 18,7 | 32,2 | 22,3 | 25 | 22,7 | 26,3 | 23,1 | 22,5 |
| Пасёлак . . . | 20,2 | 28,7 | 26,3 | 20,3 | 24,7 | 23,6 | 27,3 | 19,6 |
| Отруб . . . | 18,7 | 29,0 | — | — | 22,8 | 24,9 | — | — |
| Хутар . | 17,5 | 30,0 | 23,2 | 25,6 | 21,1 | 24,2 | 24,3 | 22,4 |

Уплыў форм землякарыстаньня на суадносіны угодзьдзяў, выражаны праз працаёмістасьць, нязначны. Вызначаных тэндэнцый, устойлівых для кожнай формы ў розных гнёздах не выяўляецца.

Тыя хістаньні, што маюцца ў працаёмістасьці угодзьдзяў розных форм у межах гнязда залежаць не ад формы землякарыстаньня, але ад разьмеру землякарыстаньня. Гэта залежнасьць зусім устойліва і вызначана, што бачна з наступнай табліцы, дзе формы землякарыстаньня разьмешчаны па працаёмістасьці ў спадаючым парадку і ўзяты адносіны паміж імі па працаёмістасьці і землязабясьпечанасьці на 1 душу.

Табліца 11.

| ФОРМЫ | Праца-ёмістасьць | Разьмер землякарыстаньня | ФОРМЫ | Праца-ёмістасьць | Разьмер землякарыстаньня |
|---|---|---|---|---|---|
| Віцебскі | | | Менскі | | |
| Пасёлкі . . . | 100 | 100 | Вёскі . . . | 100 | 100 |
| Вёска . . . . | 93 | 127 | Хутары . . . | 93 | 152 |
| Хутары . . . | 87 | 162 | Пасёлкі . . . | 89 | 90 |
| Бабруйскі | | | Мазырскі | | |
| Пасёлкі . . . | 100 | 100 | Хутары . . . | 100 | 100 |
| Хутары . . . | 88 | 100 | Вёскі . . . . | 98 | 102 |
| Вёскі . . . . | 85 | 95 | Пасёлкі . . . | 80 | 109 |

За выключэньнем Бабруйскіх вёсак і Менскіх пасёлкаў усюду назіраецца адваротная залежнасьць паміж працаёмістасьцю ўгодзьдзяў і і землязабясьпечанасьцю.

З аналізу матар'ялу можна зрабіць вывад, што форма землякарыстаньня, як гэткая, ня робіць настолькі вялікага ўплыву на суадносіны асноўных угодзьдзяў (пахаці і седажаці), каб яго можна было заўважыць. Перавага тут за другімі фактарамі, зьяўляючыміся агульнымі для усіх форм кожнага гнязда. Стракатасьць у суадносінах угодзьдзяў у розных форм землякарыстаньня пры адсутнічаньні агульных тэндэнцый ёсьць вынік земляўпарадкаваньня, а на пазьнейшага ўплыву форм землякарыстаньня.

## Арганізацыя сродкаў вытворчасьці.

### 1.

Разгледзім арганізацыю гэтай часткі с. г. вытворчасьці па формах землякарыстаньня ў адносінах разьмеру сродкаў вытворчасьці, структуры іх і якаснага боку.

Пачнем з разьмеру, які прааналізуем у адносінах трох паказальнікаў: 1) на 1 гаспадарку, што будзе служыць характарыстыкай буйнасьці вытворчасьці, 2) на 1 га—паказальнік нагружанасьці зямлі, інтэнсыўнасьці гасп. (часткова) і 3) на 1 душу—прыняты намі, у мэтах

спрашчэньня разьліку, для характарыстыкі ўзброенасьці працаўніка. Само сабою зразумела, што ён не зьяўляецца непасрэдным паказальнікам гэтага моманту, таму што працаўнікі (перавадныя) ад ліку душ складаюць звычайна толькі 55—56%, але для адноснага параўнаньня паказальнік на 1 душу цалкам прыгодны; хістаньне адносін паміж душамі і працаўнікамі ў масе вельмі ўстойліва і па формах землякарыстаньня не перавышае 1—2%.

Разьмер асноўных сродкаў с.-г. вытворчасьці

Табліца 12.

| Формы землякарыст. | Рублёў | | | Суадносіны (вёска = 100) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | На 1 гасп. | На 1 га | На 1 душу | На 1 гасп. | На 1 га | На 1 душу |
| Вёскі . . . . | 543 | 70 | 99 | 100 | 100 | 100 |
| Пасёлкі . . . | 583 | 77 | 106 | 108 | 110 | 107 |
| Хутары . . . | 762 | 82 | 130 | 140 | 117 | 131 |

Новыя формы землякарыстаньня па разьмеру усіх 3-х паказальнікаў стаяць вышэй вёсак, пры чым на першым месцы стаяць хутары, а на другім—пасёлкі. Суадносіны паказальнікаў унутры новых форм неаднолькавы. Пасёлкі маюць амаль роўнамернае (на 7—10%) падвышэньне ўсіх трох паказальнікаў, у параўнаньні з вёскамі, тады як хутары, маючы павялічэньне сродкаў вытворчасьці на гаспадарку ў 40% на 1 га, дасягнулі толькі 17%, а на 1 душу перавышаюць вёскі на 31%. Гэта сьведчыць аб тым, што на хутарох павьлічэньне разьмеру сродкаў вытворчасьці на 1 гасп. галоўным чынам абумоўлена павялічэньнем разьмеру землякарыстаньня, а не інтэнсыфікацыяй гаспадаркі. У пасёлках разьмер землякарыстаньня амаль роўны вясковаму, нават некалькі ніжэй яго (Вяск.=7,7 га, П=7,6 га, Х=9,5 га), чаму тыя 8% перавышкі сродкаў вытворчасьці ў пасёлках супроць вёсак падвышаюць у такой жа ступені і інтэнсыўнасьць гаспадаркі. Суадносіны паказальнікаў на хутарох найбольш спрыяючыя для вытворчага эфэкту; пры высокай узброенасьці працаўніка і яшчэ больш высокім (адносна) разьмеры гаспадаркі па сродках вытворчасьцяй і зямельнай плошчы можна чакаць найбольшай прадукцыйнасьці працы, што мы і ўгледзім у далейшым (гл. агульны эфэкт вытворчасьці).

Па раёнах становішча зусім неаднолькава, што бачна з наступнай табліцы, дзе прыведзены суадносіны па тых жа паказальніках (вёска прынята за 100. Абсалютныя вялічыні у табл. 13-а дадат.)

Табліца 13.

| ПУНКТЫ / Формы землякарыстаньня | Віцебскі | | | Менскі | | | Бабруйскі | | | Мазырскі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 гасп. | 1 гэкт. | 1 душу | 1 гасп. | 1 гэкт. | 1 душу | 1 гасп. | 1 гэкт. | 1 душу | 1 гасп. | 1 гэкт. | 1 душу |
| Вёска . . . . | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| Пасёлак . . . | 133 | 147 | 111 | 85 | 92 | 95 | 114 | 107 | 112 | 98 | 109 | 112 |
| Хутар . . . | 161 | 123 | 149 | 157 | 125 | 140 | 110 | 107 | 112 | 119 | 125 | 117 |

Новыя формы землякарыстаньня ва ўсіх раёнах, за выключэньнем Менскіх пасёлкаў, маюць больш высокія паказальнікі ў параўнаньні з вёскамі, пры чым ў інтэнсыўных раёнах розьніца значна большая, чымся ў экстэнсыўных. Асабліва далека стаяць ад вёсак новыя формы ў Віцебскім гнязьдзе. Апрача ўсіх іншых умоў эканамічная разьвітнасьць раёну стымулюе разьвіцьцё гаспад. у новых формах. У раёнах экстэнсыўных, мала разьвітых эканамічна, перавага новых форм праяўляецца ў меншай ступені.

Пасёлкі найбольш спрыяючае становішча маюць у Віцебскім і Бабруйскім гнёздах, дзе яны ў адносінах некаторых паказальнікаў стаяць вышэй хутароў. Няспрыяючае становішча ў іх у Менскім гнязьдзе, дзе пасёлкі маюць паказальнікі ніжэй вяковых. Тлумачыцца гэта тым, што на пасёлкі тут вышлі нямоцныя і бядняцкія гаспадаркі, якія ўсё-ж за тры гады амаль дагналі сярэднія сялянскія гаспадаркі ў вёсках, павялічыўшы сваі асноўныя сродкі амаль што ня ў тры разы (гл. ніжэй разьдзел аб дынаміцы). Такім чынам у дынамічным разрэзе няспрыяючае становішча пасёлкаў у Менскім гнязьдзе выглядзіць зусім іначай. Калі ўзяць сярэдняе з трох гнезд, без Менскага раёну, дык розьніца паміж пасёлкамі і хутарамі зьяўляецца яшчэ менш значнай і незаўсёды ў карысьць хутароў, менавіта:

| | на 1 гасп. | 1 га | 1 душу |
|---|---|---|---|
| пасёлкі (прыняты за 100) | 100 | 100 | 100 |
| хутары . . . . . . . . | 113 | 102 | 112 |

Хутары строга ідуць сьледам за інтэнсыўнасьцю раёну і маюць найбольш высокія паказальнікі у Віцебскім і Менскім гнездах, у Бабруйскім і Мазырскім яны значна менш ухіліліся ад вёскі.

## 2.

Структура сельска-гаспадарчых асноўных сродкаў вытворчасьці па формах землякарыстаньня (у $^0/_0{}^0/_0$) наступная:

Табліца 14.

| ПУНКТЫ / ФОРМЫ | Віцебскі | | | Менскі | | | Бабруйскі | | | Мазырскі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Будынкі | Мёртвы інвэнт. | Жывы інвэнт. | Будынкі | Мёртвы інвэнт. | Жывы інвэнт. | Будынкі | Мёртвы інвэнт. | Жывы інвэнт. | Будынкі | Мёртвы інвэнт. | Жывы інвэнт. |
| Вёскі . . . . | 34 | 14 | 52 | 33 | 18 | 49 | 33 | 13 | 54 | 23 | 15 | 62 |
| Пасёлкі . . . | 32 | 12 | 56 | 32 | 15 | 53 | 36 | 11 | 53 | 22 | 15 | 63 |
| Атрубы . . . | 36 | 13 | 51 | 41 | 10 | 49 | — | — | — | — | — | — |
| Хутары . . . | 33 | 15 | 52 | 33 | 19 | 48 | 32 | 13 | 55 | 24 | 13 | 63 |
| Калгасы . . . | 42 | 16 | 42 | 38 | 15 | 47 | — | — | — | 41 | 14 | 45 |

У індывідуальных формах структура даволі аднастайна. Розьніца ў межах аднаго раёну не перавышае 1—3%, за выключэньнем атрубоў у Менскім гнязьдзе, у якіх будынкі пашырыліся за кошт мертвага інвэнтару на 7—8%. Некаторыя вельмі нясмелыя адзнакі ў паасобных гнездах назіраюцца таксама ў памяншэньні % мертвага інвэнтару ў пасёлках і і жывога інвэнтару на хутарох і атрубох, але яны не даюць падстаў для

вываду заключэньняў аб ўстойлівых тэндэнцыях. Такая аднастайнасьць сьведчыць аб тым, што на цэннастную структуру сродкаў вытворчасьці індывідуальныя формы землякарыстаньня уплыву амаль ня маюць.

Кідаецца ў вочы таксама вялікая аднастайнасьць суадносін у першых трох раёнах па ўсіх відах сродкаў вытворчасьці і ва ўсіх чатырох па мертваму інвэнтару. Толькі рэзка дзяліўся Мазырскі раён суадносінамі будынкаў і жывога інвэнтару. Апошні тут адваеваў у будынкаў 10—14%.

Уплыў прыродных умоў (паўднёвы раён), лясістасьць і яскрава выяўлены мясны напрамак з валінай збруяй зрабілі сваю справу. Калі выключыць % працоўнай жывёлы ў Мазырскім гнязьдзе, дык % прадукцыйнай жывёлагадоўлі будзе вельмі блізкі да другіх раёнаў.

Іншае становішча бачым у аграмаджаных формах, у калгасах. Тут будынкі займаюць большы процант сродкаў за кошт жывога інвэнтару. Такі склад трэба прызнаць менш спрыяючым і тлумачыцца ён у адносінах да будынкаў галоўным чынам тым, што калгасы арганізаваны на быўшых абшарніцкіх сядзібах, чаму будынкі не заўсёды адпавядаюць па свайму разьмеру і каштоўнасьці запатрабаваньням гаспадаркі.

Што-ж датычыцца жывога інвэнтару, дык на гэтым варта застанавіцца больш падрабязна. Разгледзім суадносіны працоўнай і прадукцыйнай жывёлы.

Табліца 15.

| ФОРМЫ | % каштоўнасьць у агульнай структ. | | На 1 га с.-г. плошчы рублёў ў | | На 100 га с.-г. плошчы | | На 100 га пахаці дарослай прац. жывёлы гал. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Працоўн. жывёлы | Прадукц. жывёлы | Працоўн. жывёле | Прадукц. жывёле | Працоўн. жывёлы | Прадукц. жывёлы | |
| Вёскі . . . | 27 | 28 | 20 | 18 | 21 | 45 | 30 |
| Пасёлкі . . . | 27 | 29 | 20 | 23 | 18 | 40 | 25 |
| Хутары . . . | 27 | 28 | 23 | 22 | 16[1]) | 42 | 20 |
| Калгасы . . | 21 | 24 | 12 | 14 | 6 | 16 | 10 |

Такім чынам зьніжэньне % жывога інвэнтару ў калгасах адбылося пагалоўным чынам за кошт працоўнай жывёлы, якая, будучы паўней нагружана і скарыстана, складае меншы % ад ўсіх асноўных сродкаў вытворчасьці. Гэта зьяўляецца бяспрэчнай перавагай калгасаў і ўяўляе адну з вытворчых прадпасылак іх эфэктыўнасьці, якая дзейнічае ў двух напрамках. Скарачэньне працоўнай жывёлы, пры ўмовах сваечасовага выкананьня работ, дае магчымасьць з аднаго боку ўкласьці сродкі ў другі від інвэнтару, а з другога штогод эканоміць на ўтрыманьні жывёлы. Праўда, эканомія ад колькаснага памяншэньня ліку галоў звычайна скарачаецца павялічэньнем каштоўнасьці галавы, што мы бачым і ў даным выпадку.

Такім чынам гэты працэс унутры сябе антаганістычны, але ўсё-ж першая частка яго, памяшаньне колькасьці, ідзе шпарчэй, а якасьць нарастае павальней, таму што вытворчыя прадпасылкі для першай часткі ў калгасах значна большыя, чымся патрэба ў другой, чаго няма ні ў

[1]) Памяншэньне ліку галоў з разьліку на 100 га на хутарох тлумачыцца часткова памяншэньнем ліку двароў; на 100 га прыходзіцца ў хутарох 10,5 дв. у вёсках і пасёлках 13 двароў.

аднэй з індывідуальных форм землякарыстаньня. На 100 га с-г. плошчы каштоўнасьць працоўнай жывёлы ў калгасах амаль ў два разы меней вёсак, тады як колькасьць галоў менш у 4 разы.

У новых індывідуальных формах землякарыстаньня справа ідзе іначай; там таксама маецца памяншэньне колькасьці коняй у параўнаньні з вёскамі (на 100 га с.-г. плошчы ў пасёлках на 3 і хутарох на 5 гал.), але па каштоўнасьці гэтай эканоміі няма і, нават наадварот, хутары на 100 га маюць працоўнай жывёлы па каштоўнасьці больш, чымся ў вёсках. Такім чынам тут працэс якаснага паляпшэньня кожнай галавы жывёлы абганяе памяншэньне колькасьці галоў.

З паляпшэньнем якасьці жывёлы падаражаецца таксама яго гадавое ўтрыманьне, але гэта падаражаньне не пакрывае ўсей эканоміі, атрымоўваючайся ад скарачэньня колькасьці галоў. Выдаткі на гадавое ўтрыманьне жывёлы з разьліку на 100 га с.-гасп. плошчы могуць быць выражаны ў наступным выглядзе:

Табліца 16.

| ФОРМЫ | Галоў на 100 га | Утрыманьне 1 галавы ў год руб. па бюджэтных даных | Усяго руб. | Эфэктыўнасьць у параўнаньні з вёскай руб. |
|---|---|---|---|---|
| Вёскі . . . | 21 | 120 | 2520 | — |
| Пасёлкі . . . | 18 | 138 | 2484 | 36 |
| Хутары . . . | 16 | 150 | 2400 | 120 |
| Калгасы . . . | 6 | 202 | 1212 | 1308 |

Такім чынам эфэктыўнасьць пасёлкаў і хутароў адносна гэтага моманту блізка, колгасы ж перавышаюць іх у многа раз.

Адносна прадукцыйнай жывёлы ў калгасах трэба адзначыць, што не гледзячы на блізкую да індывідуальных форм пазыцыю яе ў агульнай структуры сродкаў вытворчасьці, абсалютны разьмер прадукцыйнай жывёлы недастатковы. Па ліку галоў на 100 га с.-г. плошчы яна у 2-3 разы ніжэй, чымся ў індывідуальных формах землякарыстаньня. Праўда, па каштоўнасьці прадукцыйная жывёла адстае значна менш, усяго ледзь на 20-30%, але ўсё-ж, відочна, першачарговай задачай зьяўляецца насычэньне прадукцыйнай жывёлай.

Па новых індывідуальных формах землякарыстаньня становішча прадукцыйнай жывёлы з разьліку на 100 га мяняецца таксама, як працоўнай: за кошт колькасьці расьце якасьць. Але тут якасьць (каштоўнасьць адной галавы) расьце хутчэй, чаму ў канечным выніку гаспадаркі пасёлкаў і хутароў па каштоўнасьці насычаны жывёлаю больш, чымся вёскі. Гэта становішча правільна амаль для ўсіх відаў прадукцыйнай жывёлы. Суадносіны паміж формамі землякарыстаньня жывёлы з разьліку на 100 га с.-г. зямлі (вёска прынята за 100).

Табліца 17.

| ФОРМЫ | Буйн. рог. жывёла | | Авечкі | | Свіньні | | Птаства | Свіньні без Мазырск. гн. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Па ліку галоў | Па каштоўнасьці | Па ліку галоў | Па каштоўнасьці | Па ліку галоў | Па каштоўнасьці | Па каштоўнасьці | Па ліку галоў | Па каштоўнасьці |
| Вёскі . . . | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| Пасёлкі . . . | 97 | 122 | 95 | 130 | 78 | 126 | 146 | 85 | 133 |
| Хутары . . . | 93 | 126 | 97 | 127 | 82 | 96 | 202 | 70 | 87 |

Некаторым выключэньнем зьяўляюцца толькі сьвіньні на хутарох, адстаўшыя ня толькі па колькасьці, але і па каштоўнасьці. Гэта зьявішча нельга лічыць выпадковым, таму што яно назіраецца ў трох гнёздах: Віцебскім, Менскім і Бабруйскім. Толькі ў Мазырскім гнязьдзе хутары „асьвінены" ня ніжэй другіх форм, але гэта тлумачыцца тым, што там хўтары знаходзяцца яшчэ ў стадыі „станаўленьня" і мала чым адрозьніваюцца ад матчынскай формы вёсак. Калі-ж узяць сярэднее з 3 першых гнезд, дык асаблівае становішча сьвінагадоўлі на хутарох будзе яшчэ яскравей.

Але з памяншэньня сьвінагадоўлі на хутарох нельга яшчэ рабіць вываду аб „уласьцівай хутарам тэндэнцыі" да скарачэньня жывёлагадоўлі наогул, тым больш, што якасны склад сьвіньней тут шмат вышэй вясковага.

Можна мяркаваць, што на хутарох адбываецца агульнае для ўсей прадукцыйнай жывёлы паляпшэньне якасьці за кошт колькасьці, але відочна, для сьвінагадоулі апошні працэс (памяншэньне колькасьці) ідзе хутчэй першага (павялічэньне якасьці).

Памяншэньне колькасьці жывёл (па галовах) у хутарской форме неаднакроць адзначалася ў літаратуры, але рэдка хто аддаваў належную ўвагу таму, што адначасова з гэтым ідзе больш шпаркі рост каштоўнасьці. З прыведзенай табліцы зусім яскрава, як неабачліва грунтавацца толькі на натуральным рахунку.

Па тэмпу жывёлагадоўлі з новых індывідуальных форм першынство трэба аддаць пасёлкам, якія не гледзячы на больш малады ўзрост абагналі ў некаторых адносінах нават хутары. Апошнія асабліва адсталі з сьвінагадоўляй. Затрымаеся некалькі на якасным баку жывёл. Падрабязны цыфравы матар'ял па гэтаму пытаньню паказан у табл. 14-а дадаткаў.

Прыведзем тут сумарна таблічку некаторых паказальнікаў па формах землякарыстаньня.

Кашт. даросл. жывёлы ў рублёх

Табліца 18.

| ФОРМЫ | Кашт. даросл. жывёлы ў рублёх | | | | Вышэйш. дзён. удой у літр. | Вага адкорм. кабана (клгр.) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Каня | Каровы | Авечкі | Сьвіньні | | |
| Вёскі . . . . | 102 | 56 | 3,8 | 15 | 3,2 | 90 |
| Пасёлкі . . . | 110 | 77 | 4,5 | 25 | 5,6 | 97 |
| Хутары . . . | 150 | 77 | 5,2 | 21 | 6,6 | 99 |
| Калгасы . . . | 204 | 66 | 4,5 | 21 | — | — |

Па эканамічных групах агульны разьмер сродкаў вытворчасьці ў розных формах землякарыстаньня мяняецца ў тым напрамку, што ад дробных груп да буйных расьце разьмер іх на 1 гасп., 1 гэкт і 1 душу. Выключэньня ні ў адной формы і ні ў адным раёне з гэтага становішча няма. Нас цікавіць тут наступнае пытаньне: у якіх формах землякарыстаньня разьмер сродкаў вытворчасьці больш рэзка адрозьніваецца па эканамічных групах, альбо іначай сказаць, якім групам найбольш спрыяе тая ці іншая форма ў гэтых адносінах.

Суадносіны разьмеру сродкаў вытворчасьці на 1 гасп.

Табліца 19.

| ПУНКТЫ / ФОРМЫ | Віцебскі | | | Менскі | | | Бабруйскі | | | Мазырскі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III | I | II | III | I | II | III |
| Вёскі . . . . | 100 | 208 | 362 | 100 | 207 | 363 | 100 | 220 | 471 | 100 | 156 | 405 |
| Пасёлкі . . . | 100 | 160 | 333 | 100 | 178 | 303 | 100 | 236 | 400 | 100 | 246 | 386 |
| Хутары . . . | 100 | 219 | 503 | 100 | 186 | 308 | 100 | 282 | 500 | 100 | 211 | 465 |

Найбольш „дэмакратычнай“ формай землякарыстаньня, у якой крайнія групы знаходзяцца на самай блізкай адлегласьці зьяўляюцца пасёлкі. За імі ідуць вёскі, у якіх эканамічная дыфэрэнцыяцыя глыбей, а затым хутары, маючыя найбольш рэзка адрозьніваючыяся групы. У сярэднім, па ўсіх раёнах, адносіны па формах землякарыстаньня будуць наступныя.

| ФОРМЫ | I група | II група | III група |
|---|---|---|---|
| Вёскі . . . . . . | 100 | 198 | 400 |
| Пасёлкі . . . . . | 100 | 205 | 355 |
| Хутары . . . . . | 100 | 225 | 444 |

Два другіх паказальніка па эканамічных групах выглядзяць так:

Сродкі вытворчасьці ў рублёх

Табліца 20.

| ФОРМЫ | На 1 га | | | На 1 душу | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III |
| Вёскі . . . . | 49 | 73 | 107 | 62 | 103 | 185 |
| Пасёлкі . . . . | 50 | 81 | 116 | 75 | 115 | 146 |
| Хутары . . . . | 54 | 71 | 103 | 60 | 112 | 182 |

У адносінах нагружанасьці зямлі (на 1 га) вялікай розьніцы паміж групамі ў розных формах няма. Можна толькі адзначыць, што буйная група на хутарох мае зьніжаную інтэнсыўнасьць, тады, як у першай наадварот (павышаную) у параўнаньні з іншымі формамі землякарыстаньня. Больш рэзка выяўляецца розьніца паміж пасёлкамі і хутарамі у „дыфэрэнцыяцыі“ па узброенасьці працаўніка. У буйных хутарскіх гаспадарках працаўнік выходзіць на работу ў 3 разы мацней узброены сродкамі вытворчасьці, чымся ў дробных, тады як у пасёлках, гэта розьніца паменшаецца да 2-х раз.

Суадносіны розных відаў сродкаў вытворчасьці па эканамічных групах наступныя: (сума = 100)

Табліца 21.

| ФОРМЫ | I | | | | II | | | | III | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Будынак | Мёртвы інвэнт. | Працоўн. жыв. | Прадукц. жыв. | Будынак | Мёртвы інвэнт. | Працоўн. жыв. | Прадукц. жыв. | Будынак | Мёртвы інвэнт. | Працоўн. жыв. | Прадукц. жыв. |
| Вёскі . . . . | 29 | 14 | 27 | 29 | 32 | 13 | 27 | 28 | 30 | 21 | 27 | 22 |
| Пасёлкі . . . | 26 | 13 | 28 | 33 | 31 | 13 | 26 | 30 | 35 | 12 | 26 | 27 |
| Хутары . . . | 30 | 13 | 22 | 35 | 30 | 13 | 24 | 31 | 33 | 15 | 26 | 26 |

У межах кожнай формы землякарыстаньня назіраюцца агульныя тэндэнцыі, 1) з павялічэньнем гаспадаркі паменшаецца адносная вага прадукцыйнай жывёлы, пры чым найбольш яскрава гэта памяншэньне выявілася на хутарох, а менш за ўсё у пасёлках. 2) Будынкі маюць адваротную тэндэнцыю г. з. з узбуйненьнем гаспадаркі павялічваецца % пад будынкамі. Гэта тэндэнцыя асабліва прыметна ў пасёлках, дзе ў першыя гады высяленьня дробныя групы, не ўладаючы дастатковай колькасьцю сродкаў, ня могуць выставіць усіх патрэбных будынкаў і безумоўна маюць некаторую нужду ў іх, лічачы за лепшае ўсё-ж у першую чаргу ісьці па лініі павялічэньня больш энэргэтычных сродкаў вытворчасьці.

Пры параўнаньні структуры сродкаў вытворчасьці ў розных формах землякарыстаньня па эканамічных групах можна прыйсьці да вываду, што хаця вельмі рэзкіх розьніц тут не назіраецца, але ўсё-ж структура не ва ўсіх формах для адных і тых жа эканамічных груп аднолькава спрыяючая з гаспадарчага пункту погляду. У I групы найбольш спрыяючая структура ў пасёлках, дзе маецца высокі процант прадукцыйнай жывёлы і самы нізкі процант будынкаў; за пасёлкамі трэба паставіць хутары, а затым ужо вёскі. У другой групы (сярэдней) структура прыкладам аднолькава ў новых формах і хужэй у вёсках. У III-яй групе лепшае становішча на хутарох.

Прыведзём некаторыя дадзеныя аб якасным боку сродкаў вытворчасьці па групах:

Табліца 22.

| ФОРМЫ | Каштоўнасьць 1 дарослай галавы (руб.) | | | | | | Вышэйш. дзённы ўдой у літрах | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Каня | | | Каровы | | | | | |
| | I | II | III | I | II | III | I | II | III |
| Вёскі . . . . | 65 | 105 | 157 | 36 | 43 | 52 | 2,6 | 3,4 | 3,6 |
| Пасёлкі . . . | 86 | 123 | 166 | 50 | 58 | 67 | 5.5 | 5,5 | 7,0 |
| Хутары . . . | 70 | 129 | 179 | 49 | 57 | 62 | 5,5 | 6,2 | 7,6 |
| | Свіньні | | | Авечкі | | | Вага адкормлен. кабана (клгр) | | |
| Вёскі . . . . | 13 | 16 | 18 | 3,5 | 3,8 | 4,0 | 74 | 93 | 113 |
| Пасёлкі . . . | 22 | 23 | 25 | 4,4 | 3,8 | 5,1 | 75 | 95 | 112 |
| Хутары . . . | 15 | 22 | 23 | 4,9 | 5,1 | 5,6 | 72 | 100 | 112 |

Агульнае становішча—з павялічэньнем разьмеру гаспадаркі павялічваецца якасны склад жывёлы, мае па формах землякарыстаньня тую асаблівасьць, што ў пасёлках розьніца паміж дробнымі і буйнымі гаспадаркамі меншая, чымся ў вёсках і хутарох. У асаблівасьці гэта рэльефна выявілася на конях і сьвіньнях.

Такім чынам і ў гэтым выпадку праявілася „дэмакратычнасьць" пасёлкаў і паглыбеньне „дыфэрэнцыяцыі" на хутарох.

Тое самае назіраецца і ў іншых момантах арганізацыі сродкаў вытворчасьці. Так, напрыклад, адносіны паміж эканамічнымі групамі па каштоўнасьці земляробчых машын (складаных) у розных формах землякарыстаньня наступныя: (1 група прынята за адзінку)

| | I | II | III |
|---|---|---|---|
| вёскі . . . . . | 1 | 3 | 39 |
| пасёлкі . . . . | 1 | 3 | 23 |
| хутары . . . . | 1 | 18 | 58 |

У хутарох III-ья група мае ў 58 раз больш земляробчых машын, тады як у вёсках у 39 раз, а ў пасёлках толькі ў 23 разы.

4.

Прааналізуем зьмену сродкаў вытворчасьці па формах землякарыстаньня ў працягу часу. Прыведзем даныя, характарызуючыя дынаміку сродкаў вытворчасьці з разьліку на 1 гаспадарку. Разам з гэтым пакажам зьмену с.-гасп. плошчы, пакольні паміж разьмерамі плошчы і сродкаў вытворчасьці існуе высокая карэляцыйная сувязь.

| ФОРМЫ | I група | | | II група | | | III група | | | Сярэдняе | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сродкаў вытворчасьці ў рублёх | | | | | | | | | | | |
| | Да пераходу | Цяпер | % прыросту | Да пераходу | Цяпер | % прыросту | Да пераходу | Цяпер | % прыросту | Да пераходу | Цяпер | % прыросту |
| Пасёлкі . . . | 176 | 305 | 73 | 416 | 558 | 35 | 880 | 1250 | 42 | 483 | 704 | 46 |
| Атрубы . . . | — | — | — | 643 | 716 | 12 | — | — | — | — | — | — |
| Хутары . . . | 293 | 449 | 51 | 495 | 628 | 27 | 1005 | 1300 | 29 | 598 | 792 | 33 |
| | С.-г. плошча ў га | | | | | | | | | | | |
| Пасёлкі . . . | 2,40 | 5,78 | 140 | 4,50 | 6,75 | 42 | 6,60 | 9,37 | 36 | 4,50 | 7,30 | 62 |
| Атрубы . . . | — | — | — | 5,12 | 5,72 | 12 | — | — | — | — | — | — |
| Хутары . . . | 3,85 | 4,40 | 14 | 6,80 | 7,45 | 10 | 11,12 | 12,32 | 11 | 7,26 | 8,06 | — |

Пры ацэнцы прыведзенага ў дынаміцы матар'ялу трэба мець на ўвазе, што колькасьць „дынамічных" падворак не вялікая, значна меншая „статычных" (гл. разьдзел „Плян і мэтодыка дасьледваньня"). (Даныя для II і III груп узяты па Віцебскаму і Менскаму гнездах, для I групы—толькі па Менскаму, усюду сярэднія простыя).

Тэмп дынамікі сродкаў вытворчасьці ў розных групах землякарыстаньня далёка неаднолькавы. Пасёлкі па усіх эканамічных групах маюць

найвышэйшы прырост. Само сабою зразумела, што прыпісаць гэта ўплыву форм землякарыстаньня нельга, таму што адначасова з пераходам да новых форм землякарыстаньня, павялічваўся і разьмер зямельнай плошчы. Карэляцыя між гэтымі абодвума працэсамі павялічэньнем с.-г. плошчы і сродкаў вытворчасьці, устаноўленая намі для усей злучнасьці, прадстаўленай у табліцы, без адрозьніваньня форм землякарыстаньня, стала вельмі высокай. Каэфіцыент між $^0/_0$ $^0/_0$ прыросту атрымаўся $r = +0{,}81 \mp 0{,}13$. Затым каэфіцыенты карэляцыі, вылічаныя паміж разьмерам сродкаў вытворчасьці і плошчаю для гаспадарак да пераходу к новым формам землякарыстаньня і пасьля пераходу у паасобнасьці, сталі яшчэ большыя:

$$r = +0{,}87 \mp 0{,}09 \text{ і } r = +0{,}90 \mp 0{,}07.$$

Такім чынам ва ўсіх формах землякарыстаньня дзейнічала адна тэндэнцыя: устанавіць вызначаныя адносіны між асноўнымі сродкамі і ўмовамі вытворчасьці, адпаведаючыя ступені інтэнсыўнасьці сельскай гаспадаркі. Для нас важна адзначыць, што пасёлкі, не гледзячы на самы малады ўзрост, здалелі ажыцьцявіць гэту тэндэнцыю ня хужэй другіх, больш дарослых сваіх суседзяў. Яны праявілі максымальны тэмп і за якія-небудзь 2—3 гады амаль зьнішчылі дыспрапорцыю паміж разьмерамі зямлі і сродкаў вытворчасьці. Пасёлкі у сярэднім, па ўсіх трох групах, маюць цяпер сродкаў вытворчасьці на 1 га столькі-ж, колькі і хутары. Праўда, зьнішчыць дыспрапорцыю, атрымаўшуюся ад прырэзкі зямлі альбо іначай сказаць інтэнсыфікаваць гаспадарку, ім прышлося пры наяўнасьці другой дыспрапорцыі адваротнай, якая складаецца з таго, што сялянскія гаспадаркі, вышаўшыя ў пасёлкі, цярпелі ад малазямельля ў большай ступені, чымся перайшоўшыя на хутары, а таму не гледзячы на прымітыўнасьць абсталяваньня, ўсё-ж мелі збытак сродкаў вытворчасьці. Тут дыспрапорцыя выражалася ў тым, што называюць „псэўдаінтэнсыўнасьцю". Пры гэтакіх акалічнасьцях „асваеньне" ізноў прырэзаных земель з гэтага пункту погляду некалькі палягчалася, але само сабою зразумела, што гэта было невялікай „перавагай" у асаблівасьці ў момант фармаваньня новай гаспадаркі, зьвязанай з перасяленьнем і іншымі выдаткамі. Важна адзначыць, што і пры падліку паказанай акалічнасьці пасёлкі маюць з разьліку на 1 га большыя дасягненьня, чымся хутары. У сярэднім, для ўсіх эканамічных груп сялянскія гаспадаркі да пераходу на пасёлкі мелі на 1 га 108 руб. асноўных с.-г. сродкаў вытворчасьці (483 : 4,50). Па разьліку на ўсю зямельную плошчу, атрыманую пры выхадзе на пасёлкі, гэта складае 66 руб. на 1 га (483 : 7,30). Зараз яны маюць 96 руб. на 1 га (704 : 7,30), г. зн. маюць прырост каля 30 р. альбо 45—46$^0/_0$. Хутары па такому-ж разьліку мелі на 1 га да выхаду 82 руб., пры выхадзе 74 руб., і зараз 98 руб. г. зн. прырост 24 руб. або 32—33$^0/_0$.

Пры ацэнцы прыведзеннага прыросту, акрамя зьмены разьмеру землякарыстаньня неабходна мець на ўвазе і тэрмін пераходу да новых форм. Па раёнах $^0/_0$ прыросту ў II эканамічнай групе (дынамічнай злучнасьці) наступны: (разьмер да пераходу к новай форме ўзят за 100).

Табліца 23.

| ФОРМЫ | Віцебскі | | Менскі | | Бабруйскі | | Мазырскі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сродкаў вытзорч. | Зямлі | Сродкаў вытворч. | Зямлі | Сродкаў вытворч | Зямлі | Сродкаў вытворч. | Зямлі |
| Пасёлкі . . . | 104 | 107 | 187 | 295 | 128 | 154 | 143 | 181 |
| Атрубы . . . | 86 | 109 | 147 | 114 | — | — | — | — |
| Хутары . . . | 97 | 108 | 179 | 115 | 150 | 179 | — | — |

У Віцебскім раёне ўсе формы палучылі амаль аднолькавую прырэзку зямлі, але тэмп прыросту сродкаў вытворчасьці розны: паселкі стаяць уперадзе хутароў і атрубоў. Калі дапусьціць, што розьніца паміж пасёлкамі і хутарамі ў межах памылкі, і яны маюць аднолькавае становішча, дык ўсё-жа гэта зьяўляецца вялікім дасягненьнем для 2—3-х гадовых пасёлкаў. Яны яўна маюць больш устойлівую тэндэнцыю да шпаркага росту, чымся нават хутары на сваёй „гістарычнай радзіме“.

Яшчэ больш шпаркі рост пасёлкі праявілі ў Менскім гнязьдзе, дзе зноў-такі яны ідуць упороч з хутарамі і значна ўперадзе атрубоў Праўда, тут пасёлкі маюць важную прадпасылку ў выглядзе вялізарнай прырэзкі зямлі, але ўсё-жа нельга не адзначыць того шпаркаго тэмпу, якім ішло накапленьне і разьвіцьцё іх сродкаў для ліквідацыі дыспрапорцыі. Гэта тым больш важна адзначыць, што пасёлкі былі ўтвораны маламоцнымі гаспадаркамі. У момант выхаду на пасёлак сярэдняя група (II) мела ледзь 2.2 га зямлі і каля 270 руб. асноўных сродкаў вытворчасьці, тады як у хутарскіх гаспадарках яна мела 3,6 га і 360 руб. сродкаў вытворчасьці, а атрубных—зямлі 5,4 га і сродкаў вытворчасьці каля 550 руб.

Зробім разьлік прыросту сродкаў вытворчасьці ў Бабруйскім гнязьдзе, дзе пасёлкі і хутары, вывучаныя ў дынаміцы, адносяцца да пасьлярэвалюцыйных утварэньнях і маюць узрост першыя 3,5 г., другія 4,5 г. Прырэзка зямлі пры пераходзе да новых форм у абсалютных вялічынях была аднолькава па 3,5 га. Прырост асноўных сродкаў ў момант дасьледваньня = у пасёлках 143 р., хутарох 193 руб. На 1 год прыходзіцца прыросту ў пасёлках 41 руб. і хутарох 43 руб.

Па розных эканамічных групах прырост неаднолькавы. Найбольшы назіраецца ў бядняцкай групе пасёлкаў і хутароў; сярэднія і буйныя гаспадаркі адрозьніваюцца значна менш адно ад другога.

Структура сродкаў вытворчасьці зьмянілася вельмі мала і большменш аднастайна; зьмена % сродкаў вытворчасьці:

| ФОРМА | Будынкі | Мёртвы інвэнтар | Працоўная жывёла | Прадукцыйн. жывёла |
|---|---|---|---|---|
| Пасёлкі . . . | — 0,2 | + 2,4 | + 1,4 | — 3,6 |
| Хутары . . . | — 3,4 | + 3,1 | + 3,1 | — 2,8 |

Будынкі і прадукцыйная жывёла адносна скараціліся, працоўная жывёла і мёртвы інвэнтар павялічыліся.

Павялічэньне разьмеру землякарыстаньня, які мы бачылі ў папярэдняй табліцы ў першую чаргу прымушае клапаціцца аб земляробчых машынах і цягавай сіле.

Прыведзём дадзеныя аб зьмене сродкаў вытворчасьці ў бюджэтным 1925-26 годзе. У табліцы паказаны адносіны канчатку году да начала, прынятаму за 100.

Табліца 24.

| ФОРМЫ | Будынкі | Мёртвы інвэнтар | Жывы інвэнт. | Запасы | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| Вёскі . . . . | 96 | 90 | 107 | 106 | 101 |
| Пасёлкі . . . | 104 | 89 | 109 | 103 | 104 |
| Атрубы . . . | 98 | 92 | 101 | 99 | 101 |
| Хутары . . . | 97 | 94 | 101 | 92 | 97 |
| Калгасы . . . | 95 | 114 | 105 | 113 | 116 |

Найбольш спрыяючыя рэзультаты гаспадарчага году аказаліся ў калгасах, якія далі максымальны прырост (16%) у параўнаньні з іншымі формамі, за імі ідуць сьледам пасёлкі, павялічыўшыя сваі сродкі на 4%, а затым атрубы і вёскі (0,1%); хутары правялі гаспадарчы год менш спрыяюча, з памяншэньнем сродкаў на 3%.

Структурная зьмена за год мала розьніцца па формах землякарыстаньня; павялічэньне ішло галоўным чынам па лініі росту найбольш энэргетычных сродкаў вытворчасьці: запасаў і жывога інвэнтару. У межах раёнаў асобныя формы землякарыстаньня падлягаюць агульнаму правілу за выключэньнем хутароў у Віцебскім гняздзе, якія структурна пагоршылі свой склад.

## Арганізацыя працы

1.

Форма землякарыстаньне не магла не зрабіць уплыву на агульны разьмер скарыстаньня працы ў сялянскіх гаспадарках, на разьмеркаваньне работ паміж паасобнымі катэгорыямі працаўнікоў (мужчынамі, жанчынамі, дзяцьмі) на разьмеркаваньне работ па галінах і відах работ, на вялічыню выдаткаў, напр. на 1 гэктар і г. д.

Разгледзім спачатку агульны разьмер і арганізацыйна-вытворчую структуру скарыстаньня працы. Для характарыстыкі гэтага боку пытаньня прыдзецца скарыстаць галоўным чынам даныя бюджэтных формуляраў (табл. 17 дадатк.).

Ступень скарыстаньня труда ў % да гадавога запасу.

Табліца 25.

| Формы землякар. | Сярэднее | | Віцебскі | | Менскі | | Бабруйскі | | Мазырскі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | На вытворч. | Усяго | На вытворч. | Усяго | На вытворч. | Усяго | На вытворч. | Усяго | На вытворч. |
| Вёскі . . . . | 76 | 63 | 80 | 69 | 57 | 46 | 83 | 68 | 82 | 66 |
| Пасёлкі . . . | 73 | 60 | 72 | 60 | 59 | 49 | 82 | 66 | 78 | 64 |
| Атрубы . . . | 65 | 55 | 71 | 60 | 60 | 49 | — | — | — | — |
| Хутары . . . | 70 | 58 | 73 | 60 | 61 | 52 | 74 | 58 | 72 | 61 |
| Калгасы . . . | 52 | 49 | 59 | 53 | 51 | 49 | — | — | 47 | 45 |

Як відаць з табліцы вышэйшая ступень скарыстаньня працы належыць вёскам, у новых жа формах яна паніжаецца, пры чым найменшае скарыстаньне аказваецца ў калгасах

Гэта зьявішча сьведчыць аб больш рацыянальным скарыстаньні працы ў новых формах землякарыстаньня. У то жа час яно паказвае, што форма і разьмер с.-гасп. вытворчасьці ў новых формах землякарыстаньня параўнаўча мала зьмяніліся, чаму экономія ў працы, атрымаўшаяся ў рэзультаце больш рацыянальнай арганізацыі працы, не знаходзіць сабе прыстасаваньня і застаецца нескарыстанай.

Гэты факт асабліва важны з пункту погляду агульнай арганізацыі найбольш важных для нас форм,—калгасаў і пасёлкаў

Безумоўная перавага пасёлкаў і асабліва калгасаў у параўнаньні з неземляўпарадкаванай вёскай у адносінах арганізацыі працы ў наяўнасьці.

Але адна рацыяналізацыя форм землякарыстаньня без карэннай рэканструкцыі ўсяй с.-г. вытворчасьці, хоць і зьмяншае выдаткі працы, і такім чынам пераводзіць „скрытае беспрацоўе" ў яўнае, ствараючы тым самым свабодны фонд працы для інтэнсыфікацыі с.-г., але ў той жа час памяншае % скарыстаньня працсілы, г. зн. вырашае пытаньне толькі часткова.

Зусім ясна, што адначасова з пераходам да новых форм землякарыстаньня неабходны і іншыя мерапрыемствы рэканструкцыйнага характару, якія далі-б магчымасьць прадукцыйна затрачваць працу, растрачваемую раней дзякуючы неарганізаванасьці тэрыторыі, адносін і г. д.

Абсалютна правільнае палажэньне У. І. Леніна: „удвое і ўтрое паднялася-б прадукцыйнасьць працы, удвое і ўтрое была-б ашчаджана людзкая праца для земляробства і людзкое гаспадаркі, калі-б ад гэтай раздробленай дробнай гаспадаркі зрабіўся-б пераход да гаспадаркі грамадзкай" (Збор твораў т. XV стар. 593-594), патрабуе ашчады працы не наогул для ашчады, а для „людзкое гаспадаркі". На гэтым неабходна асабліва завастрыць сваю ўвагу, і гэта задача бадай ці не больш цяжкая, чымся эканомія працы. Пакуль-жа скарыстаньне „вызваленай працы" знаходзіцца ў мінімуме не толькі ў Беларускіх калгасах, але і ў РСФСР, аб чым сьведчаць наступныя даныя. (На шляхох да буйнай каляктыўнай с.-г. вытворчасьці, стар. 81-82).

% скарыстаньня працы ў с.-гасп.:

| | |
|---|---|
| у камунах Маскоўскай губ . . . . . . . . . | 59,4% |
| у калгасах Уральскай вобласьці і Вяцкай губ. . | 57,8% |
| „ Ленінградзкай губ. . . . . . . . . | 51,9% |
| „ Тульскай і Смаленскай губ. . . . . | 40,4% |

Па раёнах суадносіны скарыстаньня працы ў розных формах землякарыстаньня неаднолькавы. Найбольш рэзкая розьніца назіраецца ў Мазырскім раёне, дзе суадносіны скарыстаньня працы ў індывідуальных формах і калгасах асабліва моцна адрозьніваюцца. Гэта становіцца зразумелым, калі ўспомніць разьмер селішч, аддаленасьць палёў і цераспалоснасьць хутароў у Палесьсі. Тут пераход да форм землякарыстаньня, найбольш акругляючых гаспадарчую тэрыторыю, павінен даць найбольшы эфэкт у адносінах эканоміі выдаткаў працы. З другога боку ашчаджаную працу ў Мазырскім раёне цяжэй дапасаваць у вытворчасьці, таму што ў гэтым, мала разьвітым ў эканамічных адносінах раёне, темп пераарганізаваньня с. гаспадарчай вытворчасьці найбольш павольны.

Пры іншым эканамічным становішчы, аслабнiўшаяся праца была-б затрачана на інтэнсыфікацыю гаспадаркі, разьвіцьцё новых альбо ўзмац-

ненньне старых галін, і тады розьніца ў скарыстаньні працы паміж формамі не была-б гэтак рэзка; яна магла-б і зусім ня быць альбо мець адваротныя суадносіны. З паказанага пункту погляду становіцца зусім зразумелым вельмі малая розьніца ступеней скарыстаньня працы па формах землякарыстаньня ў Менскім гнязьдзе, і, што асабліва важна адзначыць, падвышэньне яе ў новых формах.

Гэты раён найбольш разьвіты ў таварных і наогул эканамічных адносінах, а таму праца, ашчаджаная тут пры пераходзе да новых форм землякарыстаньня хутчэй стварыла рэарганізацыю с.-гасп. вытворчасьці і знайшла сабе новае прыстасаваньне нават у большым разьмеры, чымся была ашчаджана, таму што новыя формы ў Менскім гнязьдзе маюць вышэйшы % скарыстаньня гадавога запасу працы, чымся вёскі. Гэты адносны збытак выдаткаў працы, пэўна, рацыянальны, таму што адна адзінка яго ў новых формах больш прадукцыйна (гл. табл. 22 дадатк. і разьдзел „Агульны эфэкт вытворчасьці“).

Разглядаючы суадносіны ўсіх выдаткаў працы і выдаткаў на вытворчасьць (табл. - ) мы бачым, што ў калгасах выдаткі працы на вытворчасьць складаюць большы процант ад агульных выдаткаў, чымся ў іншых формах. У сярэднім для ўсіх раёнаў % вытворчых выдаткаў ад усяй нескарыстанай працы складае: ў вёсках 83%, пасёлках 82%, атрубох 83%, хутарох 82% і калгасах 94%.

Індывідуальныя формы землякарыстаньня ня маюць у гэтым маманце ніякіх пераваг адна перад другою. у калгасах-жа існуюць больш рацыянальныя суадносіны. Эканомія працы, ашчада яе ідзе тут па лініі скарачэньня невытворчых выдаткаў, што зьмяншае розьніцу ў вытворчых выдатках паміж калгасамі і індывідуальнымі формамі, даводзячы яе ў іншых выпадках нават да адмоўнай велічыні як напрыклад у Менскім гнязьдзе.

Адзначым скарыстаньне працы па ўзростных групах працаўнікоў:

Табліца 26.

| ФОРМЫ | % скарыстаньня | | | | % запасу і нагрузкі | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Працаўн. | Паўпрац. | Дзяцей | Усяго | Працаўнікі | | Паўпрацаўнікі | | Дзеці | | Усяго |
| | | | | | Запас | Нагр. | Запас | Нагр. | Запас | Нагр. | |
| Вёска . . . | 79 | 50 | 13 | 75 | 86 | 91 | 8 | 7 | 6 | 2 | 100 |
| Пасёлкі . . . | 75 | 40 | 35 | 73 | 85 | 92 | 7 | 4 | 8 | 4 | 100 |
| Хутары . . . | 73 | 60 | 48 | 70 | 86 | 88 | 7 | 7 | 7 | 5 | 100 |

% скарыстаньня па ўзростных групах найменш спрыючы на хутарох, дзе паўпрацаўнікі і дзеці нагружаны больш, чымся ў іншых формах. Тут немалы процант нагрузкі на дзяцей і паўпрацаўнікоў падае па пасьбе жывёлы. Факт неаднакроць адзначаны ў спэцыяльнай літаратуры. Якую адносную вагу маюць узростныя групы працаўнікоў у агульным запасе працы і ў агульным выдатку (нагрузцы) відаць з другой часткі табліцы. Дарослыя працоўнікі ва ўсіх формах землякарыстаньня адносна нагружаны больш свайго запасу, тады як маладшыя ўзросты наадварот. Адзначаная вышэй для хутароў тэндэнцыя да большай, адносна з іншымі формамі, нагрузкі паўпрацаўнікоў і дзяцей пацьвярджаецца і тут.

2.

Разгледзім выдаткі працы на сельскую-гаспадарку

% ад агульнага запасу працы

Табліца 27.

| Формы землякарыстан. | Сярэднее | | | Віцебскі | | | Менскі | | | Бабруйскі | | | Мазырскі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | С.-гаспадарка | З іх | | С.-гаспадарка | З іх | | С.-гаспадарка | З іх | | С.-гаспадарка | З іх | | С.-гаспадарка | З іх | |
| | | Земляробст. | Жывёлагад. | | Земляробст. | Жывёлагад. | | Земляробст. | Жывёлагад. | | Земляробст. | Жывёлагад. | | Землябробст. | Жывёлагад. |
| Вёскі . . . | 44 | 22 | 22 | 51 | 24 | 27 | 33 | 18 | 15 | 46 | 22 | 24 | 47 | 25 | 22 |
| Пасёлкі . . . | 41 | 19 | 22 | 40 | 16 | 24 | 37 | 19 | 18 | 43 | 20 | 23 | 45 | 19 | 29 |
| Атрубы . . . | — | — | — | 39 | 19 | 20 | 36 | 18 | 18 | — | — | — | — | — | — |
| Хутары . . . | 41 | 20 | 21 | 43 | 21 | 22 | 38 | 19 | 19 | 38 | 18 | 20 | 47 | 22 | 25 |
| Калгасы . . . | 41 | 24 | 17 | 44 | 22 | 22 | 38 | 25 | 13 | — | — | — | 41 | 24 | 17 |

Перш за ўсе кідаецца ў вочы наогул малы працант выдаткаў працы на сельскую гаспадарку. Ад агульнага запасу ён не дасягае і паловы. Нялішняе ў інтарэсах характарыстыкі матар'ялу дасьледваньня, а галоўным чынам, каб падкрэсьліць устойлівасьць выдаткаў працы на сельскую гаспадарку штогодна, прывесьці для параўнаньня даныя іншых дасьледваньняў БССР.

% выдаткаў працы ад гадавога запасу

Табліца 28.

| Крыніца дадзеных | Усяго | На с.-гасп. | На земляроб. | На жывёлагадоўлю |
|---|---|---|---|---|
| З Штогодніка ЦСУБ за 1924/25 г. | 80 | 45 | 24 | 21 |
| Пэрспэктыўны плян НКЗБ 1925/26 г. | 75 | 42 | 21 | 21 |
| Гэтае дасьледваньне . . . . . | 75 | 43 | 22 | 21 |

Як бачым, даныя ўсіх трох дасьледваньняў вельмі блізкія, што дае падставу прыдаць ім больш агульнае значэньне.

Выдаткі працы на ўсю сельскую гаспадарку ў сярэднім для ўсіх 4-х гнезд аднолькавы ў новых формах землякарыстаньня і некалькі вышэй у вёсках. Суадносіны паміж выдаткамі на землеробства і жывёлагадоўлю таксама прадстаўляюць мала рознастайнасьці: усюды адносная вага абодзьвюх галін імкнецца да паловы, толькі у калгасах прыметна некалькі большае адхіленьне ў бок землеробства.

Значна больш рознастайнасьці па раёнах. У Віцебскім гнязьдзе новыя формы землякарыстаньня маюць выдаткі працы на с. гасп. ніжэй вёсак на 7—12%. Гэта зьніжэньне падае прыкладам роўнымі часткамі на землеробства (2—8%) і жывёлагадоўлю (3—7%). Тут, відочна, эканомія працы, атрымаўшаяся пасьля пераходу да новых форм землякарыстаньня

не знайшла яшчэ новага дапасаваньня. Іншае становішча ў Менскім гнязьдзе, дзе наадворот, новыя формы абагналі ўжо вёскі па працаёмістасьці с.-гасп. на 4—5%. Цікава адзначыць, што працаёмістасьць ў новых індывідуальных формах павялічылася амаль выключна па лініі жывёлагадоўлі (3—4%). Толькі ў калгасах яна пайшла па лініі земляробства, на якое наогул затрачана тут значна больш, чымся на жывёлагадоўлю. Прычына: высокая зямельная забясьпечанасьць працаўніка. У Бабруйскім гнязьдзе ў меншым выглядзе паўтараецца Віцебскае становішча: у новых формах зьніжэньне на 3—8% па лініі абодзьвюх галін.

У Мазырскім таксама зьніжэньне, але яшчэ менш яскрава выражанае і якое ідзе ў індывідуальных формах па лініі земляробства, тады як жывёлагадоўля наадворот некалькі падвысілася (на 3—4%).

Выдаткі працы на земляробства па разьліку на 1 гэктар с.-г. плошчы г. зн. працаёмістасьць землякарыстаньня наступная:

Табліца 29.

| ФОРМЫ | Сярэдняе | Віцебскі | Менскі | Бабруйскі | Мазырскі |
|---|---|---|---|---|---|
| Вёскі . . . . | 23 | 18 | 28 | 22 | 22 |
| Пасёлкі . . . | 23 | 19 | 29 | 24 | 18 |
| Атрубы . . . | - | 21 | 27 | — | — |
| Хутары . . . | 23 | 29 | 30 | 20 | 24 |
| Калгасы . . . | 14 | 15 | 14 | — | 14 |

У сярэднім па ўсіх чатырох гнездах працаёмістасьць у індывідуальных формах землякарыстаньня аднолькавая. Вельмі рэзка адрозьніваюцца калгасы, маючыя больш нізкую працаёмістасьць. Гэта акалічнасьць не зьяўляецца вынікам толькі высокай землязабясьпечанасьці калгасаў, але безумоўна ёсьць рэзультат больш рацыянальнай арганізацыі працы ў гэтай форме землякарыстаньня, што пацьвярджаецца ніжэйпрыведзенымі данымі аб выдатках рабочых на 1 адзінку прадмету працы (га пасеву).

У сярэднім на 1 га пасеўнай плошчы выдаткі працы наступныя: у вёсках 37 дзён, у пасёлках і хутарох па 36 дзён і калгасах 18 дзён.

Такім чынам толькі ў калгасах рэзка выявілася эканомія ў працы на 1 га, іншыя-ж формы маюць амаль аднолькавую працаёмістасьць. Само сабою зразумела, што эфэктыўнасьць формы не можа быць вымерана толькі гэтымі паказальнікамі, таму што эканомія ў працы ад лепшай арганізацыі тэрыторыі, як адзначана вышэй, можа быць паглынута большай інтэнсыфікацыяй паляводзтва, што адаб'ецца на прыбытку гаспадаркі, які і павінен выявіць сапраўдную цану эканоміі.

Па асобных раёнах працаёмістасьць у розных індывідуальных формах вар'іруе, але ў вельмі вузкіх межах і без вызначаных тэндэнцый. У калгасах няма раённых адхіленьняў ад сярэдняй. У параўнаньні з індывідуальнымі формамі ў калгасах найбольшае адхіленьне аказалася ў Менскім раёне і найменшае у Віцебскім. Гэтыя варыяцыі ў большай ступені залежаць ад землязабясьпечанасьці.

У Менскім раёне землязабясьпечанасьць 1 працаўніка ў калгасах амаль у 2,8 разы больш індывідуальных форм, тады як у Віцебскім прыкладам ў 1,5—1,8 раз.

З павялічэньнем-жа землязабясьпечанасьці працаёмістасьць земляробства звычайна паніжаецца, карэляцыя паміж землязабясьпечанасьцю працаўніка і працаёмістасьцю вельмі значна і раўнаецца у сярэднім $r = -0{,}89 \pm 0{,}09$.

Выдаткі працы на 1 гэктар розных культур зьмяняюцца наступным чынам:

Табліца 30.

| Формы | Жыта | | | Аўса | | | Ячменю | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Прац. дзён (пер.) „М“ | Конскіх дзён | Валав. прад. (руб.) | Прац. дзён (пер.) „М“ | Конскіх дзён | Валав. прад. (руб.) | Прац. дзён (пер.) „М“ | Конскіх дзён | Валав. прад. (руб.) |
| Вёскі . . . | 30,4 | 14,0 | 81 | 25,8 | 12,4 | 85 | 31,0 | 14,9 | 74 |
| Пасёлкі . . . | 29,1 | 11,2 | 82 | 22,8 | 9,9 | 78 | 30,0 | 14,7 | 70 |
| Хутары . . . | 27,8 | 11,6 | 81 | 23,7 | 10,9 | 90 | 31,8 | 13,0 | 79 |
| Калгасы . . . | 18,4 | 12,7 | 89 | 15,0 | 9,2 | 101 | 19,6 | 14,3 | 96 |
| | Бульбы | | | Ільну | | | Сенажаці | | |
| Вёскі . . . . | 62,0 | 30,8 | 216 | 125 | 14 | 111 | 8,0 | 1,6 | 42 |
| Пасёлкі . . . | 67,5 | 30,9 | 213 | 110 | 12 | 80 | 8,8 | 1,9 | 41 |
| Хутары . . . | 60,0 | 24,8 | 227 | 115 | 12 | 107 | 10,9 | 2,0 | 42 |
| Калгасы . . . | 58,8 | 22,5 | 322 | — | — | — | 9,0 | 1,1 | 47 |

Як агульнае правіла—у калгасах выдаткі працы на 1 га культур менш, а прадукцыйнасьць вышэй, чымся ў індывідуальных формах землякарыстаньня.

Па зерневых культурах выдаткі працы менш на 35—40% у параўнаньні з вёскамі, для бульбы-ж розьніца ўсяго каля 5%. У адносінах-жа прадукцыйнасьці як раз наадварот: па зерневых культурах калгасы абагналі вясковыя гаспадаркі прыкладам на 10—25%, тады як бульба на 50%.

Відочна бульбянае поле хутка і лягчэй паддаецца інтэнсыфікацыі, чымся зерневыя культуры, патрабуючыя для рацыянальнай інтэнсыфікацыі больш рэзкай зьмены тэхнікі.

У адносінах расходу конскай цягі розьніца паміж калгасамі і індывідуальнымі формамі значна менш і не заўсёды ў карысьць калгасаў.

Розьніцы ў выдатках працы на 1 га культур у індывідуальных формах невялікія: яны не перавышаюць 10% і не заўсёды ў карысьць новых форм. Так, напрыклад, у пасёлках на 1 га бульбы і сенажаці затрачваецца % на 9 больш працоўных дзён, чымся ў вёсках, таксама для ячменю і сенажаці. У адносінах да іншых культур, новыя формы даюць эканомію працы.

3.

Іншае становішча маем з выдаткамі працы на 1 галаву жывёлы ў год.

Затрачана дзён на 1 галаву дарослай жывёлы

Табліца 31.

| ФОРМЫ | Коні | | Буйн. рагат. жывёла | | Авечкі | | Сьвіньні | | У сярэднім на 1 жывёлу ад усяй жывёлы | | У сярэднім на 1 жывёлу ад прадукц. жыв. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У двору | Усяго с пасьбай | У двору | Усяго с пасьбай | У двору | Усяго с пасьбай | У двору | Усяго с пасьбай | У двору | Усяго с пасьбай | У двору | Усяго с пасьбай |
| Вёскі . . | 17,8 | 47,8 | 22,3 | 26,5 | 1,9 | 2,5 | 12,4 | 13,4 | 23,5 | 36,7 | 26,6 | 31,1 |
| Пасёлкі . | 20,6 | 59,0 | 18,8 | 27,5 | 2,1 | 2,9 | 12,6 | 13,9 | 24,0 | 40,5 | 25,9 | 33,8 |
| Хутары . | 21,4 | 49,1 | 21,5 | 38,3 | 1,9 | 3,3 | 13,2 | 14,2 | 24,8 | 42,9 | 26,2 | 40,0 |
| Калгасы . | 20,0 | 39,6 | 20,9 | 27,1 | 1,0 | 2,5 | — | — | 22,0 | 30,9 | 21,0 | 27,0 |

Як і трэба было чакаць выдаткі працы па разьліку на 1 жывёлінную адзінку вышэй на хутарох, некалькі менш у пасёлках і вёсках і яшчэ менш у калгасах.

Галоўную ролю ў гэтым адыграла летняе ўтрыманьне жывёлы, выдаткі працы на якое і стварылі паказаныя розьніцы па формах землякарыстаньня, таму што догляд за жывёлай у дворы амаль аднолькаў ва ўсіх формах землякарыстаньня. У параўнаньні з вёскамі пасёлкі трацяць на пашу лішніх тры дні на 1 жывёлінную адзінку, хутары цэлых 5 дзён, калгасы-ж эканомяць 4 дні. Гэта для ўсяй жывёлы (прадукцыйн. і працоўнай).

Па асобных-жа відах жывёлы найбольшую розьніцу выдаткаў працы прадстаўляе летняе ўтрыманьне коняй. Яна асабліва вялікая ва ўсіх індывідуальных формах наогул, а ў прыватнасьці ў пасёлках. Догляд у дворы за канём адрозьніваецца вельмі мала. Па іншых відах жывёлы рэзка выдзеляюцца выдаткі хутаран на пасьбу буйнай рагатай жывёлы. У гэтым моманце асабліва яскрава выяўляецца тая растрата працы, якая ўласьціва гэтай форме (а таксама атрубной) пры арганізацыі летняга ўтрыманьня жывёлы.

Наогул, калі ўзяць толькі адну прадукцыйную жывёлу, то лішак выдаткаў на 1 жывёлінную адзінку на хутарох, у параўнаньні з вёскамі =9 дням (на атрубох=12 дням) пры чым весь лішак падае на пасьбу.

Такім чынам летняе ўтрыманьня жывёлы найбольш рацыянальна пастаўлена ў калгасах, хужэй у вёсках і пасёлках; на апошнім месцы стаяць хутары. Рацыянальная эканомія працы на хутарох у земляробстве перакрываецца нерацыянальнымі выдаткамі па догляду за жывёлай.

Праўда аб эканоміі працоўных выдаткаў можна гаварыць наогул вельмі умоўна, таму што яны залежаць ад цэлага шэрагу прычын, дзейнічаючых дыямэтральна процілегла.

Пры пераходзе да новых форм землякарыстаньня зьменяюцца сацыяльна-тэхнічныя ўмовы, дапамагаючыя ня толькі эканоміі працы ў адной частцы (земляробстве) і растраце яе ў другой (жывёлагадоўлі), але і умовы дапамагаючыя рацыянальнай інтэнсыфікацыі гаспадаркі, падвышэньню яе тэхнікі, што прыводзіць альбо павінна прывесьці да новых выдаткаў працы, але больш прадукцыйных.

Такім чынам, як адзначана вышэй, сам па сабе большы ці меншы выдатак працы на адзінку прадмету працы характарызуе становішча рэчаў, але яшчэ мала гаворыць аб рацыянальнасьці альбо рэнтабельнасьці. Гэта, як у фокусе, павінна выявіцца ў аплаце працы, яе прадукцыйнасьці.

Адзначым некаторыя моманты з арганізацыі цягавай сілы, а менавіта: ступень скарыстаньня і сабекошт конскай цягі.

Табліца 32.

| ФОРМЫ | Віцебскі і Менскі | | | Бабруйскі і Мазырскі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Працоўных дзён на 1 каня | У тым ліку на земляробства | Сабекошт 1 дня (кап.) | Працоўных дзён на 1 каня | У тым ліку на земляробства | Сабекошт 1 дня (кап.) |
| Вёскі . . . . | 91 | 58 | 195 | 64 | 42 | 125 |
| Пасёлкі . . . | 100 | 61 | 147 | 70 | 41 | 161 |
| Атрубы . . . | 103 | 56 | 172 | — | — | — |
| Хутары . . . . | 79 | 55 | 238 | 78 | 45 | 142 |
| Калгасы . . . | 127 | 90 | 210 | 110 | 99 | 130 |

Пры агульным вельмі нізкім скарыстаньні конскай цягі, найбольшая нагрузка назіраецца ў калгасах, чаго і трэба было чакаць. У новых індывідуальных формах землякарыстаньня скарыстаньне вышэй, чымся у вёсках (за выключэньнем Віцебско-Менскіх хутароў), але цікава адзначыць, што выдаткі конскіх дзён на земляробства амаль аднолькавы ва ўсіх індывідуальных формах.

Такім чынам лішак скарыстаньня коняй належыць прыпісаць па-за с.-г. працам, якіх значыць больш у новых формах землякарыстаньня. У калгасаў розьніца паміж выдаткамі на земляробства і іншымі найменшая. Тут конская цяга ў большай ступені скарыстоўваецца па свайму непасрэднаму прызначэньню, тады як у дробных формах прыходзіцца адшукваць для яе іншыя працы і тым падзешаўляць сабекошт.

Па раёнах можна ўстанавіць наяўнасьць гэтакой тэндэнцыі: у інтэнсыўных раёнах ступень скарыстаньня цягавай сілы, і сабекошт дня вышэй. Відочна, тут павялічэньне скарыстаньня не пакрывае росту выдаткаў на ўтрыманьне, чаму ў экстэнсыўных раёнах, пры меншай нагрузцы, цягавая сіла каштуе дзешавей.

Упад скарыстаньня цягавай сілы ў экстэнсыўных раёнах больш праявіўся ў індывідуальных формах.

У калгасах упад менш значны, і ён не адбіўся на выдатках на земляробства, чаму ў калгасах скарыстаньне коняй у земляробстве вышэй у інтэнсыўных районах у 1,5 разы, а ў экстэнсыўных у 2 разы ў параўнаньні з індывідуальнымі формамі.

## Вытворчыя тыпы сельскай гаспадаркі.

### 1.

Як адзначана вышэй, (у разьдзеле—мэтадалёгіі і мэтодыкі) форма землякарыстаньня сама па сабе не можа стварыць той ці іншы напрамак

сельскай гаспадаркі, але яна можа палегчыць альбо затрудніць нараджэньне і разьвіцьцё таго ці іншага тыпу гаспадаркі, ствараючагося больш магутнымі фактарамі вытворча-тэхнічнага, эканамічнага і сацыяльнага характараў. Само сабою зразумела, што і формы землякарыстаньня, паколькі яны зьяўляюцца катэгорыямі сацыяльна-тэхнічнага парадку, таксама ўдзельнічаюць ў афармленьні таго ці іншага напрамку, таго ці іншага тыпу сельскай гаспадаркі, але прымат не за імі.

Наша задача ў гэтым разьдзеле высьвятліць, пры якой форме землякарыстаньня раённы тып, устаноўлены на падставе вывучэньня эвалюцыі сельскай гаспадаркі і намечаны, як прагрэсыўны, пэрспэктыўным плянам Наркомзема Беларусі, зьяўляецца найбольш яскрава выражаным.

Такім чынам само вывучэньне тыпаў па формах землякарыстаньня будзе насіць характар параўнаўчы, характар выяўленьня розьніц у выражанасьці ўжо ўстаноўленага зараней тыпу. Гэткая пастаноўка па-першае, пазбаўляе даны аналіз самастойнасьці ў адносінах адшуканьня новых тыпаў сельскай гаспадаркі, па-другое, прымушае зьвярнуць увагу на колькасную выражанасьць тыпу і па-трэцяе, прымушае ў інтарэсах колькаснага параўнаньня скарыстаць тыя паказальнікі тыпаваньня, якія былі ўжо пакладзены ў аснову пры ўстанаўленьні сельска-гаспадарчых раёнаў.

Пры выбары гнёсд дасьледваньня, тыповасьць іх у адносінах напрамку сельскай гаспадаркі ўстанаўлівалась намі па паказаньнях с.-гасп раёнаваньня, зробленага Загадчыкам Аддзелу Эканомікі і Статыстыкі НКЗ Беларусі Л. Г. Опра.

У аснову раёнаваньня ім былі пакладзены натуралістычныя паказальнікі, подобныя да прынятых А. Н. Чалінцавым.

У сваім параўнаўчым аналізе, мы прымушаны будзем выходзіць з іх, але дабавім паказальнікамі валавой прадукцыі і таварнасьці.

Савецкая Беларусь, не гледзячы на сваю параўнаўча малую тэрыторыю, прадстаўляе вялікую рознастайнасьць у адносінах вытворчых тыпаў с.-гаспадаркі. Тэрытарыяльная працяжнасьць рэспублікі ў 400—500 вёрст з поўначы на поўдзень і нямнога менш з захаду на ўсход вызначае яе кліматычную рознастайнасьць, а геотэктоніка краю з пазьнейшымі ледавіковымі і пасьляледавіковымі напластаваньнямі, якія абумовілі нізінныя Палескія балоты з лёгкімі аморфнымі глебамі на поўдні (Мазырская акруга) і бальш павышаныя масывы ў цэнтры і паўночнай частцы (Віцебская акруга) рэспублікі, з параўнаўча слаба разьвітым „маладым“ рэльефам і глебавым насьцілам (з прычыны больш пазьняга вызваленьня ад ледавікоў), ствараюць тую стракатную мазаіку тапаграфічных і глебавых адзнак, якімі слаўна Савецкая Беларусь.

Няроўнай меры ахоп ўсіх акруг паравым транспартам, разьвіцьцё асноўных, маючых шырокае эканамічнае значэньне ліній якога ў межах Беларусі абумоўліваліся агульнымі інтарэсамі ўсяй дзяржавы, пракладваўшай шляхі да паўночна-заходніх партоў у 60—70 г. г. мінулага ста годзьдзя на Лібаву праз Менск і Рыгу праз Віцебск (і пазьней да паўночных) на Ленінград, стварыў разам з прыроднай рознастайнасьцю і цэлым шэрагам іншых момантаў, свой асаблівы эканамічны ланшафт, стракатасьць якого заключаецца ня столькі ў якаснай рознастойнасьці тыпаў с.-гасп. вытворчасьці, сколькі ў інтэнсыўнасьці праяўленьня іх, у асаблівасьці ў мясьцовасьцях, якія падпалі пад перакрыжованы ўплыў двух асноўных жал. дор. напрамкаў: на паўнач-захад і на поўнач (усходнія раёны Бабруйскае акругі і цэнтральныя Віцебскае).

Паказаным вышэй с.-гасп. раёнаваньнем у Беларусі выяўлена тры асноўных тыпа с.-гасп. вытворчасьці: 1) бульбяна-травапольна-сьвінаводна-малочны, 2) **ільняна-травапольна-малочны** і 3) **зернева-мясны.**

Вывучаныя намі гнезды, як паказана вышэй, маюць: Віцебскае—другі тып. Менскае—першы, Бабруйскае—зьмешаны (першы і другі) і Мазырскае—трэці.

2.

Перайдзем да гнездавога разгляданьня і начнем з Віцебскае акругі. „Вытворчы тып гаспадаркі, як напрамак разьвіцьця апошняга і вызначаецца тым, якая сыстэма (вытворчая М) у сваім нарастаньні выціскае папярэднюю ёй аджываючую сыстэму, а ступень выражанасьці тыпу вызначаецца дасягнутай ступеньню разьвіцьця перамагаючай сыстэмы"[1]).

Якія вытворчыя сыстэмы гасп. ў Віцебскім с.-гасп раёне зьяўляюцца рэгрэсыўнымі, аджываючымі і якія ідуць ім на зьмену? Гэта можна прадставіць у наступным выглядзе:

I. Аджываючая




II. Прагрэсыўная




Аджываючая вытворчая сыстэма характарызуецца наступнымі комплексамі сувязяй складаючых компонэнтаў (паказаны стрэлкамі): 1) зерневыя разьвіваліся за кошт поцерабу леса-хмызьнякоў і, магчыма, часткова за кошт разворкі лугоў, хоць апошнія, відочна, былі асновай мясному жывёлаводзтву, у сваю чаргу злучанаму з зерневымі ўзаемнай сувязью (сымбіоз) праз гной і гуменныя кармы.

У пытаньні луга-хмызьнякоў буйная рагатая жывёла і зерневыя зьяўляюцца антаганістымі, паскольі абодва прэтэндуюць на занятыя імі плошчы, але яны сваі супярэчныя інтарэсы прымірають пакуль што непасрэднымі компэнсацыямі адно другому. Гістарычна мы тут назіраем найбольш, у параўнаньні з другімі раёнамі БССР, шпаркую расчыстку леса-хмызьнякоў (за 30 год, 1887—1917 г. г. на 43%), высокі рост пашні і вялізарны рост сенажатных плошчаў.

2) Экстэнсыўнае разьвіцьцё свінагадоўлі адбываецца з аднаго боку на леса-хмызьняковых пашах (сувязь найбольш раньняя), з другога на бульбе, пазыцыя якое, у сваю чаргу, падмацоўвалася буйнай рагатай жывёлай, а галоўным чынам, ведома, спажывецкімі запытамі 3) Лён меў асноўную базу на поцерабах і разворках леса-хмызьнякоў, а позьней, відочна, ішоў часткова па бульбе, паскольі тэхнічна гэта ўвязваецца з запытам ільну на чыстыя ад пустазельля зямлі, але гэта можа адносіцца ўжо да прагрэсыўнай сыстэмы.

Усё злучэньне элемэнтаў прагрэсыўнай вытворчай сыстэмы больш простае і компактнае: лен на інтэнсыўнай аснове (пасеўныя травы і

[1]) Проф. Н. Н. Кажанов.—Сельско-хозяйственная экономия стр. 126.

бульба), малочныя прадукты на аснове пасеўных траў і інтэнсыўная сьвінагадоўля на водкідах перапрацоўкі малака і бульбы.

Паглядзім, якава колькасная выражанасьць сыстэмы гаспадаркі па формах землякарыстаньня.

Табліца 33.

| Формы землякар. | На 100 кароў галоў маладняка | На 100 гасп.: Авечак дарослых | На 100 гасп.: Сьвіней ад 4 мес. і ст. | На 100 дарослых сьвіней маладняка да 1 г. | На 100 авечак сьвіней | На 100 га пасеву—га: Травы | На 100 га пасеву—га: Ільну | На 100 га пасеву—га: Бульбы | На 100 га пасеву—га: Усяго яравых | На 100 га пасеву—га: Азімых культур |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Паказальнікі с.-г. раёнаваньня: | | | | | | | | | | |
| Сярэдн. па раёну | 47 | 203 | 149 | 170 | 73 | 7,7 | 6,5 | 8,3 | 22,5 | 36,9 |
| „ па вол. гнёзда | 50 | 196 | 152 | 174 | 77 | 6,0 | 9,3 | 8,2 | 23,5 | 35,0 |
| Вёскі . . . . | 56,0 | 215 | 134 | 339 | 62 | 3,1 | 6,9 | 11,7 | 21,7 | 39,4 |
| Пасёлкі . . . | 50,0 | 311 | 138 | 456 | 44 | 6,9 | 7,2 | 13,0 | 27,1 | 30,5 |
| Атрубы . . . | 45 | 90 | 82 | 570 | 91 | 3,8 | 2,0 | 20,7 | 26,5 | 34,6 |
| Хутары . . . | 70 | 288 | 162 | 380 | 56 | 9,1 | 8,3 | 11,6 | 29,0 | 31,9 |

| Формы землякар. | % валавой прадукцыі ад усей: Ільну | Бульбы | Малака | Сьвініны | Мяса | % валавой таварнасьці ад усей: Ільну | Бульбы | Малака | Сьвініны | Мяса |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вёскі . . . . | 4,6 | 8,0 | 80 | 13 | 6 | 22 | 1 | — | 7 | 37 |
| Пасёлкі . . . | 2,3 | 13,2 | 14 | 12 | 9 | 16 | 9 | — | 17 | 28 |
| Атрубы . . . | 0,4 | 13,3 | 11 | 12 | 4 | — | 17 | — | 16 | 33 |
| Хутары . . . | 3,1 | 18 | 14 | 9 | 6 | 19 | 5 | 5 | 5 | 23 |

Раўнаючы паказальнікі раёнаваньня, устаноўленыя па перапісу 1917 году з паказальнікамі па формах землякарыстаньня, якія адносяцца да 1927 г., а таксама паказальнікі форм паміж сабою, мы можам констатаваць наступнае: вёскі па малочнаму напрамку стаяць ніжэй раёну, але далёка абагналі яго па „абмаложваньню“ сьвінога статку, што трэба адзначыць—зьяўляецца агульным для ўсіх форм.

Апошняе часткова можна растлумачыць зрушэньнем у бок скораспеласьці сьвіней, але галоўным чынам тут адбываецца працэс прымнажэньня статку, таму што агульная колькасьць дарослых сьвіней на 100 гасп ва ўсіх формах землякарыстаньня (за выключэньнем хутароў) зьнізілася, дакладна таксама, як і становішча іх у адносінах авечак. Авечкі моцна ўмацаваліся за разглядваемы прамежак, асабліва ў пасёлках і хутарох. У адносінах культур у вёсках, панізіўся % траў, ільну, ўсяго

незерневых культур і ўзрос $^0/_0$ пад азімымі культурамі, але падвысіўся $^0/_0$ бульбы. Наогул далека ня ўсе зьмены спрыяючыя для разьвіцьця прагрэсыўнай сыстэмы вытворчасьці. Моцная яшчэ пазыцыя аджываючай сыстэмы тут характарызуецца вышэйшым $^0/_0$ азімых культур і вышэйшым $^0/_0$ таварнага мяса, сярэднім сенажаці і выгану (табл. 9-б дадатак).

Пасёлкі даюць іншы малюнак. Тут мы бачым больш вызначана і яскрава выражаны вытворчы тып раёну.

Малочнасьць па натуралістычнаму паказальніку ўступае толькі атрубам і па валавой прадукцыі роўна з хутарамі.

У адносінах сьвінагадоўлі пасёлкі зрабілі дадатнае зрушэньне, больш ярка выяўленае з якаснага боку. Па маладняку статку яны ўступаюць толькі атрубам, па валавой прадукцыі раўняюцца з імі, а па таварнасьці вышэй ўсіх форм. Якасны склад статку ў пасёлках таксама вышэй іншых (табл. 14-а дадатк.) так напр., сярэдняя вага сьвіньні ў пасёлках = 70 клг. пры 56—64, у іншых формах вага адкормленага кабана = 94 клг. супроць 76—88 і цана адной сьвіньні 30 руб супроць 19—25 у вёсках, атрубох і хутарох. Пэўна, гэты напрамак у пасёлках перайшоў на вышэйшую інтэнсыўную ступень і больш рэзка парваў з экстэнсыўным спосабам вядзеньня сьвінагадоўлі, чымся гэта зрабілі іншыя формы землякарыстаньня. Першачарговай задачай у адносінах свінагадоўлі тут зьяўляецца колькаснае павялічэньне статку за кошт аўчарства. Пропорцыя культур у пасёлках таксама носіць больш яркія рысы выражанасьці прагрэсыўнай сыстэмы, чымся ў іншых формах.

Па $^0/_0$ траў, ільну і незерневых, яны ўступаюць толькі хутаром, па бульбе займаюць першае месца, а $^0/_0$ азімых у іх найменшы (прымета для ўмоў Беларусі дадатная). Тэмп нарастаньня прагрэсыўных культур пасьля пераходу да новай формы землякарыстаньня (табл. 10 дадат.) таксама сьведчыць аб большай успрыймальнасьці пасёлкаў, у асаблівасьці, калі прыняць пад увагу розьніцу ва ўзросьце параўнаемых форм: пасёлкі ўзятыя ў дынаміцы маюць 2-х гадовы ўзрост, тады як атрубы 13—14г., хутары ў сярэднім каля 9 год. Ураджаі (табл. 12-а і б дадатк.) і тэхніка паляводзтва не заўсёды ў пользу пасёлкаў, што зусім зразумела, паскольки пасёлкі знаходзяцца зараз у стадыі колькаснага прымнажэньня элемэнтаў прагрэсыўнай вытворчай сыстэмы гаспадаркі. Яны пераўжываюць зараз пэрыяд фармальнага выражаемага колькасьцю і разьмерам прымет замацаваньня якасна новай сыстэмы. Гэта, як кажуць, экстэнсыўны пэрыяд інтэнсыўнай сыстэмы гаспадаркі. Але і гэты першапачатковы рэканструкцыйны пэрыяд для саміх пасёлкаў, у параўнаньні з іх станам у матчынскай формы (у вёсцы) праваджаецца высокімі і вытворчымі дасягненьнямі. Так напр., процант прыросту валавой прадукцыі земляробства па разьліку на 1 га пасьля пераходу да новай формы землякарыстаньня ровен у пасёлках 17, атрубох 9 і хутарох 13 (табл. 12-а дадаткаў) Гэта сьведчыць аб найвышэйшым тэмпе росту ў пасёлках. Затым $^0/_0$ незанятага папару ў пасёлках 21,7$^0/_0$ ад пахаці, атрубох 22,2$^0/_0$ хутарох 25$^0/_0$ і вёсцы 33$^0/_0$.

Выкладзеным у значнай меры ахарактарызавана становішча атрубоў і хутароў. Найбольш яркай рысай у атрубох зьяўляецца самы высокі паказальнік малочнага напрамку ў статку, але $^0/_0$ малака ў валавой прадукцыі сярэдні, дакладна таксама, як $^0/_0$ траў.

Гэта паказвае на малы разьмер галіны, якасна пастаўленай вельмі высока. Ня менш характэрнай прагрэсыўнай рысай у атрубох зьяўляецца самы малады склад сьвіней, высокі (роўны з пасёлкамі) $^0/_0$ валовой прадукцыі сьвінагадоўлі і высокі процант таварнай сьвініны. Гэта правад-

джаецца найвышэйшым % бульбы. Але якасныя бакі сьвінога складу, па вазе, каштоўнасьці галавы і г. д. ніжэй пасёлкаў і нават хутароў. Такім чынам па лініі прагрэсыўнай жывёлагадоўлі вытворчы тып у атрубох выражан ясна, але нельга таго-ж сказаць аб земляробстве. Тут мы бачым самы нізкі процант траў, ільну, высокі % азімых, ўсё гэта гаворыць аб дыспрапорцыі ў разьвіцьці паасобных частак прагрэсыўнай сыстэмы гаспадаркі. Аджываючая сыстэма прадстаўлена яшчэ высока, усе компонэнты % азімых, таварнасьць мяса і % лугу і выгану ідуць непасрэдна за вёскамі.

Аб хутарох мала што застаецца дабавіць. Жывёлагадоўля тут таксама носіць рысы прагрэсыўнага напрамку, але ледзь-ледзь можа пратэндаваць на сярэдняе месца. Натуралістычныя паказальнікі не ў карысьць хутароў: колькасьць маладняка на 100 кароў найбольшая, а ў сьвіным статку наадварот—найменшая (выключая вёскі).

З валавой прадукцыяй малака справа ідзе ляпей, але па прадукцыі сьвінагадоўлі хутары зноў спускаюцца на апошняе месца, дакладна таксама, як і па таварнасьці. Наогул сьвінагадоўля на хутарох стаіць значна ніжэй малочнага напрамку, які хаця і больш яскрава выражаны, але уступае пасёлкам. Інакш ідзе справа з паляводзтвам. Тут хутары займаюць першае месца па травах, ільну, агульнаму % незерневых. % валавой прадукцыі бульбы на хутарох найвышэйшы, лён па валавой прадукцыі і таварнасьці вышэй пасёлкаў і атрубоў.

Такім чынам можна адзначыць, што цэлы шэраг прымет гаворыць аб лепшай пастаноўцы земляробства на хутарох (склад культур, тэхніка і ўраджайнасьць), але наогул гэтыя дасягненьня ня вельмі вялікі, прынамсі валавая прадукцыя земляробства па разьліку на 1 га раўняецца пасялковай—41 руб. (Табл. 12-б дадатку).

Затым некаторыя элемэнты аджываючай сыстэмы яшчэ моцныя, як напр. разьмер выгану ў складзе угодзьдзяў, які дасягае да 11% пры—0,2—3,0 у іншых формах.

Наогул ўсё-жа належыць палічыць, што хутары аказваюцца больш успрыймальнымі ў земляробстве, што часткова тлумачыцца цэлым шэрагам пераваг у арганізацыі тэрыторыі і зьвязаных з гэтым асаблівасьцяй вытворчага і асабістага характараў, у арганізацыі тэрыторыі, якія пакуль што даволі было дзеля таго, каб стымуляваць рух уперад, нават, у індывідуальным парадку.

Такім чынам формы землякарыстаньня могуць быць пастаўлены ў наступны рад па інтэнсыўнасьці выяўленьня асноўных прымет вытворчага тыпу:

Тып с.-г. раёна: ільняна—траваполна—малочны—сьвінаводны

| | | | |
|---|---|---|---|
| пасёлкі: | лён— | трава— | малако—сьвініна |
| хутары: | лён— | трава— | малако— — |
| атрубы: | — | — | малако—сьвіньні |
| вёскі: | лён— | — | малако— — |

3.

Прагрэсыўная вытворчая сыстэма ў Менска-Слуцкім сельска-гаспадарчым раёне можа быць прадстаўлена ў выглядзе наступных галоўнейшых тэхнічна зьвязаных зьвеньняў:




З галін жывёлагадоўлі асабліва моцна пазыцыя сьвінагадоўлі, малочныя прадукты на другім месцы, а адкорм мае ўжо спэціфічны характар. З прагрэсыўных культур асноўнымі зьяўляюцца бульба і пасеўныя травы, зерневыя маюць спэцыфічны характар (ячмень, насеньне) і колькасна нявысокую адносную вагу.

Якавы колькасныя паказальнікі вытворчага тыпу:

Табліца 34.

| Формы землякарыстаньня | На 100 кароў галоў маладняка | На 100 гасп.: Авечак дарослых | На 100 гасп.: Сьвіней ад 4 мес. і ст. | На 100 дарослых сьвіней маладняка да 1 году | На 100 авечак сьвіней | На 100 га пасеву—га: Травы | На 100 га пасеву—га: Ільну | На 100 га пасеву—га: Бульбы | На 100 га пасеву—га: Усяго нязерневых | На 100 га пасеву—га: Азімых культур |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Паказальнікі с.-г. раёнаваньня: | | | | | | | | | | |
| Сярэдн. па раёну | 53,3 | 131 | 137 | 172 | 104 | 6,7 | 2,2 | 8,7 | 17,6 | 39,8 |
| „ па вол. гнёзда | 44 | 127 | 111 | 164 | 86 | 7,2 | 2,0 | 9,8 | 19,2 | 40.2 |
| Вёскі . . . . | 36,9 | 250 | 164 | 144 | 66 | 13,7 | 3,6 | 12,6 | 29,9 | 34,1 |
| Пасёлкі . . . | 47,0 | 184 | 123 | 209 | 66 | 11,8 | 3,6 | 14,0 | 29,4 | 33,8 |
| Атрубы . . . | 61 | 200 | 185 | 152 | 92 | 1,4 | 3,0 | 17,8 | 22,2 | 42,0 |
| Хутары . . . | 68 | 314 | 193 | 269 | 60 | 17,4 | 2,7 | 12,1 | 32,2 | 38,4 |

| Формы землякарыстаньня | % валавой прадукцыі ад усей: Ільну | % валавой прадукцыі ад усей: Бульбы | % валавой прадукцыі ад усей: Малака | % валавой прадукцыі ад усей: Сьвініны | % валавой прадукцыі ад усей: Мяса | % валавой таварнасьці ад усей: Ільну | % валавой таварнасьці ад усей: Бульбы | % валавой таварнасьці ад усей: Малака | % валавой таварнасьці ад усей: Сьвініны | % валавой таварнасьці ад усей: Мяса |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вёскі . . . . | 1,3 | 13.4 | 11,7 | 8,8 | 4,5 | 1 | 1 | 15 | 11 | 33 |
| Пасёлкі . . . | 1,6 | 12.4 | 18,0 | 13,0 | 5,2 | — | 1 | 11 | 15 | 43 |
| Атрубы . . . | 1,0 | 17,7 | 23,6 | 9,2 | 6,9 | — | — | — | 19 | 37 |
| Хутары . . . | 1,2 | 12,4 | 14,9 | 11,7 | 5,1 | — | 1 | 10 | 19 | 12 |

Пры параўнаньні пакавальнікаў раёнаваньня (1917) з данымі нашага дасьледваньня заўважваецца агульная для ўсіх форм землякарыстаньня тэндэнцыя, адзначаная і ў Віцебскім гнязьдзе: абсалютнае і адноснае (у адносінах да сьвіньней) павялічэньне авечак, але тут яно праваджаецца абсалютным ростам свінога статку, чаго няма ў Віцебскім раёне, пэўней, што знаходзіцца там яшчэ ў першай стадыі працэсу (намнажэньне маладняка). Затым агульным таксама зьяўляецца высокі рост травянога кліну, бульбы і усіх нязерневых.

Такім чынам палявая гаспадарка тут зьмяняе сваю структуру ў прагрэсыўным напрамку, чаго нельга сказаць у адносінах да мелкай жывёлагадоўлі, дзе ўзмацненьне ролі аўчарства павінна расьцэньвацца як узмацненьне замыканьня гаспадаркі ў самой сабе. Наогул жа тэмп нарастаньня новай сыстэмы у гэтым гнязьдзе больш высокі, хоць неабходна адзначыць, што прыведзенае параўнаньне, пачатку і канца дзесяцігодзьдзя 1917—27 г. можа быць зроблена толькі з вялікімі абмоўкамі, таму што колькасьць параўнаемых матар'ялоў мэтад іх дабываньня і распрацоўкі розныя.

Малочны напрамак па натуралістычнаму паказальніку і па таварнасьці больш яскрава выражаны ў вёсках, за імі па абодвух гэтых паказальніках ідуць пасёлкі, а затым ўжо хутары і атрубы (у апошніх таварнасьць малака=0). Па валавой прадукцыі пасёлкі ўтрымліваюць свае другое месца, (першае займаюць атрубы), а вёскі становяцца на апошняе. Па сваёй якасьці, дзённаму ўдою, жывой вазе і да т. п. каровы вышэй на хутарох (табл. 14-а дадатк.), але хутары не займаюць першага месца па малочнаму напрамку з прычыны таго, што ў іх самы высокі % маладняка, што часткова можна вытлумачыць намнажэньнем статку, таму што мяса на хутарох складае нявысокі % таварнасьці. Затым па якасьці кароў ідуць ў зьніжаючымся парадку: атрубы, пасёлкі, вёскі. У гэтым гнязьдзе мы зноў бачым, што пасёлкі ўладаюць найбольш шырокім колькасным абхопам прагрэсыўнага малочнага напрамку, якасна-ж яно выяўлена яшчэ недастаткова для займаньня першага месца.

Сьвінагадоўля найбольш яскрава выражана на хутарох. Тут мы маем найбольшую абсалютную колькасьць сьвіней на 1 гасп., самы малады склад сьвінога статку і высокую адносную вагу таварнай сьвініны. Але па валовай прадукцыі хутары ўступаюць пасёлкам, якія могуць быць пастаўлены па гэтай прымеце, а таксама па моладасьці статку і таварнасьці на другое месца, у адносінах-жа авечак і сьвіней на першае. Пасёлкам нехапае для поўнага першага месца, галоўным чынам, якасных момантаў у арганізацыі адкорму (мае самую нізкую вагу адкормліваемага кабана—табл. 14-а дадаткаў).

Атрубы, хоць і маюць высокую таварнасьць сьвініны, і якасна сьвіньні не ўступаюць хутарам, але доля валовае прадукцыі нізкая, толькі немногім перавышае вёскі, склад статку таксама найбольш дарослы і суадносіны паміж авечкамі і сьвіньнямі неспрыяючыя.

Па прапорцыі культур найбольш цяжка вызначыць, якой форме землякарыстаньня трэба аддаць перавагу. Калі па травах хутары па-за канкурэнцыяй і маюць высокі % нязерневых наогул, дык у адносінах бульбы ўступаюць усім формам і захавалі вельмі высокі % азімых культур. Пасёлкі высоўваюцца на першае месца толькі ў адносінах % азімых культур, у іншым займаюць другое альбо трэцяе месца. Атрубы маюць толькі найвышэйшы % бульбы (але не вышэйшую ўраджайнасьць), па другіх жа прыметах яны стаяць на апошнім месцы, прычым катастрафічна нізкі % траў. Калі мы ўспомнім, што ў Віцебскім гнязьдзе ў ат-

рубох выявілася гэтакая-ж тэндэнцыя ў прапорцыі культур (высокі % бульбы і нізкі траў) і паставім гэта ў сувязь з параўнаўча высокім становішчам сьвінагадоўлі, дык ёсьць падстава зрабіць вывад аб наяўнасьці ў атрубох такіх умоў, якія спрыяюць бульбяна-сьвінаводнаму напрамку ў большай ступені, чымся іншыя формы. Тэрыторыяльная падзельнасьць сядзібы і галоўнага палявога вучастку затрудняе ўтрыманьне буйнай рагатай жывёлы і культуру пасеўных траў на палявым вучастку, які знаходзіцца ў ізаляванай „чужой сфэры ўплыву". Такое становішча стымулюе інтэнсыфікацыю прысядзібных галін, менш патрабуючых на данай ступені разьвіцьця шырокага палявога прастору, да ліку якіх належыць аднесьці сьвінагадоўлю.

Не апэшняе месца па культурах займаюць вёскі і наогул інтэнсыўнасьць земляробства ў іх высокая, што відаць па валовай прадукцыі земляробства па разьліку на 1 га (табл. 12-а дадатку): у вёсках—73 р., пасёлках 67 руб., атрубох—63 руб., хутарох 63 руб. Потым % незанятога папару тут таксама найменшы (табл 9-б дадатк ). Але тэхніка паляводзтва ўсё-ж носіць больш рысаў аджываючай сыстэмы гаспадаркі, так напрыклад, больш інтэнсыўна ўгнойваюцца азімыя культуры і менш бульба (уносіцца цэнтнераў на 1 га жыта: у вёсках 8,8, пасёлках 7,5, атрубох 2,8, хутарох 5,4; бульбы: у вёсках 12,0, пасёлках 17,0, атрубох 17,0, хутарох 19,4) і г. д. Самая інтэнсыфікацыя тут ідзе па лініі ўзмоцненай працаёмістасьці культур, не заўсёды апраўдываемай атрымліваемым эфэктам, дзякуючы чаму мы бачым у вёсках паніжаную рэнтабельнасьць вытворчасьці і прадукцыйнасьці працы і зямлі (гл. агульную эфэктыўнасьць вытворчасьці).

Прыведзём для большай ілюстрацыі даныя аб зьмене некаторых паказальнікаў пасьля пераходу да новых форм землякарыстаньня.

Табліца 35.

| Формы землякарыстаньня | % прыросту на 1 гасп. | | | | Прырост на 100 галоў | | | % прыросту ўраджаю на 1 га | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Буйн. раг. жыв. | | Сьвіней | | | | | | |
| | Галоў | Кошт 1 гал. | Галоў | Кошт 1 гал. | Кароў маладняка | Дарослых сьвіней, падсьвін. | Авечак сьвіней | Бульбы | Жыта |
| Пасёлкі . . . | 13 | 39 | 80 | 39 | —15 | 50 | 5 | 15 | —34 |
| Атрубы . . . | —16 | 26 | 25 | 54 | 82 | 47 | — 1 | 18 | —20 |
| Хутары . . . | 60 | 80 | 121 | 66 | 61 | 230 | — | 70 | —15 |

Дынаміка наогул пацьвярджае зробленыя вышэй вывады [1]): колькасьць маладняка на 100 кароў павялічылася на хутарох і атрубох, тады як у пасёлках паменшылася. Сьвіны статак у большай ступені „абмаладзіўся" на хутарох і ў пасёлках; якасна буйная рагатая жывёла і сьвіньні палепшыліся ва ўсіх формах, але буйная рагатая жывёла. ў атрубох палепшылася менш, чымся ў пасёлках, тады як сьвіньні наадварот, што таксама да вядомай ступені пацьвярджае сымпатыі атрубоў да сьвінагадоўлі, выкліканыя асаблівасьцямі самой формы землякарыстаньня; ураджайнасьць аджываючай культуры жыта ўпала, тады як прагрэсыўная куль-

[1]) Усе дадзеныя дынамікі прыведзены для II эканамічнай групы, за выключэньнем % прыросту сьвіней на хутарох, па якому прыведзена сярэдняя. Знак — азначае памяншэньне ў параўнаньні з выходным становішчам у матчынскай форме.

тура бульба ўзрасла, што да вядомай ступені згодна з прыведзенымі вышэй дадзенымі аб угнаеньні і характарызуе адносіны гаспадаркі да менш „цікавых“ культур.

Але неабходна адзначыць, што ўпад ураджаю жыта занадта вялік дзеля таго, каб тлумачыць яго толькі паказанымі момантамі; тут бязумоўна зрабіла ўплыў і тая акалічнасьць, што гаспадарчы год, за які было зроблена дасьледваньне (1926—27 г.), наогул адзначаўся зьніжаным ураджаем зерневых культур.

Такім чынам прыведзеныя дадзеныя даюць падставу паставіць ўсе формы землякарыстаньня ў наступны рад па выражанасьці ў іх прагрэсыўнага напрамку:

Тып сельска-гаспадарчага раёну: бульбяна-травапольна-сьвінаводна-малочны.

Пасёлкі: бульба—трава—сьвінагадоўля—малочныя прадукты.

Хутары: трава—бульба—сьвінагадоўля—малочныя прадукты.

Вёскі: трава—бульба—малочныя прадукты—сьвінагадоўля.

Атрубы: бульба—сьвінагадоўля—малочныя прадукты.

4.

У Бабруйскім гнязьдзе вытворчы тып сельскай гаспадаркі мае рысы двух папярэдніх тыпаў і зьяўляецца наогул менш выяўленым. Тэрытарыяльнае становішча гэтага гнязда, разьмешчанага на скрыжаваньні двух неадначасова зьявіўшыхся ж.-д. гандлёвых шляхоў, на поўнач (у Ленінград) і на захад (у Лібаву), зусім вытлумачвае неазначанасьць вытворчага тыпу, а малая агульная развітасьць усяго с.-гасп раёну паслужыла прычынай слабай выяўленасьці яго. Прагрэсыўнымі паказальнікамі тут будуць: бульба, лён, пасеўныя травы, сьвіньні, каравячае масла. Паглядзім якава інтэнсыўнасьць іх праяўленьня ў розных формах землякарыстаньня.

Табліца 36.

| Формы землякарыстаньня | На 100 кароў гаўоў маладняка | На 100 гасп.: Авечак дарослых | На 100 гасп.: Сьвіней ад 4 мес. і ст. | На 100 дарослых сьвіней маладняка да 1 году | На 100 авечак сьвіней | На 100 га пасеву—га: Травы | Ільну | Бульбы | Усяго незерневых | Азімых |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Паказальнікі с.-г. раёнаваньня: | | | | | | | | | | |
| Сярэдн. па раёну | 61,5 | 188 | 224 | 141 | 119 | 1,7 | 3,9 | 11,1 | 16,7 | 42,2 |
| „ па вол. гнёзда | 67,5 | 126 | 216 | 216 | 171 | 1,1 | 4,0 | 11,8 | 16,9 | 43,5 |
| Вёскі . . . . | 64 | 330 | 328 | 208 | 100 | 1,6 | 3,1 | 14,4 | 19,1 | 43,7 |
| Пасёлкі . . . | 44,7 | 323 | 300 | 100 | 96 | 2,4 | 3,7 | 16,7 | 22,8 | 30,4 |
| Хутары . . . | 42 | 263 | 170 | 195 | 65 | 3,9 | 3,0 | 14,9 | 21,8 | 42,4 |

| Формы землякарыстаньня | % валавой прадукцыі ад усей: Ільну | Бульбы | Малака | Сьвініны | Мяса | % валавой таварнасьці ад усей: Ільну | Бульбы | Малака | Сьвініны | Мяса |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вёскі . . . . | 1,3 | 16,2 | 16,1 | 12,4 | 5,7 | 2 | 4 | — | 21 | 31 |
| Пасёлкі . . . | 1,3 | 16,8 | 7,5 | 13,5 | 2,9 | — | 3 | — | 10 | 44 |
| Хутары . . . | 1,3 | 16,2 | 10,6 | 9,2 | 4,4 | 1 | 12 | — | 5 | 27 |

У адносінах выяўленасьці жывёлаводных паказальнікаў за першае месца змагаюцца ўсе тры формы землякарыстаньня. Калі вёскі маюць нізкія паказальнікі малочнасьці, дык яны кампэнсуюць іх высокім становішчам сьвінагадоўлі, якая як па абсалютнаму насычэньню гаспадаркі, так і па ўзростнаму складу і таварнасьці займае ў іх першае месца, але па маладосьці сьвінога статку, яны на многа ўступаюць вёскам і хутарам, а па % таварнай сьвініны вёскам. Хутары рэзка выяўляюць свой малочны напрамак і адсталасьць сьвінагадоўлі. Якасны бок справы (табл. 14-а дадатку) пацьвярджае гэтае становішча: на хутарох мы маем вышэйшы дзённы ўдой, вышэйшую вагу і каштоўнасьць каровы, тады як у адносінах да сьвіней яны абагналі толькі вёскі і ўступаюць пасёлкам, якія па якаснаму складу сьвіней стаяць на першым месцы.

У адносінах да кароў пасёлкі займаюць сярэднее месца, паміж хутарамі і вёскамі, але бліжэй да першых, так напр., вышэйшы дзённы ўдой у пасёлках 4,3 літра, хутарох 4,9, а ў вёсках толькі 2,2.

Прапорцыя культур узгадняецца з тэндэнцыямі жывёлагадоўлі: хутары маюць большы % траў, але меншы бульбы, пасёлкі наадварот. У адносінах-жа агульнай колькасьці пасеву нязерневых, пасёлкі займаюць першае месца, дакладна таксама, як і ў адносінах зьніжэньня пасеву азімых. Праўда, апошняя акалічнасьць для данага выпадку ня можа цалкам расцэньвацца, як устойліва-прагрэсыўная, таму што ў замену азімых у пасёлках мы бачым большы % грэчкі (17% супроць 9,7% у вёсках і 10,4% на хутарох), але ўсё-ж ламаньне азімых тут найбольшае. Якасныя паказальнікі паляводзтва не ў карысьць пасёлкаў: па ўраджаях культур яны адсталі ад хутароў і вёсак (табл. 12 дадатк.) дакладна таксама па ўгнойваньні і другіх захадах тэхнікі (напр., % машынавай малацьбы ў пасёлках = 20, тады як на хутарох і вёсках = 30). Але гэта акалічнасьць яшчэ ня сьведчыць аб адсутнічаньні вытворчых дасягненьняў у пасёлках, наадварот яны значна ішлі наперад з моманту выхаду з матчынскай формы, што відаць хоць-бы па прыросту валовай прадукцыі пасьля землеўпарадкаваньня (табл. 12 дадатку). Адсталасьць пасёлкаў можа быць вытлумачана галоўным чынам узростам, які тут меў для паляводзтва, відочна, больш вырашаючае значэньне, чымся ў іншых гнёздах.

Такім чынам у адносінах выражанасьці напрамкаў у гэтым гняздзе па формах землякарыстаньня, мы бачым, што неўстанавіўшыйся пераходны характар данага с.-г. раёну не дае магчымасьці паставіць формы ў вызначаны рад, але ўсё-ж можна канстатаваць, што паасобныя формы наогул пацьвярджаюць сваі тэндэнцыі, устаноўленыя ў Віцебскім і Менскім гнёздах: вытворчы тып пасёлкаў утрымлівае ў сабе шырокі абхоп асноўных прагрэсыўных напрамкаў (малочнасьць, сьвінагадоўля) з іх кампанэнтамі. Вытворчы тып хутароў характарызуецца больш спэцыялізаваным, малочным напрамкам.

## 5.

Вытворчы тып с. гасп. у Мазырскай акрузе больш рэзка адрозьніваецца ад папярэдніх, чымся тыя адзін ад другога. Прыродныя ўмовы Палесься і агульная эканамічная неразьвітасьць раёну затрымалі разьвіцьцё с.-гаспадаркі, і яна знаходзіцца тут на самым нізкім узроўні. Змагаючыяся сыстэмы гаспадаркі могуць быць прадстаўлены ў выглядзе наступных схэм (стар. 53).

Аджываючая вытворчая сыстэма гасп. галоўным чынам была заснована на скарыстаньні маючайся вялікай колькасьці экстэнсыўных угодзьдзяў (балоцістых лугоў, выганаў. хмызьнякоў, лясоў) у якасьці кармавое базы для вырошчваньня буйнае рагатае жывёлы, сьвіней і трохі авечак, а таксама часткова для вядзеньня пераложнае палявое гаспадаркі на аддаленых ад сядзібных мясц вучастках. Паблізу селішч палявыя гаспадаркі вядуцца на пастаяннай пахаці і носяць больш інтэнсыўны характар, але ўсё-ж ня выходзяць з рамак натуральна-спажывецкага запросу.

Аджываючая:




Прагрэсыўная:




Барацьба палявой гаспадаркі з жывёлагадоўляй за валаданьне экстэнсыўнымі ўгодзьдзямі мае тут больш мірны характар, абумоўліваемы з аднаго боку дрэннай якасьцю глеб, патрабуючых узмоцненага ўгнойваньня пры звароце іх у пастаянную пахаць, штоўзмацняе пазыцыю экстэнсыўнай жывёлагадоўлі і стрымлівае наступальны тэмп інтэнсыўнага паляводзтва, якое звычайна гістарычна застаецца пераможнікам у гэтай барацьбе; з другога боку вялікая наяўнасьць, так званых „няўдобных" зямель і лясоў зьяўляецца крыніцаю новага намнажэньня экстэнсыўных с.-гасп. угодзьдзяў, зьяўляецца агульным аб'ектам наступленьня паляводзтва і жывёлагадоўлі, дзейнічаючых у гэтым выпадку сумесна, а не адно супроць другога. Бліжэйшая прагрэсыўная вытворчая сыстэма тут, па нашай думцы, будзе мець наступныя асноўныя моманты: 1) вы-

рошчваньне і адкорм буйнай рагатай жывёлы і сьвіней на больш высокім, чымся раней земляробстве: палепшаных лугох, штучных выганох, адкідах зерневай гаспадаркі, наагул застаючайся нярыначнай і адкідах тэхнічнай перапрацоўкі бульбы. Адпаведна больш высокаму земляробству мясная прадукцыя інтэнсыфікуецца і якасна палепшаецца. 2) Перапрацоўку бульбы ў крухмал альбо сьпірытус.

Складальныя элемэнты сыстэмы прадстаўлены вышэй. Да іх магчыма далучэньне масляна-сыраварнай вытворчасьці, якая мае досыць прадпасылак для гэтага і тэхнічна цалкам увязваецца з больш высокім узроўнем утрыманьня буйнай рагатай жывёлы і інтэнсыўнай сьвінагадоўляй, але гэты кампанэнт хоць і можа ўступіць у бліжэйшы час у сыстэму, але пры сваім далейшым разьвіцьці выкліча перамену і ўкараненьне новых складнікаў.

Колькасныя паказальнікі сыстэмы г-кі наступныя:

Табліца 37.

| Формы землякарыстаньня | На 100 кароў гадоў маладняка (і валоў) | На 100 гасп. | | На 100 дарослых сьвіней маладняка да 1 году | На 100 авечак сьвіней | На 100 га пасеву—га | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Авечак дарослых | Сьвіней ад 4 мес. і ст. | | | Травы | Ільну | Бульбы | Усяго нязерневых | Азімых |
| Паказальнікі с.-г. раёнаваньня: | | | | | | | | | | |
| Сярэдн. па раёну | 137 | 235 | 219 | 122 | 93 | 0,7 | 3,3 | 11,2 | 15,2 | 45,0 |
| „ па вол. гнёзда | 116 | 218 | 139 | 79 | 64 | 0,1 | 4,4 | 15,8 | 20,3 | 49,5 |
| Вёскі . . . . | 144 | 297 | 155 | 176 | 52 | 0,9 | 4,1 | 18,3 | 23,3 | 45,6 |
| Пасёлкі . . . | 136 | 179 | 82 | 188 | 45 | 0,4 | 5,3 | 18,5 | 24,2 | 48,1 |
| Хутары . . . | 137 | 351 | 216 | 181 | 61 | 0,2 | 3,7 | 19,0 | 22,9 | 47,9 |

| Формы земляўкарыстаньня | % валавой прадукцыі ад усей | | | | | % валавой таварнасьці ад усей | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Ільну | Бульбы | Малака | Сьвініны | Мяса | Ільну | Бульбы | Малака | Сьвініны | Мяса |
| Вёскі . . . . | 1,9 | 12,6 | 15,2 | 10,2 | 7,8 | — | 4 | — | — | 66 |
| Пасёлкі . . . | 1,6 | 15,3 | 13,7 | 15,4 | 7,3 | — | — | 5 | 3 | 63 |
| Хутары . . . | 1,9 | 14,5 | 15,7 | 9,5 | 10,5 | — | 3 | 2 | 5 | 57 |

Мясны напрамак буйнай рагатай жывёлы ва ўсіх формах яскрава выражаны.

Па адноснай вазе буйнай рагатай жывёлы ў таварнасьці на першым месцы стаяць пасёлкі (сума таварнасьці мяса і малака). Якасна каровы ў пасёлках таксама на многа вышэй іншых форм (табл. 14-а дадат). Тут найвялікшая жывая вага і каштоўнасьць 1 галавы, а таксама і дзённы ўдой. З прычыны гэтага, негледзячы на тое, што насычанасьць пасёлкаў буйнай рагатай жывёлай па ліку галоў ніжэй іншых форм

$^0/_0$ на 40, па каштоўнасьці яны раўняюцца ім. У пасёлках буйная рагатая жывёла мае тэндэнцыю да малочнага напрамку. За пасёлкамі па буйнай рагатай жывёле ідуць хутары, за імі вёскі. Па колькасных паказальніках сьвінагадоўлі на першым месцы стаяць хутары, за імі ідуць вёскі, потым пасёлкі, але якасна сьвінагадоўля амаль у 2 разы вышэй у пасёлках (табл. 14-а дадатк.), па валовай прадукцыі пасёлкі таксама стаяць першымі. Па прадукцыі культур менш рознастайнасьці паміж формамі землякарыстаньня, дакладна таксама, як па валовай прадукцыі і прадукцыйнасьці земляробства (табл. 12-б дадатк.), але ў адносінах апошняй ўсё-ж можна адзначыць, што па разьліку на 1 га ў пасёлках яна некалькі ніжэй (31 руб.), чымся ў вёсках (35 руб.) і хутарох (38 руб.)

Па агульнай выражанасьці прагрэсыўнай сыстэмы гасп. на першае месца належыць паставіць пасёлкі, за імі хутары, потым вёскі.

## Агульная эфэктыўнасьць вытворчасьці.

### 1.

Канчатковым паказальнікам эканамічнага рэзультату ўсякай вытворчасьці зьяўляецца прыбытак, паняцьце якога рознастайна, таксама як і спосабы яго вызначэньня.

Застановімся для нашых мэт на наступных відах прыбытку (вылічаных у табл. 21-а і 21-б дадатк.).

1) Валовая прадукцыя брутто (ВПб) разумеючы пад гэтым каштоўнасьць усей сумарнай гадавой прадукцыі с.-гасп. вытворчасьці, уключаючы сюды каштоўнасьць цягавай сілы, затрачанай па-за сваёю гаспадаркаю, і не выключаючы той прадукцыі, якая, будучы вытворана ў сваёй гаспадарцы, затрачана ізноў на ўнутраную вытворчасьць у тым-жа годзе (кармы, гной).

2) Валовая прадукцыя нэтто (ВПн), разумеючы пад гэтым каштоўнасьць тэй часткі ВПб, якая выходзіць канчаткова з вытворчасьці данага году ў сфэру спажываньня і рынку.

Вылічаецца ВПн шляхам адыманьня з ВП брутто каштоўнасьці той прадукцыі, якая зрабіла ўнутры-гаспадарчы зварот у даным гаспадарчым годзе (насеньне, кармы, гной).

3) Валовы прыбытак (В. Пр.) — тая частка каштоўнасьці гатовага прадукту, якая застаецца пасьля адыманьня ад валовай прадукцыі брутто альбо валовай прадукцыі нетто каштоўнасьці авансаванага і спажыўленага ў вытворчасьці ў працягу года пастаяннага капіталу (каштоўнасьць зваротных сродкаў вытворчасьці + каштоўнасьць амартызацыі асноўных).

Такім чынам наш валовы прыбытак утрымлівае ў сабе ўсе элемэнты нацыянальнага прыбытку (па Марксу: заработную плату + прыбыль + рэнты. Том III, частка II, стар. 308), і ў вядомай ступені адбівае яго, паколькі гэта магчыма для адной часткі народнай гаспадаркі, якавою зьяўляецца с. гаспадарка.

4) Чысты прыбытак (альбо астача) = чП, разумеючы пад гэтым прыватна-гаспадарчы прыбытак прадпрыемца, г. зн., ту частку „ВП“, якая застаецца ў распараджэньні прадпрыемца пасьля аплаты найманай працсілы, працы свае сям'і (па сярэдняй зарплаце), падаткаў арэнднай платы і $^0/_0$ на заняты „капітал“.

Для выразу эфэктыўнасьці гаспадарак у розных формах землякарыстаньня высунем наступных паказальнікаў,

1) Прадукцыйнасьць працы (ПП), вылічаючы яе па формуле $\frac{ВП}{чД}$, дзе „ВП“ = валавы прыбытак (табл. 21-б дадатк.), а чД = лік дзён патрачаных для вытворчасьці гэтага прыбытку. „ПП“ выражае ўсю каштоўнасьць гадавога прадукту, у якой прадстаўляецца праца, ізноў далучаная ў працягу году, аднесеную да 1 працоўнага дня. Зусім не прыходзіцца гаварыць аб азначэньні гэтага паказальніка для нашай сацыялістычнай гаспадаркі. Досыць спамянуць словы В. І. Леніна аб тым што: „прадукцыйнасьць працы, гэта на рэшце самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадзкага ладу“ („Вялікі пачын“).

2) Прадукцыйнасьць зямлі (ПЗ), вылічаючы яе па формуле $\frac{ВП}{S}$, дзе ВП мае тое-ж значэньне, што і вышэй, а „S“=с.-г. плошча.

Гэты паказальнік з народна-гасп. пункту погляду зьяўляецца асабліва важным пры наяўнасьці так званага „аграрнага перанасяленьня“, якое, будучы атрымана ў спадчыну ад дарэвалюцыйнага часу мае яшчэ месца ў БССР, ўладаючай высокай шчытнасьцю с.-гасп. насельніцтва для тэй ступені разьвіцьця вытворчых сіл, якое маецца зараз у с. гаспадарцы рэспублікі.

„ПЗ“ выражае каштоўнасьць таго гадавога прадукта, аднесеную да адзінкі плошчы, у якой прадстаўлена праца, зноў далучаная ў працягу гаспадарчага году і якая бяз страты для існуючага разьмеру вытворчасьці можа быць вынята з яго і накіравана на спажываньне альбо пашырэньне вытворчасьці. Чым вышэй „ПЗ“, тым больш ёмістасьць тэрыторыі ў адносінах да насельніцтва.

Адначасовае падвышэньне прадукцыйнасьці працы (ПП) і прадукцыйнасьці зямлі (ПЗ) характарызуе высокае разьвіцьцё вытворчых сіл сельскай гаспадаркі і тым самым зжываньне „аграрнага перанасяленьня“ ў нашых умовах.

3. Рэнтабельнасьць гаспадаркі (РГ). Гэты паказальнік вызначаецца па формуле $\frac{ВПб}{C+V}$, дзе „ВПб“—ёсьць сумарная каштоўнасьць усяй гадавой валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі, „C“=каштоўнасьць пастаяннай часткі гадавых выдаткаў (зваротныя сродкі вытворчасьці + скарыстаная частка асноўных) і „V“=каштоўнасьць зьменнай часткі гадавых выдаткаў (зарплата, прынятая ва ўсіх формах, аднолькава па сярэдняй каштоўнасьці працоўнага дня для БССР у 1 рубель)

Рэнтабельнасьць гаспадаркі паказвае сколькі (па каштоўнасьці) атрымана прадукцыі на кожны затрачаны ў вытворчасьці рубель.

4. Рэнтны каэфіцыент (РК), разумеючы пад гэтым процантны стасунак чыстага прыбытку прадпрыемца (ЧП) без процантаў на завязаны ў вытворчасьці капітал (% К) к валавой прадукцыі нетта (ВПн). Формула для вылічэньня $РК = \frac{ЧП - \%К \cdot 100}{ВПн}$

Рэнты каэфіцыент паказвае, колькі капеяк на рубель валавой прадукцыі нетта атрымоўвае прадпрыемец чыстага прыбытку звыш звычайных % на капітал альбо ў іншай пастаноўцы[1]), на сколькі % прадажная сабекаштоўнасьць канчатковай прадукцыі с.-гасп. вытворчасьці, выпускаемай у сфэру рынку і спажываньня вышэй альбо ніжэй яе рыначнай каштоўнасьці (ВПн).

[1]) Падобнай да пастаноўкі Е. Ляура, які прыкладам гэткую-ж вялічыню, як напр. „РК“ вызначае процантным стасункам розьніцы чыстага прыбытку к валавому прыбытку „Введение в экономию с. х-ва стр. 174).

Становішча гэтых паказальнікаў па формах землякарыстаньня, у сярэднім для ўсіх чатырох гнезд, наступнае:

Табл. 38.

| Формы | Прадукцыйнасьць працы | Прадукцыйнасьць зямлі | Рэнтабельнасьць гаспадаркі | Рэнтны каэфіцыент |
|---|---|---|---|---|
| Вёскі . . . . . . . . | 1,04 | 50,3 | 1,00 | —10,1 |
| Пасёлкі . . . . . . . | 1,01 | 53,6 | 1,01 | —15,3 |
| Хутары . . . . . . . | 1,17 | 61,4 | 1,03 | — 8,1 |
| Калгасы . . . . . . . | 2,17 | 51,8 | 1,29 | +36,3 |

Перш за ўсё трэба адзначыць высокае становішча калгасаў, якія па ўсіх паказальніках, акрамя прадукцыйнасьці зямлі, аставілі далека адзаду сябе індывідуальныя формы землякарыстаньня.

Прадукцыйнасьць працы ў калгасах амаль у 2 разы вышэй, чымся ў іншых формах.

Паказальнік рэнтабэльнасьці гаспадаркі ў калгасах раўняецца 1 р. 29 кап. Гэта значыць, што на кожны затрачаны ў вытворчасьці рубель атрымоўваецца 1 р. 29 кап. Тады як у іншых формах мы бачым паказальнікі амаль не перавышаючыя адзінкі.

Рэнтны каэфіцыент паказвае, што толькі калгасы могуць прадаваць сваю прадукцыю ніжэй існуючых рыначных цэн на 36,3%, г. зн. больш чым на $^1/_3$, тады як іншыя формы землякарыстаньня гаспадаркі не пакрываюць нават цаны вытворчасьці і маюць патрэбу ў падвышэньні існуючай рыначнай цаны на 8—15%. З рэнтабельнасьці гаспадаркі ў індывідуальных формах відаць, што яны ледзь пакрываюць выдаткі вытворчасьці і на выплату % на завязаныя сродкі вытворчасьці не застаецца нічога.

Такім чынам эфэктыўнасьць вытворчасьці ў калгасах па пералічаных паказальніках настолькі рэзка адрозьніваецца ад індывідуальных гаспадарак, што не вызывае ніякага сумненьня ў высокіх вытворчых перавагах гэтай формы. Некалькі іначай ідзе справа з прадукцыйнасьцю зямлі. „ПЗ" у калгасах некалькі перавышае гэтакую-ж у вёсках на 1,5 р. на 1 га, але ніжэй чымся у пасёлках на 1,8 р. на 1 га, а ў параўнаньні з хутарамі, розьніца дасягае ўжо 9,6 руб.

Тлумачыцца гэта высокай землязабясьпечанасьцю калгасаў, не пасьпеўшых яшчэ за 2 гады свайго існаваньня настолькі інтэнсыфікаваць вытворчасьць, каб і ў адносінах „ПЗ" стаяць уперадзе, як і па другіх паказальніках.

Цяпер застановімся на індывідуальных формах землякарыстаньня. Прадукцыйнасьць працы пасёлкаў і вёсак амаль аднолькава, тады, як хутары падняліся на некалькі больш высокую ступень. У адносіны прадукцыйнасьці зямлі формы могуць быць пастаўлены у наступны рад: (адносны): вёскі = 100, пасёлкі = 107 і хутары = 121. Па рэнтабельнасьці гаспадаркі ўсе формы стаяць прыкладам на адным узроўні, розьніца ў 1—2 кап., вядома, не мае значэньня. Рэнтны каэфіцыент паказвае, што ў індывідуальных формах прадажная сабекаштоўнасьць вышэй рыначных

цэн. Для пакрыцьця цэн вытворчасьці, хутары патрабуюць падвышэньня існуючых рыначных цэн на 8,1%, вёскі на 10,1% і пасёлкі на 15,3%.

Такім чынам з разгляданьня ўсіх рэзультатных пвказальнікаў індывідуальных форм, мы бачым, што розьніца між імі хоць і маецца, але куды менш, чымся між імі і калгасамі. Усе яны церпяць ад агульнага недахопу, дробнасьці вытворчасьці, пад прэсам якое мала месца для шырокіх вытворчых дасягненьняў. У межах таго вузкага размаху, які наогул толькі і прыступны дробнай гаспадарцы, першае месца займаюць хутары, перавышаючыя вёскі і пасёлкі, ад 2 да 20% па розных паказальніках. Але як нізка гэтае першае месца славутай хутарской ініцыятывы ў параўнаньні з калгасамі, перавышаючымі тыя-ж формы па некаторых паказальніках вышэй, чым на 200%.

Пры параўнаньні пасёлкаў і хутароў неабходна прыймаць пад увагу іх узрост. Як паказвалася вышэй хутары ў сярэднім маюць 10-гадовы ўзрост, а пасёлкі 2—5 год. Пасёлкі, як больш маладая форма, не пасьпелі яшчэ настолькі сфармавацьусе часткі сваей вытворчасьці і прывесьці іх да належнай гармоніі, каб у даны момант выявіць гэтакую-ж эфэктыўнасьць вытворчасьці, як і хутары. У той жа час пасёлкі не ўладаюць такімі вытворчымі перавагамі, якія маюць калгасы, каторыя ня гледзячы на тое, што зьяўляюцца таксама формамі маладымі, аднаго ўзросту з пасёлкамі, усё-ж пасьпелі абагнаць хутары.

2.

Вышыня толькі што разгледжаных намі рэзультатных паказальнікаў павінна адпаведаць так званым прадпасылачным паказальнікам, характарыстыка якіх для паўнаты агульнага аналізу зьяўляецца неабходнай. Застановімся на разгляданьні наступных паказальнікаў:

1) Разьмер вытворчасьці, зьмяняючы яго: а) сумаю валавой прадукцыі брутто, б) сумаю асноўных і зваротных сродкаў вытворчасьці і в) с.-г. плошчаю. Зусім не прыходзіцца гаварыць аб тым значэньні, якое мае гэты паказальнік для эфэктыўнасьці вытворчасьці. Праваджаемае ўсялякаю эканоміяй працы, зямлі і сродкаў вытворчасьці, павялічэньне разьмеру зьяўляецца асноўнай прадпасылкай, падвышаючай прадукцыйнасьць гаспадаркі

2) Інтэнсыўнасьць гаспадаркі, вызначаючы яе разьмерам гадавых выдаткаў на адзінку плошчы па формуле $J = \frac{C - V}{S}$ —азначэньня тыя-ж што і ў рэзультатных формулах.

3) Арганічная будова капіталу, пад якою, як вядома, разумеецца стасунак усяго пастаяннага капіталу (С) да аьменнага (V) $= \frac{C}{V}$. Паколькі склад (будова) капіталу па каштоўнасьці („с“ і „v“) „вызначаецца яго тэхнічным складам і адбівае гэты апошні“. (К. Маркс т. III-й р. 8 стар. 126).

З арганізацыйнага вытворчага боку стасунак $\frac{C}{V}$ можна разглядаць як паказальнік узброенасьці працы матар'яльнымі сродкамі вытворчасьці, Падвышэньне-ж узброенасьці працы (пры захоўваньні, вядома, прынцыпу найменшых выдаткаў) звычайна праваджаецца павялічэньнем яго прадукцыйнасьці і падвышэньнем рэнтабельнасьці гаспадаркі.

4) Тэхнічны ўзровень інтэнсыўнасьці. Пад гэтым паказальнікам мы разумеем здабытак паказальніка інтэнсыўнасьці і паказальніка арганіч-

нага складу капіталу. Яго прызначэньне ўстанавіць сувязь паміж інтэнсыўнасьцю і ўзброенасьцю працаўніка. Як, вядома, у сялянскіх гаспадарках, інтэнсыўнасьць часта павялічваецца пры адным і тым жа тэхнічным абсталяваньні за кошт павялічэньня выдаткаў працы пры гэтым затрачаная праца палучае зьніжаную аплату, г. зн. прадукцыйнасьць яе падае.

Пры недахопе зямлі і сродкаў вытворчасьці пры наяўнасьці збыткоўнай працоўнай сілы ў вёсцы, што звычайна бывае ў умовах, так званага „аграрнага перанасяленьня“ сялянства ідзе на гэта, і паказальнік інтэнсыўнасьці гасп. павялічваецца пры адначасовым упаду прадукцыйнасьці працы і інш. паказальнікаў, характарызуючых эканамічную рацыянальнасьць гаспадаркі.

Такім чынам атрымоўваецца супярэчнасьць паміж унутраным зьместам паняцьця інтэнсыфікацыі, якае заключаецца ў тым, што падвышэньне інтэнсыўнасьці вытворчасьці ў вызначаных умовах месца і часу разумеецца намі як павялічэньне яго рацыянальнасьці, праяўляючайся ў падвышэньні прадукцыйнасьці працы і г. д., што ў сваю чаргу зьвязана з зьменай тэхнічных умоў працы.

Такое разуменьне заснована на тым, што разьвіцьцё с.-гаспадаркі адбываецца ў напрамку яго інтэнсыфікацыі і кожная наступная форма с. г. інтэнсыўней папярэдняй.

На гэтай падставе можна дапусьціць, што з дзьвёх гаспадарак, разглядаемых у аднолькавых умовах месца і часу, больш прадукцыйнай будзе тая, якая пабудавана і вядзецца больш інтэнсыўна, таму што яна хутчэй пасьпявае прыстасавацца да зьмяняючыхся ўмоў, а гэтакія зьмяняюцца ў напрамку стымулюючым інтэнсыўнасьць. Для грамадзка-гістарычнага працэсу гэта безумоўна верна, але для канкрэтных выпадкаў, узятых у „статыцы“, г. зн. па стану ў вывучаемы момант фіксацыі, інтэнсыўнасьць вымераемая звычайным спосабам (сумай гадавых выдаткаў на адзінку плошчы), часта губляе свой унутраны зьмест, г. зн. і губляе свае значэньне для ацэнкі гаспадаркі. Дзеля гэтага неабходна зьвязаць яе з тэхнічнымі умовамі гаспадаркі, вернуць ёй страчваемае пры статычным дапасаваньні значэньне паказальніка, характарызуючага прагрэсыўнасьць разьвіцьця; апошняе-ж, г. зн. прагрэсыўнае разьвіцьцё магчыма ледзь пры паляпшэньні тэхнічных умоў працы, большай узброенасьці працы. Паколькі арганічная будова капіталу адбівае гэты момант, пастолькі запладненьне голага паказальніка інтэнсыўнасьці гэтым паказальнікам прадстаўляецца мэтазгодным, для данага выпадку арганічная будова пераламляе фармальную інтэнсыўнасьць праз прызму тэхнічных ўмоў працы, і паколькі апошнія больш устойліва вызначаюць прадукцыйнасьць працы, пастолькі гэта іх уласьцівасьць адбіваецца на паказальніку тэхнічнага ўзроўня, які зьяўляецца для фармальнага паказальніка інтэнсыўнасьці як-бы новай формай, пры якой ён набывае ўтрачваемы ў канкрэтным „статычным“ дапасаваньні зьмест прагрэсыўнага паказальніка.

5) Разнабочнасьць гаспадаркі. Пад гэтым паказальнікам разумеецца рознастайнасьць, шматграннасьць гаспадаркі. Індэкс яе вымераецца наступным чынам: „усе сумы паступленьняў падзеляюцца на лік крыніц прыбытку; кожная крыніца, якая дае прыбытак большы, чым сярэдні прыбытак на адну крыніцу, лічыцца за адзінку; сумы менш сярэдніх вялічынь складваюцца і пераводзяцца ў індэкс шляхам дзяленьня на сярэднюю велічыню паступленьня ад адной крыніцы“ (Н. П. Макаров: „Организация с. хозяйства“). Рознабочнасьць гаспадаркі вядзе да найбольш поўнага скарыстаньня фактараў с.-гаспад. вытворчасьці, з прычыны чаго паніжа-

ецца затрата іх па разьліку на 1 адзінку прадукта, а значыцца падвышаецца эфэктыўнасьць гаспадаркі. Само сабою зразумела, што рознабочнасьць не выключае спэцыялізацыі вытворчасьці ў вызначаным напрамку. Галіны, характарызуючыя напрамак, зьяўляюцца асноўнымі, іншыя-ж гаспадаркі будуць дапаможнымі, як бы падзеляючымі з мі агульныя выдаткі і спрыяючыя атрыманьню найменшага сабекошту.

Колькасны выраз прадпасылачных паказальнікаў па формах землякарыстаньня наступны:

Табл. 39.

| Формы | Разьмер с.-гас. вытворчасьці | | | Інтэнсыўнасьць гаспадаркі (руб.) | Арганічная будова капіталу (р.) | Тэхнічны ўзровень інтэнс. | Рознабочн. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Па В. П. б. (Руб.) | Па асноўн. і зваротных сродках вытворч. (руб.) | Па с.-г. плошчы (га) | | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| Вёскі . . . . | 851 | 796 | 8,84 | 98 | 1,97 | 1,93 | 4,4 |
| Пасёлкі . . . | 828 | 796 | 8,40 | 100 | 1,90 | 1,90 | 4,4 |
| Хутары . . . | 943 | 828 | 8,80 | 103 | 1,98 | 2,04 | 4,3 |
| Калгасы . . . | 13948 | 8926 | 133,1 | 82 | 3,62 | 2,97 | 4,9 |

Прадпасылачныя паказальнікі ў асноўным суладзяць з рэзультатнымі. Паміж калгасамі і індывідуальнымі формамі землякарыстаньня рэзкая розьніца ў разьмеры вытворчасьці, інтэнсыўнасьці гаспадаркі, арганічнай будове капіталу, тэхнічным узроўні інтэнсыўнасьці. Усе гэтыя прадпасылкі гавораць аб больш рацыянальнай пабудове вытворчасьці ў калгасах рэзультатам чаго атрымалася іх высокая вытворчая эфэктыўнасьць.

Рознабочнасьць амаль аднолькава ва ўсіх формах, толькі у калгасах ёсьць некаторая тэндэнцыя да дыверсыфікацыі, канкрэтна выяўляючаяся ў разьвіцьці маслабойна-сыроваранай вытворчасьці.

Індывідуальныя формы землякарыстаньня маюць наогул вельмі блізкія разьмеры вытворчасьці і такім чынам гэты момант зьяўляецца як бы ізаляваным. Агульная інтэнсыўнасьць і арганічная будова капіталаў—таксама мала розьніцца. Найбольшую розьніцу прадстаўляе тэхнічны ўзровень інтэнсыўнасьці вёсак і пасёлкаў з аднаго боку і хутароў з другога. У ім, як у фокусе, сабраліся ўсе маленькія адзнакі і стварылі заметную розьніцу паказальнікаў, праўда, непараўнальна меншую, чымся паміж калгасамі і індывідуальнымі формамі, але ўсё-ж здавальняючую, каб стварыць тую розьніцу ў эфэктыўнасьці, аб якой гаварылася вышэй. Перавышка прадукцыйнасьці працы і зямлі на хутарох у параўнаньні з вёскамі і пасёлкамі на 11—15% цалкам суладзяць з перавышкай іх тэхнічнага ўзроўню інтэнсыўнасьці на 6—8%.

Разгледзім стан рэзультатных паказальнікаў па с.-гаспад. раёнах. Абсалютныя вялічыні іх прыведзены ў табліцы 22 дадатку тут дамо адносіны паказальнікаў. (Вёскі прыняты за 100).

Табл. 40

| Формы | Віцебскі | | | Менскі | | | Бабруйскі | | | Мазырскі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | РГ | ПП | ПЗ | РГ | ПП | ПЗ | РГ | ПП | ПЗ | РГ | ПП | ПЗ |
| Вёскі . . | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| Пасёлкі . | 105 | 109 | 129 | 105 | 104 | 124 | 93 | 88 | 102 | 85 | 77 | 72 |
| Хутары . | 113 | 127 | 123 | 116 | 142 | 167 | 100 | 107 | 100 | 83 | 69 | 85 |
| Калгасы | 139 | 262 | 174 | 114 | 173 | 88 | — | — | — | 138 | 193 | 65 |

Агульнае становішча для новых індывідуальных форм землякарыстаньня тое, што ў экстэнсыўных раёнах рэзультатныя паказальнікі іх ніжэй вясковых, альбо роўныя ім, пры чым заўважваецца некаторая паступовасьць у пераходзе ад Віцебскага і Менскага гнезд праз Бабруйскі раён, дзе паказальнікі зьніжаюцца, але менш значны і наагул хістаюцца каля вясковых, да Мазырскага—з моцна зьніжанай эфэктыўнасьцю пасёлкаў і хутароў, дасягаючай да 30% па асобных паказальніках. Гэты момант горшага стану пасёлкаў і хутароў у экстэнсыўных раёнах ужо быў адзначан раней, і можа быць вытлумачан, апрача прыватных прычын, меншым тэмпам рэалізацыі арганізацыйна-вытворчых пераваг новых форм землякарыстаньня ў экстэнсыўных мала разьвітых раёнах.

У інтэнсыўных раёнах (Віцебскім і Менскім) па усіх трох паказальніках выявілася перавага новых форм землякарыстаньня. Рэнтабельнасьць гаспадаркі (Р. Г.) паказвае, што на кожны затрачаны руб. пасёлкі даюць на 5 кап. больш вёсак, хутары—на 14—15 кап., калгасы-ж на 25—26 к. Прадукцыйнасьць працы (П. П.) ў пасёлках вышэй на 6—7%, на хутарох на 35%, у калгасах на 118%

Асабліва важна адзначыць, што падвышэньне прадукцыйнасьці працы павялічваецца адначасова з прадукцыйнасьцю зямлі, г. зн. з разьмерам прыбыткаў на 1 га. Такое адначасовае падвышэньне ПЗ і ПП паказвае на высокую форму разьвіцьця прадукцыйных сіл сельскай гаспадаркі.

Пасёлкі ў адносінах ПЗ стаяць на 25—26% вышэй вёсак, хутары на 45% і калгасы на 31%; на зьніжэньне % зрабілі ўплыў Менскія калгасы з паніжанай ПЗ. Можна сабе ўявіць тую вялізарную зьмену балянса ўсей народнай гаспадаркі БССР, якая выклікае новыя формы і ў асаблівасьці калгасы.

3

Для аналізу эфэктыўнасьці вытворчасьці па эканамічных групах намі зроблена зборная табліца па двух гнездах: Віцебскаму і Менскаму.

Табл. 41.

| Формы | Рэнтабельнасьць гаспадаркі (кап.) | | | | Прадукцыйнасьць працы (кап.) | | | | Прадукцыйнасьць зямлі (руб.) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | Сярэднее | I | II | III | Сярэднее | I | II | III | Сярэднее |
| Вёскі . . . | 95 | 90 | 113 | 100 | 90 | 81 | 123 | 98 | 45 | 45 | 45 | 46 |
| Пасёлкі . . | 96 | 101 | 115 | 104 | 95 | 99 | 126 | 107 | 58 | 51 | 66 | 59 |
| Хутары . . | 110 | 113 | 119 | 114 | 129 | 131 | 140 | 134 | 81 | 66 | 64 | 71 |

Тут мы бачым зусім вызначаную плаўную зьмену паземных і старчаковых радоў, нарушаемую ў немногіх выпадках. Рэнтабельнасьць гаспадаркі і прадукцыйнасьць працы павялічваецца ад дробных гаспадарак к буйным у адным напрамку і ад вёсак к хутарам у другім. Прадукцыйнасьць зямлі вядзе сябе няўстойліва ў паземным напрамку, але ў старчаковым дакладна таксама, як РГ і ПП, г. зн. павялічваецца з пераходам ад вёсак к хутарам. Пераход да новых форм землякарыстаньня як бы азначае пераход да вышэйшай эканамічнай групы.

Павялічэньне паказальнікаў суладзіць з узбуйненьнем гаспадарак, вымераемым валавою прадукцыяй брутто і разьмерам сродкаў вытворчасьці.

На 1 гаспадарку

Табл. 42

| Формы | ВПб (у руб.) | | | Асноўн. і зварот. сродк. вытв. (у р.) | | | С.-г. плошчы (гэк.) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III | I | II | III |
| Вёскі . . . . . . . . . | 515 | 876 | 1142 | 380 | 695 | 1348 | 5,80 | 8,13 | 13,08 |
| Пасёлкі . . . . . . . . | 631 | 917 | 1465 | 440 | 996 | 1501 | 5,50 | 8,38 | 11,88 |
| Хутары . . . . . . . . | 736 | 1097 | 1734 | 605 | 1427 | 2210 | 4,91 | 8,05 | 12,84 |

Як мы бачым разьмер гаспадарак па с.-г. плошчы зьмяняецца толькі па эканамічных групах у межах адной і той-жа формы землякарыстаньня. Разьмер адной і той жа эканамічнай групы ў розных формах амаль аднолькавы з некаторым памяншэньнем ад вёсак к хутарам.

Такім чынам разьмер землякарыстаньня не мог зрабіць уплыву ў напрамку павялічэньня эфэктыўнасьці пасёлкаў і хутароў, наадварот гэты момант павінен быў дзейнічаць паменшаючым спосабам, паколькі разьмер с.-г. плошчы мае некаторую тэндэнцыю паменшацца ад вёсак к хутарам. Ва ўсякім выпадку разьмер землякарыстаньня можна лічыць ізаляваным. Гэтая акалічнасьць зьяўляецца вельмі важнаю і дае магчымасьць высказаць наступныя меркаваньні аб эфэктыўнасьці ўсяй злучнасьці асаблівасьцяй для с.-гасп. вытворчасьці, якую прадстаўляе тая ці іншая форма землякарыстаньня.

Аднолькавы разьмер землякарыстаньня паказвае на аднолькавую магутнасьць гаспадарак у момант іх утварэньня.

Мы ведаем як блізка карэляцыйная сувязь між разьмерамі землякарыстаньня і сродкаў вытворчасьці ў межах адной формы. Па усіх формах у сярэднім яна, па нашых вылічэньнях, роўна $r = +0,88 \pm 0,08$. Дакладна таксама высока карэляцыя с. г. плошчы з валавою прадукцыяю брутто. Калі-ж мы возьмем не ў межах адной і той жа формы землякарыстаньня, а ў розных формах, але для адной і той жа эканамічнай групы, то гэтакай сувязі няма паміж разьмерам землякарыстаньня з аднаго боку, а з другога разьмерамі сродкаў вытворчасьці, валавой прадукцыяй і рэзультатнымі паказальнікамі.

Тут, як адзначана вышэй, плошча зямлі вымяраецца мала, неўстойліва і скарэй ў адваротны бок, чымся іншыя паказальнікі, г. зн плошча падае, а іншыя паказальнікі павялічваюцца. Гэта акалічнасьць дае падставу лічыць, што разьмеры сродкаў вытворчасьці і ВПб, ў гаспадарках адной і той жа формы землякарыстаньня, узятых у аднолькавых умовах

месца і часу, залежны ад разьмеру землякарыстаньня; тыя-ж моманты, г. зн. разьмеры сродкаў вытворчасьці і ВПб, у гаспадарках розных форм землякарыстаньня, узятых у адных і тых-жа умовах месца і часу, мала залежаць ад разьмеру зямельнай плошчы. На іх больш уплываюць іншыя умовы, ў ліку якіх. пасколькі ўсе больш важныя моманты больш ці менш зраўнаны, выступаюць формы землякарыстаньня як злучнасьці асаблівасьцяй арганізацыйна-вытворчага характару. Пакалькі-ж з разьмерам сродкаў вытворчасьці і ВПб, беспасрэдна і ў высокай ступені корэлююць рэнтабельнасьць гаспадаркі і іншыя рэзультатныя паказальнікі, пастолькі ёсьць падстава лічыць гэтыя апошнія залежнымі ад арганізацыйна-вытворчых асаблівасьцяй, уласьцівых тым ці іншым формам землякарыстаньня ў іх запраўдным выглядзе. Зьвяртаючыся да лічбавых паказальнікаў мы бачым, што ў новых формах хутчэй павялічваецца рэзультатыўнасьць дробных і сярэдніх эканамічных груп. Буйныя гаспадаркі пры параўнаньні іх у розных формах землякарыстаньня маюць меншую розьніцу як у адносных так і ў абсалютных вялічынях.

Эфэктыўнасьць землякарыстаньня ў сярэднім павялічваецца ад вёсак к хутарам, пасёлкі займаюць сярэднее месца. Але калі прыняць пад увагу ўзрост, і разьлічыць прырост эфэктыўнасьці на год, то становішча мяняецца. Бюджэтныя хутары маюць узрост у сярэднім 10 год, пасёлкі 2—5 год. Па разьліку на 1 год маем наступны прырост.

| | Пасёлкі | Хутары | |
|---|---|---|---|
| рэнтабельнасьць гаспадаркі . . | 1,6 к. | 1,4 к. | на 1 руб. |
| прадукцыйнасьць працы . . . | 4 „ | 3,6 „ | на 1 дзень |
| прадукцыйнасьць зямлі . . . | 5,2 „ | 2,7 „ | на 1 га |

Не прыходзіцца гаварыць аб умоўнасьці і малай доказнасьці гэтага разьліку, але калі ўзяць іншыя больш пэўныя дадзеныя, дык мы атрымаем пацьвярджэньне таго, што тэмп прыросту пасёлкаў ня ніжэй хутароў, а ў адносінах прадукцыйнасьці зямлі яны нават маюць некаторую перавагу. Намі вылічаны паказальнікі для хутароў і пасёлкаў аднаго ўзросту (4 год) па Бабруйскаму і Мазырскаму гнездах. Узята па 3 бюджэты з сярэдняй (II) эканамічнай групы для кожнай формы ў абодвух гнездах (у Бабруйскім—№№ бюджэтаў 8, 9, 11, 13, 14, 15, і ў Мазырскім №№ 10. 11, 14, 20, 21, 22; (гл. табліцу 21-б дадатк).

Табл. 43

| Гнёзда | Прадукцыйн. працы (руб.) | | Прадукцыйн. зямлі (руб.) | | Рэнтабэльн. гасп-кі (руб.) | | На 1 гаспадарку | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | Асноўных сродкаў вытворчас. (руб.) | | С.-г. плошчы (га) | |
| | Пасёлкі | Хутары | Пасёлкі | Хутары | Пасёлкі | Хутары | Пасёлкі | Хутары | Пасёлкі | Хутары |
| Бабруйскае . . . | 0,95 | 1,00 | 51,0 | 44,0 | 0,98 | 0,99 | 717 | 675 | 9,0 | 10,8 |
| Мазырскае . . . | 1,02 | 1,02 | 50,0 | 48,0 | 1,00 | 1,01 | 513 | 343 | 8,6 | 8,6 |
| Сярэдняя . | 0,98 | 1,01 | 50 | 46 | 0,99 | 1,00 | 615 | 509 | 8,8 | 9,7 |

Застановімся коратка на таварнасьці с. гасп. у розных формах землякарыстаньня. Гэтае пытаньне часткова закранута ў разьдзеле „Вытворчыя тыпы“.

Разьмер таварнасьці зьяўляецца паказальнікам эканамічнай сувязі вытворчасьці з усей сыстэмай народнай гаспадаркі. Звычайна адрозьніваюць два віды таварнасьці: валавую і чыстую.

Пад першай разумеецца ўся сума прадуктаў свае вытворчасьці, прададзеная на рынак, пад другою—розьніца паміж валаваю рыначнасьцю і колькасьцю тых-жа прадуктаў, купленых на рынку назад. Для сялянскіх гаспадарак, звычайна маючых патрэбу ў зваротных сродках, розьніца паміж валаваю і чыстаю рыначнасьцю часта паказвае на ступень напружанасьці сродкаў і наяўнасьць свайго „крэдытаваньня" на рынку, калі селянін прадае неабходную дзеля сябе частку свае прадукцыі дзеля таго каб „зьвярнуцца" і ў далейшым купіць прададзенае назад. Адносіны валавой і чыстай таварнасьці да валавой прадукцыі свае вытворчасьці служыць каэфіцыентам таварнасьці. Таварнасьць падрабязна паказана ў табл. 5 і 22 дадат.

Прыведзем тут сумарныя дадзеныя па формах:

Табл. 44

| Формы | Каэфіцыент таварнасьці | | Таварнасьць на 1 га (руб.) | |
|---|---|---|---|---|
| | Валавой | Чыстай | Валавой | Чыстай |
| Вёскі . . . . . . . . . | 8,1 | 5,3 | 5,5 | 1,8 |
| Пасёлкі . . . . . . . . | 6,9 | 2,5 | 6,0 | 1,4 |
| Хутары . . . . . . . . | 11,7 | 7,6 | 10,1 | 4,8 |
| Калгасы . . . . . . . . | 30,0 | 20,5 | 23,0 | 17,0 |

Каэфіцыент таварнасьці ўзят з бюджэтных дадзеных, а таварнасьць на 1 га з падворак. Між імі ёсьць расхаджэньне ў асаблівасьці ў пасёлках, але тэндэнцыя зьмены таварнасьці па фармах у абодвух выпадках адна і тая-ж.

Найбольшую таварнасьць маюць калгасы, перавышаючыя індывідуальныя формы ў 3—4 разы. З індывідуальных форм на першым месцы стаяць хутары, затым ідуць вёскі і пасёлкі, але розьніца ў каэфіцыенце валавой таварнасьці між імі невялікая. Многа больш яны адрозьніваюцца па чыстай таварнасьці. Гэты паказальнік асабліва нядобры ў пасёлках. Па падворных матар'ялах ён мае нават адмоўную велічыню, г. зн. паказвае на тое, што ў канчатковым рэзультаце пасёлкі купляюць больш с. г. прадуктаў, чымся прадаюць.

Праўда, абсалютная цыфра нязначна і ў межах памылкі, але ўсе-ж паказвае на адносна больш вострае становішча з зваротнымі сродкамі ў пасёлках. Роля „крэдытнага" тавару, г. зн. такога, які зварочваецца ў грошы у момант вострай нужды і выкупляюцца назад па мінаньні і зьяўляюцца прадукты земляробства. З табл. 5 дадатк. відаць, што іх „пазычаюць" ва ўсіх формах землякарыстаньня. Па с.-г. раёнах таварнасьць вар'іруе. Таварнасьць ў інтэнсыўных раёнах ва ўсіх індывідуальных формах больш у 1 і 2 разы, калгасы-ж паказалі больш рэзкую розьніцу—звыш 3-х раз.

# ВЫТВОРЧЫЯ АДНОСІНЫ

## Дыфэрэнцыяцыя і каапэраванасьць

### 1.

Для сацыяльна-эканамічнай характарыстыкі розных форм землякарыстаньня прааналізуем наступныя моманты:

1) Эканамічную дыфэрэнцыяцыю гаспадарак.
2) Аграмаджаньне сродкаў вытворчасьці.
3) Каапэраванасьць.
4) Наём і продаж працоўнай сілы.
5) Арэнду зямлі.

Элемэнты эканамічнай дыфэрэнцыяцыі прадстаўлены на табл. 3 і інш. дадатку. Намі, як паказана вышэй, зроблены групаваньні па разьмеру асноўных сродкаў вытворчасьці і с.-гасп. плошчы. $^0/_0$ гаспадарак у эканамічных групах па формах землякарыстаньня наступны:

Табліца № 45

| ФОРМЫ | $^0/_0$ гаспадарак у групах по сродках вытворчасьці | | | $^0/_0$ гаспадарак у групах па землякарыстаньню | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III |
| Вёскі: сярэдн. | 38 | 51 | 11 | 31 | 55 | 13 |
| Інтэнсыўны раён [1]) | 42 | 47 | 11 | 35 | 55 | 10 |
| Экстэнсыўны | 34 | 55 | 11 | 28 | 56 | 16 |
| Пасёлкі: сярэдн. | 29 | 56 | 15 | 22 | 68 | 10 |
| Інтэнсыўны раён | 31 | 54 | 15 | 31 | 66 | 3 |
| Экстэнсыўны „ | 26 | 59 | 15 | 13 | 70 | 17 |
| Хутары: сярэдн. | 18 | 49 | 33 | 21 | 54 | 25 |
| Інтэнсыўны раён | 12 | 43 | 45 | 17 | 52 | 31 |
| Экстэнсыўны „ | 23 | 56 | 21 | 25 | 57 | 18 |

Як пры групаваньні па сродках вытворчасьці, так і па зямлі, $^0/_0$ дробных гаспадарак падае ад вёсак к хутарам, а $^0/_0$ буйных гаспадарак расьце. Значыцца становішча крайніх груп зьмяняецца дыямэтральна процілегла. Паскольку ў новых формах у тым ліку і хутарох памяншаецца $^0/_0$ дробных, па сутнасьці, бядняцкіх гаспадарак, гэта зьявішча трэба

[1]) Да інтэнсыўных раёнаў аднесены Віцебскі і Менскі, а да экстэнсыўных—Бабруйскі і Мазырскі.

прызнаць дадатным. Рост на другім канцавосьці буйнай групы таксама сам па сабе гаворыць толькі аб большым $^0/_0$ гаспадарак, якія выйшлі з сярэдняга вясковага ўзроўня, г. зн. аб павялічэньні ліку эканамічна больш моцных гаспадарак у пасёлках і хутарох. Якава сацыяльная прырода гэтай моцнасьці будзе прааналізавана намі ніжэй пры характарыстыцы найму прац. сілы і інш. момантаў.

Раўнаючы $^0/_0$ разьмяшчэньня гаспадарак па абодвух групаваньнях (сродках вытворчасьці і зямлі) у адных і тых-жа формах землякарыстаньня, нельга не зьвярнуць увагі на тое, што $^0/_0$ гаспадарак у I групах па зямлі, у вёсках і пасёлках менш, а ў хутарох больш, чымся ў I групе па сродках вытворчасьці. Гэта акалічнасьць паказвае на тое, што ў вёсках і пасёлках частка гаспадарак з II групы па зямлі, а можа быць нават з III пераважна правалі ў I групу па сродках вытворчасьці, што сьведчыць аб адмоўнай дыспрапорцыі зямлі і сродкаў вытворчасьці. Іначай сказаць ня ўсе гаспадаркі вышэйшых груп па зямлі здолелі ахапіць і насыціць землі сродкамі вытворчасьці. На хутарох у гэтых адносінах больш спрыяючае становішча: тут частка гаспадарак (праўда незначная) з дробнай зямельнай групы паднялася ў сярэднюю групу, дробная група паменшылася. З другога боку на хутарох павялічылася буйная група па сродках вытворчасьці. Наогул адбылася перасоўка ў бок інтэнсыўнага ўзбуйненьня, якім можа лічыцца ўзбуйненьне па сродках вытворчасьці.

Разглядаючы дыфэрэнцыяцыю па раёнах, мы бачым, што ў экстэнсыўных раёнах $^0/_0$ дробных гаспадарак у вёсках і пасёлках ніжэй, а на хутарох вышэй у параўнаньні з інтэнсыўнымі. У адносінах-жа другой крайняй групы III, у вёсках і пасёлках раёны не зрабілі ніякога уплыву, а на хутарох III група ў інтэнсыўным раёне аказалася больш амаль у 2 разы III групы экстэнсыўных акруг. Такім чынам у экстэнсыўных раёнах дыфэрэнцыяцыя па формах землякарыстаньня бліжэй падыходзіць адна да другое, тады як у інтэнсыўных яна рэзка разыходзіцца і не ў карысьць вёсак і пасёлкаў, таму што ў іх павялічваецца дробная група. Для вясковай формы гэта гаворыць аб больш хуткім падрабненьні гаспадарак у інтэнсыўных раёнах, што не супярэчыць агульнаму ўяўленьню аб тэмпе дыфэрэнцыяцыі ў эканамічна больш разьвітых мясцовасьцях. Для новых форм гэта становішча можна разглядаць з двух пунктаў погляду:

1) Прызнаць данае становішча выходным, (статычным), г. зн. стварыўшымся пры ўтварэньні форм, тады трэба зрабіць такі вывад, што ў інтэнсыўных раёнах у пасёлкі ідзе большая частка дробных гаспадарак, чым у экстэнсыўных, а на хутарох наадварот, цяга да хутароў дробных гаспадарак у інтэнсыўных раёнах ніжэй

2) Разглядаць его як рэзультат таго працэсу, які адбываецца ў саміх новых формах, і, дапусьціўшы, што выходнае становішча ў пасёлках і хутарох было аднолькавым, прадпаложым аналёгічна вясковым, паколькі вёска зьяўляецца мацярынскай формай, зрабіць вывад аб большым уздыме ўсіх груп, у тым ліку і дробных на хутарох інтэнсыўных раёнаў.

У сапраўднасьці, пэўна, мелі месца абодва становішчы. Аб наяўнасьці першага становішча сьведчыць тое, што $^0/_0$ дробных гаспадарак па зямельнаму групаваньню на хутарох інтэнсыўных раёнаў меншы, а буйных большы, чымся ў экстэнсыўных, а ў пасёлках наадварот; паколькі-ж зямельная тэрыторыя ўладае меншай мобільнасьцю, можна дапусьціць, што яе разьмер у большай ступені адбівае выходнае становішча, перайшоўшых на хутары і пасёлкі гаспадарак.

Другое становішча (большы ўздым гаспадаркі на хутарох інтэнсыўных раёнаў), таксама дапусьціма, таму што больш хуткі тэмп уздыму ў інтэнсыўных раёнах назіраецца не толькі па хутарох, але і ў пасёлках, аб чым сьведчыць тая акалічнасьць, што ў пасёлках інтэнсыўных раёнаў % дробных гаспадарак па зямлі раўняецца % дробных гаспадарак па сродках вытворчасьці, а % буйных гаспадарак падвышаецца, чаго няма ў выходнай мацярынскай форме (вёсках). Значыцца, калі выходзіць з прадпасылкі ўстойлівасьці зямельнай прыметы і падабенства выходнага становішча з мацярынскай формай, то пасёлкі ў інтэнсыўных раёнах таксама зрабілі большае зрушэньне ў бок падвышэньня эканамічнай магутнасьці ўсіх груп, чымся ў экстэнсыўных, дзе наадварот некаторая частка гаспадарак перайшла ў больш дробныя групы. У лычбах гэта выглядзіць так: розьніца між колькасьцю процантаў у кожнай групе ў параўнаньні з вёскамі:

| | У інтэнсыўных раёнах | | | У экстэнсыўных раёнах | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III |
| **У пасёлках:** | | | | | | |
| 1. па сродках вытворчасьці . | −11 | + 7 | + 4 | − 8 | + 4 | + 4 |
| 2. па зямлі . . . . . . | − 4 | +11 | − 7 | −15 | +14 | + 1 |
| **У хутарох:** | | | | | | |
| 1. па сродках вытворчасьці . | −30 | − 4 | +44 | −11 | + 1 | +10 |
| 2. па зямлі . . . . . . | −18 | − 3 | +21 | − 3 | + 1 | + 2 |

У інтэнсыўных раёнах: у пасёлках дробная група паменшылася на 7%, сярэдняя на 4%, а буйная павялічылася на 11%; на хутарох дробная група паменшылася на 12%, сярэдняя на 1% і буйныя павялічыліся на 13%.

У экстэнсыўных раёнах у пасёлках: дробная група павялічылася на 7%, сярэдняя паменшылася на 10%, а буйная павялічылася на 3%. На хутарох-жа і тут зрушэньне спрыяючае: паменшылася дробная група на 8% і павялічылася буйная на 8%.

Вялікае зрушэньне на хутарох тлумачыцца іх узростам. Але цікава адзначыць, што ў інтэнсыўных раёнах тэмп перасоўваньня груп у пасёлках больш хуткі і яны за кароткі тэрмін амаль пасьпелі дагнаць хутары, тады як у экстэнсыўных раёнах пасёлкі павальней фармуюцца і ў першая часы зьніжаюць некалькі свае эканамічнае групаваньне. Хутары тут таксама праяўляюць меншы тэмп, чымся ў інтэнсыўных раёнах, але ўсё-ж, будучы больш дарослымі і зусім сфармаваўшыміся, маюць у гэтых адносінах больш дасягненьняў. Але хутары, падвышаючы эканамічнае групаваньне, ўносяць сюды свой карэктыў у тых адносінах, што дыфэрэнцыяцыя пры гэтай форме землякарыстаньня ўзмацняецца не колькасна (павялічэньне ліку дробных гаспадарак), а якасна,—(павялічэньне глыбіні разрыву паміж групамі), што было ўжо адзначана ў адносінах сродкаў вытворчасьці і можа быць дадаткова ілюстравана наступнымі лічбамі: стасунах ўсіх сродкаў вытворчасьці на 1 гасп. у буйнай гаспа-

дарцы (III) к дробнай (I), прынятай за 100 у экстэнсыўным раёне: у вёсках 426, хутарох 444; у інтэнсыўным: у вёсках 346, у хутарох 403.

Асабліва-ж рэзка выявілася розьніца ў глыбіні дыфэрэнцыяцыі ў розных формах па с.-г. плошчы на 1 гаспадарку.

Табліца 46.

| ФОРМЫ | Пры групаваньні па сродках вытворчасьці | | | | Пры групаваньні па с.-г. плошчы | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | Сярэдняе | I | II | III |
| **Вёскі:** | | | | | | | |
| Га на 1 гаспад. | 5,9 | 8,2 | 11,5 | 7,7 | 4,7 | 8,0 | 13,4 |
| Адносна | 100 | 137 | 195 | — | 100 | 170 | 285 |
| **Пасёлкі:** | | | | | | | |
| Га на 1 гаспад. | 6,1 | 7,4 | 9,5 | 7,6 | 5,0 | 7,5 | — |
| Адносна | 100 | 121 | 155 | — | 100 | 157 | — |
| **Хутары:** | | | | | | | |
| Га на 1 гаспад. | 5,3 | 8,7 | 11,8 | 9,2 | 4,4 | 8,8 | 15,1 |
| Адносна | 100 | 164 | 223 | — | 100 | 200 | 343 |

Па абодвух групаваньнях бачым, што пасёлкі пайшлі ад свае мацярынскае формы ў бок нівэляваньня разьмеру гаспадаркі, набліжэньня крайніх груп, хутары-ж наадварот—у бок далейшага разрыву.

Для далейшай характарыстыкі эканамічнай дыфэрэнцыяцыі прыведзем % гаспадарак, немаючых асноўных відаў жывёл.

Табліца 47.

| ФОРМЫ | Інтэнсыўныя раёны | | | Экстэнсыўныя раёны | | | Сярэдняе | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | бяз коняй | бяз короў | бяз сьвін. | бяз коняй | бяз короў | бяз сьвін. | бяз коняй | бяз короў | бяз сьвін. |
| Вёскі | 2,2 | 3,7 | 5,8 | 5,4 | 1,5 | 5,4 | 3,8 | 2,6 | 5,6 |
| Пасёлкі | 2,8 | 2,8 | 14,1 | 6,1 | 5,3 | 8,9 | 4,5 | 4,0 | 11,5 |
| Хутары | 3,2 | 0,0 | 8,5 | 5,8 | 1,3 | 13,4 | 4,5 | 0,7 | 11,0 |

Табліца не выяўляе вызначаных тэндэнцый па формах землякарыстаньня. Можна канстатаваць хужэйшае становішча ў пасёлках у сярэдніх лічбах, але па раёнах лічбы супярэчныя, чаму гэты вывад можа быць зроблен толькі для данага выпадку.

## 2.

Перайдзем да характарыстыкі элемэнтаў аграмаджаньня (табл. 2 дадатку). У адносінах зямельных угодзьдзяў агульнае карыстаньне наглядаецца толькі выганам і, галоўным чынам, толькі ў вёсках і пасёлках.

Аграмаджаньне сродкаў вытворчасьці відаць у наступнай табліцы (сярэднее для ўсіх 4-х гнезд).

Табліца 48.

| ФОРМЫ | Машыны: % гасп. | Машыны: % каштоўнасьці | Жывёла: % гасп. | Жывёла: % каштоўнасьці | Будынкі: % гасп. | Будынкі: % каштоўнасьці | % усей каштоўнасьці агульнага карыстаньня | % усяго аграмадж. па каштоўнасьці: У інтэнсыўных раёнах | % усяго аграмадж. па каштоўнасьці: У экстэнс. раёнах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вёскі . . . . | 16 | 7,2 | 6 | 0,7 | 12 | 3,5 | 2,7 | 4,2 | 1,3 |
| Пасёлкі . . . . | 16 | 9,2 | 1,5 | 0,2 | 10 | 2,2 | 1,5 | 2,3 | 0,9 |
| Хутары . . . . | 23 | 4,3 | 10 | 0,1 | 18 | 4,0 | 1,9 | 2,2 | 1,5 |

Ва ўсіх формах землякарыстаньня маюцца сродкі вытворчасьці агульнага карыстаньня. Найбольшы процант іх аказаўся ў вёсках, некалькі ніжэй на хутарох і пасёлках. Па раёнах агульнае карыстаньне сродкамі вытворчасьцяй больш у інтэнсыўных і менш у экстэнсыўных раёнах. У інтэнсыўных раёнах з больш разьвітаю тэхнікаю і ўкараненьнем больш складаных машын і іншых сродкаў вытворчасьці шпарчэй узьнікаюць умовы і патрэбы сумеснага карыстаньня. У разьвіцьці калектыўных форм земляробства назіраецца такая-ж тэндэнцыя. Вытворчыя прадпасылкі тут адны і тыя-ж: дробныя раздробленыя сялянскія гаспадаркі не здолеюць у паасобку кожнае набываць удасканаленыя машыны, заводзіць завадзкую жывёлу і г. д., чаму яны самімі вытворчымі умовамі таўхаюцца на шлях агульнага карыстаньня.

Уплыву агульных умоў с.-г. раёну падлягаюць усе індывідуальныя формы землякарыстаньня. Мы бачым, што ў інтэнсыўных раёнах % агульнага карыстаньня вышэй ня толькі ў вёсках і пасёлках, але і на хутарох. Але трэба адзначыць, што на хутарох розьніца між экстэнсыўнымі і інтэнсыўнымі раёнамі менш, чымся ў вёсках і пасёлках. Яны павальней павялічваюць % сродкаў вытворчасьці агульнага карыстаньня, зьвяртаючыся да гэтага відочна, у самых крайніх выпадках і пры асобна спрыяючых умовах. Гэта асабліва наглядна пацьвярджаецца % сумеснага карыстаньня машынамі. Машыны наогул лягчэй усяго аграмаджваюцца, але хутаране ідуць на гэта ў апошнюю чаргу, аддаючы перавагу індывідуальнаму забясьпечаньню, чаму % сумесных машын па каштоўнасьці тут ніжэй. Высокі % сумеснага карыстаньня будынкамі на хутарох не характэрны, таму што сюды ўвайшлі будынкі недаўна падзяліўшыхся хутаран у Віцебскай акрузе, аставіўшых у агульным карыстаньні частку будынкаў, можа быць часова, да выстаўленьня новых. Наогул на цераспалосных хутарох Віцебшчыны высок ня толькі % сумеснага карыстаньня будынкамі, але таксама машынамі і сумарны % вартасьці агульнага карыстаньня, а менавіта: вартасьць агульных машын = 21,6%, будынкаў = 14,8% і сумарная вартасьць = 7,4%.

Тут мы маем справу з своеўласьцівымі, гэтак сказаць, сямейнымі калгасамі, які атрымаліся ў выніку канчатковага працэсу хутарызацыі, аб чым было сказана вышэй. Такі-ж малюнак і ў Менскай акрузе, з цераспалоснымі хутарамі, толькі некалькі менш яскрава выражаны. Па відах сродкаў вытворчасьці, сумеснае карыстаньне ва ўсіх формах зем-

лякарыстаньня вышэй усяго праявілася ў адносінах машын, затым будынкаў і потым ужо жывёлы. Гэта тэндэнцыя, а таксама адзначаны вышэй уплыў інтэнсыўнасьці с.-г. раёну на % сумеснага карыстаньня напамінаюць у некаторай меры тэндэнцыю разьвіцьця калгаснага руху па раёнах і аграмаджаньня паасобных відаў сродкаў вытворчасьці ў калгасах. Па маючыхся дадзеных можна зрабіць вывад, што калгасны рух хутчэй разьвіваецца ў рынчных, эканамічна разьвітых раёнах. Гэтае становішча пацьвярджаецца разьвіцьцём калгасаў у тых раёнах, дзе намі вывучаліся формы землякарыстаньня. Так па дадзеных Калгасцэнтра БССР колькасьць калгасаў розных відаў у цікавячых нас акругах па гадох была наступная:

Табліца 49.

| А К Р У Г І | Па 1/X 1927 г. | Па 1/X 1928 г. | Па 15/IV 1929 г. | Усяго на 15 красавіка 1929 г. |
|---|---|---|---|---|
| У Віцебскай і Менскай (інтэнсыўны раён) | 104 | 348 | 80 | 532 |
| У Мазырскай і Бабруйск. (экстэнсыўны р.) | 88 | 164 | 112 | 364 |

Параўноўваючы гэту табліцу з папярэдняй, мы бачым, што умовы раёнаў вызначаюць тэмпы разьвіцьця арганізаванага аграмаджаньня і неарганізаванага „самоцякучага“ сумеснага карыстаньня.

Такім чынам, паколькі эканамічная разьвітасьць сельска-гаспадарчага раёну стымулюе прагрэсыўную рэарганізацыю с.-гасп. вытворчасьці, пастолькі ў пошуках шляхоў гэтай рэарганізацыі, насельніцтва стыхійна ідзе на аграмаджаньне і на сумеснае набыцьцё і карыстаньне сродкамі вытворчасьці.

Для ілюстрацыі сходнасьці тэндэнцый ў ступені аграмаджаньня розных відаў сродкаў вытворчасьці у калгасах і % сумеснага карыстаньня ў індывідуальных гаспадарках прыведзем наступныя дадзеныя: % аграмаджаньня ў калгасах мертвага інвэнтару каля 68%, будынкаў—23% і жывога інвэнтару каля 16%. („На путях к крупному коллективному с.-хоз. производству“). Раўнаючы гэтыя дадзеныя з табл. 48 мы бачым поўную сходнасьць тэндэнцый арганізаванага і „выпадковага“ неарганізаванага аграмаджаньня.

3.

Разгледзім каапэраванасьць насельніцтва па формах землякарыстаньня. Сярэдні % каапэраваных гаспадарак ад агульнага ліку дасьледваных па ўсіх 4 гнездах наступны:

Табліца 50.

| ФОРМЫ | Інтэнсыўныя раёны | | | | Экстэнсыўныя раёны | | | | Сярэдняе | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Спажывец. кааперац. | С.-Г. | Крэдыт. | Разам | Спажывец. кааперац. | С.-Г. | Крэдыт. | Разам | Спажывец. кааперац. | С.-Г. | Крэдыт. | Разам |
| Вёскі | 26 | 19 | 4 | 47 | 15 | 4 | 8 | 27 | 22 | 12 | 6 | 37 |
| Пасёлкі | 15 | 36 | 26 | 76 | 52 | 3 | 5 | 55 | 33 | 20 | 15 | 65 |
| Хутары | 39 | 13 | 39 | 78 | 27 | 11 | 14 | 50 | 33 | 12 | 26 | 64 |

Сума $^0/_0$ паасобных відаў не супадае з сярэдняй каапераванасьцю таму, што некаторыя гаспадаркі знаходзяцца ў 2-х альбо 3-х відах каапэрацыі.

Па ўсіх формах землякарыстаньня ў інтэнсыўных раёнах каапэраванасьць вышэй, чымся ў экстэнсыўных. Потым каапераванасьць у новых формах (пасёлках і хутарох) ва ўсіх выпадках таксама значна вышэй каапэраваньня вёсак.

Гэтыя палажэньні зусім узгадняюцца з агульным уяўленьнем па дадзенаму пытаньню.

Няма ніякіх сумненьняў у тым, што эканамічная разьвітасьць раёну ёсьць асноўная вытворчая прадпасылка для каапэраваньня насельніцтва.

З другога боку, пераход да новых форм землякарыстаньня аслабаняе разьвіваючыяся вытворчыя сілы ад ранейшых кансэрватыўных акоў і стварае больш спрыяючую навонкавую абалонку для далейшага разьвіцьця. Паскольki-ж унутраныя сілы, стварыўшыя і ўліўшыяся ў гэту абалонку, прадстаўляюць больш энэргэтычную групу насельніцтва, пастолькі гаспадаркі гэтых форм паўней выкарыстаўваюць усе эканамічныя (і сацыяльныя) умовы свайго існаваньня.

Пасёлкі і хутары маюць аднолькавы $^0/_0$ каапэраванасьці ў сярэднім. Высокі процант каапэраванасьці пасёлкаў трэба лічыць дасягненьнем нашай пасьлярэвалюцыйнай каапэрацыі. У дарэвалюцыйны пэрыяд каапэрацыя больш разьвівалася ў мясцовасьцях моцнага распаўсюджаньня хутарскіх і атрубных форм землякарыстаньня. Наогул Сталыпінская аграрная рэформа была адным з відных фактараў росту сялянскай каапэрацыі. Яна пэўна садзейнічала разьвіцьцю тавараз вароту з вёскай і гэтым самым дапамагала каапэраваньню, паскольkі аб'яднаньне для збыту, зьвязанага з перапрацоўкай, а таксама для крэдытаваньня было выгодна разьвіваючымся сялянскім гаспадаркам. Само сабою зразумела, што гэта касалася такіх гаспадарак, якім наогул было што збываць, г. зн. гаспадарак, так званых „моцных мужыкоў" хутаран, асабліва садзейнічаўшых дарэвалюцыйнаму росквіту каапэрацыі. Пасьля рэвалюцыі роля і сацыяльны склад каапэрацыі, як ведома, дыялектычна зьмяніліся. Каапэрацыя, якая абарачвалася пры капіталістычным ладзе ў прыдатак да капіталізму, пасьля заваёвы ўлады пралетарыятам, у пэрыяд дыктатуры пралетарыяту, зьяўляецца магутным сродкам сацыялістычнага будаўніцтва. У гэтай ролі каапэрацыя ў сельскай гаспадарцы апіраецца на бядняцка-серадняцкія масы сялянскага насельніцтва.

Сацыяльны склад пасёлкаў, зьяўляючыхся прадуктам рэвалюцыйнага земляўпарадкаваньня, ня носіць тых адмоўна тэндэнцыёзных рыс, якімі адзначаліся даўнейшыя хутары. Таму каапэраванасьць пасёлкаў на нашых вачох, наогул кажучы, больш каштоўна, чымся хутароў, паскольkі $^0/_0$ бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у пасёлках вышэй (таб. 51). Але на жаль, мэтавая плянавая ўстаноўка каапэрацыі, якая арыентуецца на бядняцка-серадняцкае насельніцтва на месцох, іншы раз уступае напору вытворча больш моцных гаспадарак, можа быць нават чуждых па свайму сацыяльнаму зьместу агульнаму будаўніцтву.

Мы гаворым аб ступені каапэраванасьці розных эканамічных груп (групаваньне па зямлі).

Табліца 51.

| ФОРМЫ | % каапэраванасьці | | | Адносіны % каапэраван. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III |
| Вёскі . . . . . | 29 | 39 | 41 | 100 | 134 | 141 |
| Пасёлкі . . . . . | 57 | 67 | 85 | 100 | 117 | 149 |
| Хутары . . . . . | 44 | 65 | 68 | 100 | 148 | 155 |

Больш моцныя групы ахоплены каапэрацыяй шырэй, а значыцца яны больш поўна карыстаюцца ўсімі перавагамі каапэратыўнага аб'яднаньня.

Паколькі ў склад буйных груп увайшлі быўшыя раней дробныя гаспадаркі, павялічыўшыя сваю вытворчасьць у рэзультаце нармальнага для нашых умоў эканамічнага росту (без адмоўных сацыяльных момантаў), пастолькі вялікая каапэраванасьць буйных груп не зьяўляецца недахопам, наадварот, гэта вартасьць пасьля-рэвалюцыйнай каапэрацыі, жывыя сьведкі яе правільнай работы. Паколькі-ж няма гэтага становішча і буйныя гаспадаркі ёсьць рэзультат капіталістычнай дыфэрэнцыяцыі, большая іх каапэраванасьць говорыць аб тым „напоры" эканамічна моцных гаспадарак, перад якімі ня можа іншы раз устояць каапэрацыя.

Разгледзім каапэраванасьць па відах каапэрацыі. У сярэднім па ўсіх раёнах спажывецкая каапэрацыя аднолькава разьвіта ва усіх формах землякарыстаньня, аб'яднаючы каля 50—60% усіх гаспадарак. % с.-гасп. тав-ва прадстаўляе некалькі большую рознастайнасьць, прычым першае месца тут займаюць пасёлкі і вёскі, апошнее хутары. Але асабліва рэзкая розьніца наглядаецца ў разьвіцьці крэдытнай каапэрацыі. Хутары тут займаюць першае месца (40% ад усіх каапэраваных гаспадарак), за імі ідуць пасёлкі (23%) потым вёскі (17%). Асабліва-ж высок % крэдытнікаў у хутарскіх гаспадарках інтэнсыўных раёнаў.

Крэдытная каапэрацыя, апэруючы сродкамі ў найбольш элястычнай, часта грашовай форме, больш астаўляла свабоды індывідуальнаму гаспадараваньню, спрыяючы гэтым самым хутаранам і гарманічна ўвязваючыся з агульнам ладам іх матар'яльна і сацыяльна адасобленай гаспадаркі.

Закончым гэты разьдзел разгледжаньнем некаторых іншых бакоў вытворча-культурнай актыўнасьці насельніцтва ў розных формах землякарыстаньня.

Табліца 52.

| ФОРМЫ | З 100 гасп. састаяць сябрамі камітэту ўзаемадапам. | На 100 гасп. зьвярн. да | | Інтэнсыўн. зьвярнан. да | | На 100 душ кожнай узроставай групы | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Дарослых | | Паўпрацаўнікоў і падросткаў | | |
| | | Агранома | Вэтэрынара | Агранома | Вэтэрынара | Пісьменн. | Няпісьм. | Пісьменн. | Вучн. | Няпісьм. |
| Вёскі . . . | 36 | 18 | 36 | 5,2 | 2,3 | 46 | 54 | 50 | 22 | 28 |
| Пасёлкі . . . | 23 | 34 | 34 | 4,2 | 2,7 | 53 | 47 | 31 | 37 | 32 |
| Хутары . . . | 27 | 21 | 29 | 4,3 | 2,4 | 59 | 41 | 32 | 44 | 24 |

Як бачым удзел у камітэце ўзаемадапамогі ў новых формах землякарыстаньня ніжэй. Такім чынам гэта форма сацыяльна-вытворчага аб'яднаньня с лянскай гаспадаркі разьвілася мала ў пасёлках і хутарох. У адносінах агранамічнай актыўнасьці, выражаемай % гаспадарак, зварочваючыхся да агранома, новыя формы стаяць уперадзе, асабліва выдзеляюцца пасёлкі. Але інтэнсыўнасьць звярненьня, вымераемая лікам зваротаў адной гаспадаркі ў год вышэй у вёсках. Такім чынам у вёсках наглядаецца меншы круг кліентаў агранамічнай дапамогі, але кліентаў больш устойлівых, тады як у пасёлках і хутарох наадварот, большы круг кліентуры, але з меншай сувязью. Цікава сувязь з вэтэрынарнай дапамогай. Тут у адносінах круга гаспадарак па формах землякарыстаньня мы бачым менш розьніцы, і мае яна адваротную тэндэнцыю, у параўнаньні з аградапамогай. Можна дапусьціць па гэтай ускоснай прымеце, што ў вёсках больш патрэбы ў вэтэрынарах з прычыны горшага ўтрыманьня жывёлы пры масавым яго зграмаджэньні. Інтэнсыўнасьць зьвярненьня да вэтэрынара ва ўсіх амаль формах аднолькавая. Актыўнасьць к пісьменнасьці павялічваецца ад вёсак к хутарам; тое-ж самае наглядаецца у адносінах вучняў паўпрацаўнікаў і падросткаў.

Апошняе некалькі супярэчыць сустракаючамуся іншы раз у спэцыяльнай літаратуры ўказаньню на тое, што % вучняў на хутарох ніжэй, прычым гэта тлумачылася галоўным чынам тэрыторыяльнай расківанасьцю хутароў і цяжкасьцю зносін у асаблівасьці ў зімовы час.

На нашым матар'яле гэта не пацьвердзілася, да бадай ці можа быць прынята, як агульнае становішча. Цяжка дапусьціць, каб хутаране, больш магутныя эканамічна і больш актыўныя ў іншых адносінах, не знайшлі выхаду з той нявыгоды зносін са школай, якая запраўды стварэецца тэрыторыяльнаю раз'яднасьцю іх гаспадарак.

Дадзім характарыстыку пісьменнасьці па эканамічных групах.

Пісьменных на 100 душ кожнай катэгорыі — Табліца 53.

| ФОРМЫ | I | | | II | | | III | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | мужч. | жанч. | падр. | мужч. | жанч. | падр. | мужч. | жанч. | падр. |
| Вёскі | 64 | 23 | 72 | 64 | 29 | 73 | 87 | 24 | 81 |
| Пасёлкі | 76 | 24 | 65 | 71 | 26 | 68 | 82 | 29 | 92 |
| Хутары | 72 | 38 | 69 | 78 | 36 | 81 | 86 | 42 | 87 |

Агульная тэндэнцыя ва ўсіх формах:

З павялічэньнем магутнасьці гаспадаркі павялічваецца і лік пісьменных усіх катэгорый. Па формах землякарыстаньня вызначанай выяўленай тэндэнцыі па эканамічных групах няма, за выключэньнем пісьменнасьці жанчын, якая на хутарох ва усіх групах вышэй.

## Наём і продаж працоўнай сілы

Разгледзім разьмер, віды і аплату найму і продажу працоўнай сілы па формах землякарыстаньня. Перш за усе трэба адзначыць, што забясьпечанасьць гаспадарак сваімі працаўнікамі па формах землякарыстаньня мала адрозьніваецца, а менавіта: на 1 гаспадарку ў сярэднім прыходзіцца: у вёсках 3,12, пасёлках 3,02, атрубох 2,94, і хутарох 3,09.

Агульны разьмер найму і продажу працсілы ў рублёх наступны:

Табліца 54.

| Формы | На 1 гаспадарку | | | | | | На 1 душу ў сярэдн. | | На 1 га ў сярэдн. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Інтэнсыўн. | | Экстэнсыўн. | | Сярэдняе | | | | | |
| | Прададзена | Куплена | Прададзена | Куплена | Прададзена | Куплена | Прададзена | Куплена | Прададзена | Куплена |
| Вёскі . . . . | 26,5 | 2,5 | 36,2 | 3,03 | 31,3 | 2,8 | 5,87 | 0,6 | 4,6 | 0,4 |
| Пасёлкі . . . . | 19,4 | 6,0 | 48,5 | 2,6 | 34,0 | 4,3 | 6,3 | 0,9 | 4,9 | 0,7 |
| Атрубы . . . . | 45,5 | 13 | — | — | — | — | 9,0 | 2,7 | 10,2 | 2,8 |
| Хутары . . . . | 49,1 | 13,3 | 58,5 | 5,5 | 53,8 | 9,3 | 9,3 | 1,6 | 6,4 | 1,0 |

Усе тры паказальнікі (на 1 гасп., на 1 га і 1 душу) зусім узгоднена высоўваюць хутары і атрубы на першае месца па найму і продажу працсілы. Прычым гэтае становішча зусім устойліва, як у інтэнсыўных так і ў экстэнсыўных раёнах, дарэчы сказаць, моцна адрозьніваючыхся па рыначнаму звароту працсілы.

Само сабою зразумела, што сярэднія даныя аб разьмеры куплі і продажу працсілы вельмі мала яшчэ гаворaць аб сацыяльнай сутнасьці гэтых адносін. Важна ўстанавіць, якія эканамічныя групы ўдзельнічаюць у рыначным звароце працсілы, якавы віды найму і г. д.

Наступная табліца, складзеная па падворных формулярах дае некаторае ўяўленьне аб гэтым.

Па разьліку на 1 гаспадарку (раб.)

Табліца 55.

| Віды найму / Формы і групы | Прададзена працсілы | | | | | | Куплена працсілы | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пастаян. | Сэзонны (пасьба) | Падзённы | Зьдзельны | Усяго | Плата за 1 дзень пры падз. найму | Тэрміновы | Падзённы | Зьдзельны | Усяго | Плата за 1 дзень пры падз. найму |
| **Вёскі:** | | | | | | | | | | | |
| I . . . | 5,2 | 2,8 | 3,4 | 7,4 | 18.8 | 1,00 | 0,1 | 0,7 | 0,5 | 1,3 | 1,13 |
| II . . . | 11,5 | 2,0 | 2,5 | 10,2 | 26,2 | 1,43 | 0,5 | 2,3 | 0,1 | 2,9 | 0,80 |
| III . . . | 68,1 | — | 3,6 | 21,1 | 92,8 | 1,73 | 2,0 | 5,5 | — | 7,5 | 0,97 |
| Сярэдняе . . . | 15,5 | 2,3 | 3,1 | 10,3 | 31,3 | 1,32 | 0,5 | 2,1 | 0,2 | 2,8 | 0,96 |
| **Пасёлкі:** | | | | | | | | | | | |
| I . . . | 7,4 | 5,5 | 4,2 | 12,2 | 39,3 | 1,33 | — | 1,7 | 2,5 | 4,2 | 1,25 |
| II . . . | 3,0 | 2,2 | 4,5 | 20,8 | 30,5 | 0,85 | — | 2,8 | 2,3 | 5,1 | 1,10 |
| III . . . | — | — | 3,6 | 26,7 | 30,3 | 0,93 | — | 1,4 | — | 1,4 | 1,00 |
| Сярэдняе . . . | 6,3 | 3,5 | 4,3 | 19,8 | 34,0 | 1,00 | — | 2,4 | 1,9 | 4,3 | 1,15 |
| **Хутары:** | | | | | | | | | | | |
| I . . . | 3,3 | 1,4 | 4,9 | 18,2 | 27,8 | 1,25 | — | 3,9 | 2,5 | 6,4 | 2,00 |
| II . . . | 6,8 | 4,1 | 10,0 | 10,5 | 31,4 | 1,35 | 2,4 | 2,9 | 4,9 | 10,2 | 1,00 |
| III . . . | 71,5 | — | 5,4 | 28,5 | 105,4 | 2,00 | 2,7 | 5,1 | 4,5 | 12,3 | 1,02 |
| Сярэдняе . . . | 26,7 | 2,8 | 5,4 | 17,9 | 52,8 | 1,48 | 1,8 | 3,8 | 3,2 | 9,3 | 1,07 |

У сярэднім па формах найбольш ажыўлёны рыначны зварот працсілы на хутарох, дзе ён перавышае вёскі на 85% і пасёлкі на 65%.

Разлядаючы продаж працсілы па відах найму, можна констатаваць наступнае:

Зьдельны наём ва ўсіх формах землякарыстаньня павялічваецца з павялічэньнем разьмеру гаспадаркі, ад дробных да буйных гаспадарак. Тое-ж можна сказаць аб хутарох і весках адносна пастаяннага найму.

Падзённы наём у абсалютных лічбах мае больш нэйтральны характар, а адносна падае з павялічэньнем разьмеру гаспадарак. Сэзонны-ж, галоўным чынам зьяуляецца „маёмасьцю“ дробных гаспадарак.

Прааналізуем гэтыя факты. Зьдзельная форма найму ў большасьці выпадкаў дапасоўваецца на работы з коньмі з с.-гасп. інвэнтаром. Буйныя гаспадаркі больш забясьпечаны сродкамі вытворчасьці, чаму яны ахвотна ідуць на гэтыя работы, тым больш, што зьдзельшчына часта прыпадае на свабодны ад с.-гасп работ час наогул аплачваецца высока. Другая справа з падзённымі альбо сэзоннымі відамі найму. Тут галоўным чынам прадаюцца голыя рукі, няўзброеная працоўная сіла і момант найму больш жорстка локалізаван у часе. Гэты від продажу працсілы не прыцягвае буйныя гаспадаркі, у асаблівасьці сэзонны наём, куды ўвайшоў галоўным чынам наём на пасьбу. Яны ідуць на яго ледзь у выпадках высокай платы і ў свабодны ад с.-гаспадарчых і іншых больш выгодных работ час. Гэта пяцьвярджаецца і разьмерам падзённага заробку. Мы бачым як правільна ўзростае падзённая плата за дзень з павялічэньнем магутнасьці гаспадарак у вёсках і хутарох.

У пасёлках 1 група прадстаўляе выключэньне з гэтага становішча, якое тлумачыцца тым, што тут было некалькі больш выпадкаў падзённага найму з канём. Наём на пастаянную працу у буйных гаспадарках зарэгістраван у невялікай колькасьці выпадкаў і зьўляецца наймам на службу больш ці менш добра аплачваемую. Тут зноў-такі мы маем зусім пэўную тэндэнцыю буйных гаспадарак рэалізаваць свабодную працоўную сі у выгоднейшым шляхам, што для іх зьяўляецца больш даступным з прычыны большай граматнасьці (таб. 53) і агульнай актыўнасьці.

Такім чынам эканамічныя групы, незалежна ад таго, у якой форме землякарыстаньня яны знаходзяцца, маюць цэлы шэраг агульных рыс і тэндэнцый, зьяўляючыхся так сказаць „надформеннымі“. Колькасная выражанасьць гэтых „надформеных“ тэндэнцый неаднолькава: усё больш яскрава выражана на хутарох. Калі ўзяць сярэднія дадзеныя па формах землякарыстаньня, то хутары ўстаюць у адносінах да іншых форм у такое-ж становішча, у якое ў межах вёсак і хутароў стаяць буйныя гаспадаркі (III) у адносінах да дробных. Адсюль зусім натуральна, што тыя адмоўныя рысы сацыяльна-эканамічнага характару, якія ўласьцівы буйным сялянскім гаспадаркам, таксама больш яскрава выражаны на хутарох. Асабліва гэта выяўляецца на куплі працсілы.

У гэтым пытаньні перш за ўсё адзначым тую-ж „надформеную“ тэндэнцыю, што і пры продажу працсілы, чым мацней гаспадарка, тым больш яна наймае. Наём для свае гаспадаркі таксама як і продаж на сторану мае рознае сацыяльнае значэньне ў залежнасьці ад таго, хто яго прыстасоўвае. Дробныя гаспадаркі, выступаючы у якасьці нанімацеляў часта аказваюцца ў яшчэ больш горшым становішчы, чымся тады, калі яны выступаюць, як прадаўцы працоўнай сілы. Наймаючы работніка эканамічна больш моцнага, бядняк няўхільна пападае ў залежнае ад яго становішча і расплачваецца ня толькі тым, што належало-б аддаць як нармальную зарплату, але і часта сваім уласным заробкам. Наадварот,

буйныя гаспадаркі ў абодвух становішчах пры куплі і продажы працсілы аказваюцца у больш выгодным становішчы, што і скарыстоўваюць у поўнай меры ў інтарэсах індывідуальнага накапленьня. Мы бачылі, што пры продажу працсілы падзённая плата падвышалася з павялічэньнем моцнасьці гаспадаркі, тут-жа пры пакупцы дзеля сябе наадварот, падзённая плата падае ад дробных гаспадарак к буйным. Калі дробныя гаспадаркі прадаюць працсілу па цане ніжэй той, па якой самі наймаюць, то буйныя наадварот,—прадаюць па цане значна вышэйшай, чымся купляюць. Асабліва вяліка розьніца ў неспрыяючы дзеля прадаўца бок паміж падзённай платай пры пакупцы і пры продажу працсілы рознымі эканамічнымі групамі на хутарох. Некаторым выключэньнем тут зьяўляюцца пасёлкі. Тэндэнцыя памяншэньня падзённай платы пры пакупцы працсілы ад дробных к буйным гаспадаркам маецца і тут, але пры параўнаньні з абсалютнымі цыфрамі аплаты працы пры продажу, мы бачым, што дробная група прадае па больш даражэй цане, чымся купляе, больш-жа буйныя наадварот. Тлумачэньне падвышанай аплаты ў I групе дано вышэй, але неабходна адзначыць, што наогул пасёлкі ўносяць некаторы дысонанс ва ўзгодненае трыманьне эканамічных груп у вёсках і хутарох. Гэта акалічнасьць і цэлы шэраг іншых меркаваньняў дае падставу меркаваць, што ў пасёлках, гэтых новых формах пасьлярэвалюцыйнага землякарыстаньня, складаюцца іншыя вытворчыя адносіны, больш адпаведаючыя сучаснаму напрамку, чымся ў вёсках, а асабліва на хутарох. Пры аналізу арганізацыі сродкаў вытворчасьці намі ўжо адзначалася большая дэмакратычнасьць пасёлкаў, маючых меншы інтэрвал паміж разьмерам сродкаў вытворчасьці ў меншай і буйнай групах.

Тое-ж канстатавалася ў разьдзеле аб дыфэрэнцыяцыі і г. д. На хутарох жа наадварот цэлы шэраг раней і тут адзначаных момантаў паказвае на больш яскрава выражаныя, чымся ў іншых формах, адмоўныя рысы сацыяльнага характару.

Для характарыстыкі разьмеру арэндных адносін па форме землякарыстаньня прыведзем наступную табліцу:

Табліца 56.

| ФОРМЫ | % гаспадарак | | На 100 га удобнай зямлі | | | | Адлегласьць, на якой здымалі | | Га удобнай зямлі на гаспадарку |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Здымалі | | Здавалі | | | | |
| | Здымалі | Здавалі | Пахаці | Сенажаці | Пахаці | Сенажаці | Пахаці | Сенажаці | |
| Вёскі . . . . | 9,1 | 1,6 | 0,4 | 1,5 | 0,6 | 0,1 | 1,5 | 6,0 | 7,7 |
| Пасёлкі . . . | 26,0 | 7,2 | 3,8 | 2,1 | 1,6 | 0,2 | 2,0 | 5,3 | 7,6 |
| Хутары . . . | 17,8 | 2,0 | 1,6 | 1,9 | 0,3 | 0,1 | 1,3 | 7,0 | 9,5 |

Найбольш ажыўлены арэндныя адносіны ў пасёлках. У іх найбольшы % гаспадарак уцягнут у арэнду і па разьмеру зямельнай плошчы пасёлкі здаюць і здымаюць больш іншых форм. Праўда, абсалютныя разьмеры арандуемай плошчы наогул невялікія ад 2% у вёсках да 6% у пасёлках. „Выдатнае“ становішча пасёлкаў у адносінах здачы зямлі трэба тлумачыць тым, што здатчыкі, дробныя бедняцкія гаспадаркі павялічыўшы землякарыстаньне пры выхадзе на пасёлкі ня пасьпелі яшчэ за тыя 2—3 гады, якія прайшлі з моманту іх рэарганізацыі, гаспадарча асвоіць цалкам адданыя ім землі, здыманьне-ж зямлі ў арэнду ў пасёлках

робяць галоўным чынам буйныя гаспадаркі (III група), зямельная тэрыторыя якіх значна менш ў параўнаньні з III групай іншых форм Для ілюстраваньня гэтых палажэньняў прыведзем наступныя дадзеныя:

| | | |
|---|---|---|
| здаюць зямлю на 100 га: | 1 група = 4,9 га | III = — га |
| здымаюць „ „ „ | 1 група = 1,8 га | III = 11,3 га |

За пасёлкамі па ступені ажыўленьня арэнды ідуць хутары. Але тут становішча дыямэтральна процілеглае: здымаюць больш дробныя гаспадаркі:

На 100 га 1 група здымае 6,2 га, а III толькі 4,1 га. Прычына тая, што тут дробныя гаспадаркі адносна менш землязабясьпечаны. Здача-ж зямлі ў арэнду на хутарох, таксама як і ў вёсках нязначна.

# АСНОЎНЫЯ ПАЛАЖЭНЬНІ

## I. Метадалёгія і мэтодыка

1. Асноўнай адзнакай форм землекарыстаньня адной ад другое зьяўляецца рознае сацыяльна-прававое і тэхнічнае становішча зямельнага вучастка, зданага землякарыстальніку для вядзеньня сельска гаспадарчай вытворчасьці. Уплыў форм землякарыстаньня на вытворчыя адносіны і тып вытворчасьці можа разглядацца, як уплыў надбудоўкі на базіс, у парадку ўзаемаадносін, і прынцыпова можа быць ацэньваема толькі з пункту погляду большай альбо меньшай адпаведнасьці форм землякарыстаньня разьвіцьцю прагрэсыруючай сыстэмы гаспадаркі і жаданых вытворчых адносін, у асноўным залежным ад іншых больш магутных фактараў і прадпасылак.

2. Выяўленьне эфэктнасьці форм землякарыстаньня можа быць зроблена шляхам параўнаньня паказальнікаў, характарызуючых становішча і рух сельска-гасп. вытворчасьці і вытворчых адносін, пры розных формах землякарыстаньня. Таму што адначасова з формамі землякарыстаньня на вытворчасьць і вытворчыя адносіны уплываюць і іншыя фактары і умовы, то неабходна: 1) аналітычнае разгляданьне уплыву форм і 2) дапасаваньне мэтаду ізаляцыі.

3. Аб дапасаваньні мэтаду ізаляцыі пры эмпірычным дасьледваньні эканамічных зьявішч можнага варыць вельмі абмежавальна і, само сабою зразумела, ня можа быць і гутаркі аб поўным раўнаньні ў вывучаемых аб'ектах усіх, акрамя форм землякарыстаньня, умоў і фактараў. Але ў адносінах цэлага шэрагў апошніх гэта ў вядомай ступені дасягальна альбо пры выбары аб'екта або пры распрацоўцы.

Пры выбары аб'ектаў, першай прадпасылкай некаторага равенства ўмоў, зьвязаных з прасторам (галоўным чынам, кліматычных асаблівасьцяй, адлегласьці ад рынку і г. д.), зьяўляецца іх тэрыторыяльная блізкасьць) адсюль выцекае неабходнасьць гнездавога разьмяшчэньня аб'ектаў. Затым у межах гнязда, выбар аб'ектаў павінен быць зроблен з магчымым раўнаньнем глебавых асаблівасьцяй. суадносін абсалютных угодзьдзяў, разьмеру землякарыстаньня і г. д. З мэтаю раўнаньня раўнаемых аб'ектаў павінна быць дапасавана адзінае групаваньне для ўсіх вывучаемых аб'ектаў гнязда.

4. Эфэктыўнасьць адной і той-жа формы землякарыстаньня ў розных прыродных і эканамічных умовах неаднолькава, таму для дэталёвага выяўленьня параўнаўчай эфэктыўнасьці і ўстойлівых асаблівасьцяй форм неабходнага вывучэньня іх у розных сельска-гаспадарчых раёнах.

Данае дасьледваньне зроблена ў чатырох раёнах, выдзеленых пры с.-г. раёнаваньні БССР загадч. аддзелам с.-г. эканомікі Земпляну Л. Г. Опра: 1) Віцебска-Гарадецкім, 2) Менска-Слуцкім, 3) Рагачоўскім (Бабруйскае акр.) і 4) Палескім (Мазырская акруга). Раёны выбраны такім чынам, што ахопваюць асноўныя вытворчыя тыпы сельскай гаспадаркі,

тэрыторыяльна разьмешчаныя ў антыподных частках БССР: на поўначы-поўдні, захадзе-усходзе.

5. Асноўнымі аб'ектамі вывучэньня зьяўляюцца індывідуальныя формы працоўнага землякарыстаньня, найбольш пашыраныя ў БССР: 1) неземляўпарадкаваная вёска, 2) пасялковая і 3) хутарская. Затым у залежнасьці ад наяўнасьці ў гняздзе, вывучаны атрубная форма і вадоліцы.

Апрача індывідуальных форм здмлякарыстаньня ў трох гнездах (Віцебскім, Менскім, і Мазырскім) узяты калектыўныя гаспадаркі (арцелі і камуны) для параўнаўчых супастаўленьняў з імі адноасабовых форм з мэтаю больш рэльефнага выяўленьня некаторых момантаў эфэктыўнасьці.

6. Асновы мэтодыкі дабываньня і распрацоўкі матар'ялу наступныя:

а) матар'ял сабран шляхам экспэдыцыйнага дасьледваньня на месцох у 1927 г. і ахоплів. 1926-27 бюджэтны год.

б) Гнезда дасьледваньня выбраны тыповыя для адпаведных с.-г. раёнаў (п. 4) як у адносінах прыродных і рыначных умоў, так і ў адносінах вытворчых тыпаў.

в) Тэрыторыя кожнага гнязда дасьледваньня не перавышае аднаго адміністрацыйнага раёну, займаючы значна меншую плошчу.

г) Аб'екты (селішча) у межах гнезда выбіраліся з захоўваньнем магчымага равенства і тыпавасьці ў адносінах глебавых умоў, рэльефу, разьмеру землякарыстаньня і суадносін абсалютных угодзьдзяў.

д) Узростны склад вывучаных аб'ектаў наступны: пасёлкі маюць ад 2-х да 5 год; у сярэднім па ўсіх гнездах некалькі звыш 3-х год. Такі-ж сярэдні ўзрост маюць калгасы. Атрубы—усе дарэвалюцыйнага пахаджэньня (1912—1913 г.г.). Хутары на $^3/_4$ таксама дарэвалюцыйнага пахаджэньня; сярэдні узрост іх каля 12 год (для бюджэтаў 10 год). Найбольш маладыя хутары ўзяты ў Бабруйскім гняздзе (каля 60% пасьлярэвалюцыйных).

е) Дасьледваньне зроблена па трох формулярах: 1) селішчнай манаграфіі, 2) падварнаму блянку (неперарыўнае) і 3) аграбюджэтнаму блянку (выбарачнае).

з) Сабраны матар'ял падлягаў наступнай апрацоўцы: 1) падворкі—асобна па кожнаму гнязду, у межах гнязда па формах землякарыстаньня і ў межах форм землякарыстаньня па эканамічных групах (3) і пaселішчах; эканамічнае групаваньне зроблена па двух прыметах: асноўных сродках вытворчасьці і сельска-гаспадарчай плошчы на адну гаспадарку; 2) аграбюджэтныя апісаньні распрацаваны рахункаводным мэтадам і зьведзены ў табліцы па індывідуальных гаспадарках, формах землякарыстаньня і гнездах.

## II. Сельска-гаспадарчая вытворчасьць

### Арганізацыя тэрыторыі

7. На арганізацыю тэрыторыі з тэхнічнага боку перш за ўсе робяць уплыў умовы с.-гасп. раёну. Раёны, па сумарнаму выразу ўсіх паказальнікаў тэхнічнай арганізаванасьці тэрыторыі (шмат-дробна-вузка-дальна-палосіцы), могуць быць пастаўлены ў наступны рад, пачынаючы з найбольш арганізаванага: Віцебскі, Менскі, Мазырскі і Бабруйскі.

8. Рэзка адрозьніваецца арганізаванасьць тэрыторыі на хутарох

розных раёнаў, што тлумачыцца рознай стадыяй эвалюцыі, у якой знаходзяцца хутары. У Віцебскім с.-г. раёне на сваей „гістарычнай радзіме", частка хутароў закончвае свае „натуральнае" разьвіцьцё раздрабленьня паміж членамі сямей тэрыторыі ня цэльнымі вучасткамі, а цераспалосна, паўтараючы на нашых вачох у мініятуры працэс утварэньня цераспалосных хутароў. У Мазырскай акрузе арганізаванасьць тэрыторыі хутароў таксама нізка, але тут гэта тлумачыцца тым, што частка хутароў знаходзіцца ў стадыі „станаўленьня" самацякучага збору паасобных палос шляхам абмену, да рэвалюцыі шляхам куплі і г. д. Менска-Слуцкі сельскагаспадарчы раён займае сярэднее месца, і ў ім цераспалосныя хутары ўтварыліся ў рэзультаце абодвух працэсаў.

9. Сумарная эфэктыўнасьць пасёлкаў і хутароў у інтэнсыўных раёнах (Віцебскім, Менска-Слуцкім) па земляўпарадкаванасьці тэрыторыі, мала розьніцца адна ад другое, але рэзка адрозьніваецца ад вёсак, тады як у экстэнсыўных раёнах (Бабруйскім і Мазырскім) назіраецца больш плаўнае і менш рэзкае падвышэньне эфэктыўнасьці ад вёсак к хутарам.

10. Эфэктыўнасьць арганізацыі тэрыторыі ў розных формах землякарыстаньня ў інтэнсыўных раёнах, вылічаная эмпірычна-норматыўна па эканоміі выдаткаў ад памяншэньня сярэдней адлегласьці і межнікаў, можа быць выражана ў наступных лічбах па разьліку на адзін гэктар с.-г. плошчы: на хутарох = 14 руб., пасёлках = 11,50, атрубох = 8,5. Адносіны каштоўнасьці выдаткаў выклікаемых паказанымі момантамі (сярэдняй адлегласьцю і межнікамі) наступныя: хутары = 1, пасёлкі = 1,5, атрубы 2,4 і вёскі 5,2.

11. Па эканамічных групах тэхнічная арганізацыя тэрыторыі найбольш „дыфэрэнцыявана" на хутарох, дзе бядняцкія гаспадаркі знаходзяцца ў адносна горшым становішчы, чымся ў пасёлках.

12. Асноўная зьмена ў складзе ўгодзьдзяў у новых формах землякарыстаньня зьмешчаецца ў падвышэньні адноснай вагі сядзібнай зямлі і выгану на хутарох.

## Арганізацыя сродкаў вытворчасьці

13. Па разьмеру сродкаў вытворчасьці на 1 гаспадарку, на гэктар і на 1 душу новыя формы землякарыстаньня (пасёлкі, хутары) стаяць вышэй вёсак. Пасёлкі па усіх трох паказальніках маюць перавышку на 7—10%, тады як перавышка паказальнікаў хутароў менш роўнамерна, а менавіта: па разьліку на 1 гасп. хутары маюць сродкаў вытворчасьці на 40% больш вёсак, на 1 гэктар толькі на 17% і на 1 душу 31%.

Гэта сьведчыць аб тым, што павялічэньне разьмеру сродкаў вытворчасьці на хутарох абумоўліваецца, галоўным чынам, павялічэньнем разьмеру землякарыстаньня. Розьніца паміж пасёлкамі і хутарамі без Менскага гнёзда, дзе на пасёлкі вышлі, галоўным чынам, бядняцкія гаспадаркі значна менш, чымся па ўсіх чатырох гнёздах, а менавіта: на 1 гасп. і 1 душу на 12—13%, а на 1 га 2%.

14. У інтэнсыўных раёнах (Віцебскім і Менскім) розьніца—паміж вёскамі і новымі формамі значна больш, чымся ў экстэнсыўных, эканамічныя адсталасьць якіх, зьяўляючыся агульным тормазам разьвіцьця сельскай гаспадаркі, абумовіла менш рэзкае разыходжаньне.

15. Агульныя суадносіны (структура) асноўных сродкаў вытворчасьці (будынкаў, нажывога інвэнтару і жывога) па каштоўнасьці ў індывідуальных формах землякарыстаньня аднастайны; хістаньні ў розных формах землякарыстаньня па раёнах не перавышаюць 1—3%.

16. Суадносіны ў межах жывога інвэнтару, паміж працоўнай і прадукцыйнай жывёлай, рэзка адрозьніваюцца па формах землякарыстаньня, пры чым гэта розьніца больш яскрава выяўляецца ў натуральным лічэньні (па ліку галоў), чымся ў цэннастным (па каштоўнасьці). Па разьліку на 100 га с.-г. плошчы маюць прац. жывёлы: 1) галоў: вёскі—21, пасёлкі—18, хутары—16 і калгасы—6 шт.; 2) па каштоўнасьці: вёскі, пасёлкі і хутары амаль аднолькава па 20—23 р. на адзін гэктар, калгасы-ж 12 руб. Такім чынам у новых формах землякарыстаньня адбываецца антаганістычны працэс памяншэньня колькасьці галоў працоўнай жывёлы і павялічэньне каштоўнасьці (якасьці) адной галавы; разам з тым павялічваецца ўтрыманьне жывёлы. Па разьліку на 100 га с.-гасп. плошчы, гадавая эканамія ад утрыманьня працоўнай жывёлы ў параўнаньні з вёскамі: у пасёлках—36 руб., хутарох—120 руб і калгасах—1308 руб.

17. Прадукцыйная жывёла падлягае той-жа тэндэнцыі, але тут рост каштоўнасьці ў новых індывідуальных формах абганяе вёскі. З прычыны гэтага, якасны склад жывёлін (па каштоўнасьці адной галавы: вазе, удою адкорму) у новых формах землякарыстаньня значна вышэй, пры чым розьніца паміж імі асабліва рэзка выявілася ў каштоўнасьці каня (калгасы—204 руб., хутары—150 руб., пасёлкі—110 руб.). Па іншых відах паказальнікі хістаюцца.

18. Склад і суадносіны сродкаў вытворчасьці ў эканамічных групах, падлягаючы агульнай тэндэнцыі, уласьцівай дробным, сярэднім і буйным гаспадаркам, маюць па формах землякарыстаньня тую асаблівасьць, што розьніца ў каштоўнасьці сродкаў вытворчасьці на адну гаспадарку паміж групамі найбольш вяліка на хутарох, некалькі менш у вёсках і яшчэ менш у пасёлках. Такім чынам пасёлкі аказаліся найбольш „дэмакратычнымі“: розьніца паміж бядняцкай, серадняцкай і заможнай групай у іх самая спрыяючая. Тое-ж самае наглядаецца па другіх момантах арганізацыі сродкаў вытворчасьці, напр. якасным складзе жывёлы, каштоўнасьці складаных машын на 1 гаспадарку і г. д.

19. Тэмп намнажэньня сродкаў вытворчасьці найбольш высокі ў пасёлках = 35% ад сродкаў быўш. да земляўпарадкаваньня, менш на хутарох = 27% і яшчэ менш на атрубох = 12% (усюды для сярэдняй эканамічнай групы—II). Асноўнай прычынай прыросту зьяўляецца павялічэньне зямельнай тэрыторыі, якое ў пасёлках было максымальным, але калі ўлічыць гэту акалічнасьць, то ўсё-ж пасёлкі, па разьліку на 1 гэктар, маюць большае намнажэньне, прыкладам 45—46%, тады як хутары 32—33%. (Даныя атрыманы з невялікага ліку „дынамічных“ падворак).

## Арганізацыя працы

20. У новых формах землякарыстаньня, агульная ступень скарыстаньня працы ніжэй вёсак: адносіны ўсіх выдаткаў працы: вёсак — 100, пасёлкі—96, атрубы—85, хутары—92, калгасы—68; вытворчых выдаткаў: вёскі—100; пасёлкі—95, атрубы—87, хутары—92, калгасы—78. Памяншэньне ступені выкарыстаньня працы характарызуе больш рацыянальную арганізацыю, але ў той жа час паказвае на недастатнасьць агульнай рэканструкцыі сельска-гаспадарчай вытворчасьці, г. зн. ашчаджаная праца не знаходзіць сабе поўнага дапасаваньня ў вытворчасьці. Асабліва гэта прыметна ў экстэнсыўных раёнах, дзе памяншэньне ступені скарыстаньня працы ў новых формах землякарыстаньня менш пакрываецца сустрэчным працэсам—інтэнсыфікацыяй, якая расьце на падставе вызваленай працы. Гэты працэс у некаторых інтэнсыўных раёнах (напры-

клад, Менска-Слуцкім) прыводзіць к таму, што выкарыстаньне працы ў новых формах становіцца вышэй вёсак.

21. Процант выкарыстаньня па ўзростных групах найменш спрыяючы на хутарох, дзе паўпрацаўнікі і дзеці нагружаны больш, чымся ў іншых формах.

22. Выдаткі працы на с.-г. у розных формах землякарыстаньня ў сярэднім па ўсіх 4-х гнёздах, амаль аднолькавы і складаюць 41—44% ад агульнага запасу; паміж земляробствам і жывёлагадоўляй праца разьмяркоўваецца прыкладам пароўнаму. Хістаньні па раёнах не перавышаюць 12%.

23. У індывідуальных формах выдаткі працы на земляробства па разьліку на 1 гэктар с.-г. плошчы (працаёмістасьць земляробства) хістаецца па раёнах у вельмі вузкіх межах (1—2 дні на гэктар), а у сярэднім па ўсіх 4-х гнёздах зусім аднолькавы. Калгасы маюць працаёмістасьць 14 дзён на 1 гэктар і моцна адрозьніваюцца ад індывідуальных форм, у якіх сярэдняя працаёмістасьць раўняецца 23 дням. Гэта памяншэньне працаёмістасьці ў калгасах належыць прыпісаць ня толькі падвышэньню землязабясьпечанасьці, з якою працаёмістасьць земляробства наогул знаходзіцца ў высокай сувязі (каэфіцыент карэляцыі $r = -0{,}89 \pm 0{,}09$), але і больш рацыянальным умовам вытворчасьці, уласьцівым калгасам. На апошняе непасрэдна паказвае павялічэньне розьніцы ў працаёмістасьці пасеву (на 1 га пасеву затрачваецца ў калгасах—18 дзён, у індывідуальных формах 36—37 дзён), пры прадукцыйнасьці земляробства, якая расьце ў калгасах. Выдаткі працы на 1 гэктар зерневых культур у калгасах ніжэй на 35—40%; на гэктар-жа бульбы амаль аднолькавы з індывідуальнымі формамі (каля 5%). Выдаткі працы ў індывідуальных формах адрозьніваюцца адны ад другіх незначна, у межах 10%, і не заўсёды ў карысьць новых форм.

24. Выдаткі на адну жывёлінную адзінку правільна растуць ад калгасаў праз вёскі і пасёлкі к хутарам, пры чым, гэты рост ідзе галоўным чынам, за кошт павялічэньня выдаткаў на летняе ўтрыманьне жывёлы (пасьбу). У асаблівасьці яскрава выяўляецца тая растрата працы, якая ўласьціва хутарскім (і атрубным) формам арганізацыі пасьбы. Лішак працоўных выдаткаў на 1 галаву прадукцыйнай жывёлы на хутарох, у параўнаньні з вёскамі, складае 30% і раўняецца 9-ці дням у год, на атрубох 12 дням.

25. Ступень выкарыстаньня цягавай сілы ў розных формах землякарыстаньня мае, за невялікім выключэньнем, адваротны, у параўнаньні з расходам працы, парадак, а менавіта: у калгасах выкарыстаньне цягі найбольш высокае, у вёсках-жа найменшае. Па раёнах праяўляецца агульная тэндэнцыя, уласьцівая ступені іх эканамічнага разьвіцьця: у інтэнсыўных раёнах выкарыстаньне цягавай сілы вышэй, чымся ў экстэнсыўных.

## Вытворчыя тыпы сельскай гаспадаркі

26. Па выяўленасьці прагрэсуючых сыстэм сельскай гаспадаркі на першае месца належыць паставіць пасёлкі, за імі хутары, затым атрубы і вёскі. Пасёлкі будуюць сваю гаспадарку з шырокім ахопам асноўных напрамкаў сельска-гаспадарчага раёну. Не заўсёды дасягнуўшы вышыні колькасных паказальнікаў становішча асобных галін, якія маюцца ў другіх форм землякарыстаньня (напрыклад ураджайнасьці, удояў і інш.) пасёлкі маюць тую перавагу, што з якаснага боку іх арганізацыйны плян больш адпавядае тыпу раёну і аджываючыя сыстэмы гаспадаркі ў іх прадстаўлены найбольш слаба.

### Агульная эфэктыўнасьць вытворчасьці

27. Становішча агульных рэзультатыўных паказальнікаў эфэктыўнасьці сельска-гаспадарчай вытворчасьці наступныя:

| Формы | Прадукц. працы (на адз.н прац. дзень руб. валавога прыбытку) | Прадукц. зямлі (на 1 га с.-г. плошчы руб. валавога прыбытку) | Рэнтабэльн. г-кі (на руб. выдаткаў прыбытк. валавой прадукцыі.) | Рэнтны каэфіцыент |
|---|---|---|---|---|
| Вёскі . . . . . . . . . | 1,04 | 50,3 | 1,01 | —10,1 |
| Пасёлкі . . . . . . . . | 1,01 | 53,6 | 1,01 | —15,3 |
| Хутары . . . . . . . . | 1,17 | 61,4 | 1,03 | — 8,1 |
| Калгасы . . . . . . . . | 2,17 | 51,8 | 1,29 | +36,3 |

Асабліва яскрава выдзеляецца высокая эфэктыўнасьць калгасаў, у якіх: на адзін працоўн. дзень прыходзіцца 2 руб. 17 кап. валавога прыбытку (прадукцыйнасьць працы); на адзін рубель выдаткаў прыходзіцца 1 руб 29 кап. валавой прадукцыі (рэнтабельнасьць г кі) і якія могуць прадаваць сваю прадукцыю на 36,3% ніжэй рыначных цэн, тады як іншыя формы не акупаюць прадажнага сабекошту на 8,1—15,3% (рэнтны каэфіцыент).

Індывідуальныя формы землякарыстаньня параўнаўча мала адрозьніваюцца адна ад другое па агульнай эфэктыўнасьці, але ўсё-ж трэба адзначыць, што ўперадзе стаяць хутары, абагнаўшыя іншыя формы на 2—20% па розных паказальніках.

28 Прыведзенаму становішчу рэзультатных паказальнікаў адпавядаюць і прадпасылачныя паказальнікі, як-то: разьмер вытворчасьці, арганічная будова капіталу, тэхнічны ўзровень інтэнсыўнасьці гаспадаркі і інш.

29. Пасёлкі і хутары маюць падвышаную, у параўнаньні з вёскамі, і рэзка адрозьніваючуюся адну ад другое эфэктыўнасьць у інтэнсыўных раёнах. У экстэнсыўных-жа раёнах эфэктыўнасьць новых форм роўна вясковай альбо ніжэй іх, а паміж сабою яны розьняцца вельмі мала.

30. Агульная эфэктыўнасьць па эканамічных групах ва ўсіх формах землякарыстаньня павялічваецца з пераходам ад дробных к буйным гаспадаркам. Больш ці менш вызначаных адхіленьняў ад агульнай тэндэнцыі формы землякарыстаньня ня ўносяць. Эфэктыўнасьць адной і тойжа групы ў розных формах правільна ўзрастае ад вёсак к пасёлкам і хутарам.

31. Эфэктыўнасьць пасёлкаў і хутароў аднаго ўзросту (4 г.) па прадукцыйнасьці працы і рэнтабельнасьці гаспадаркі амаль аднолькава; па прадукцыйнасьці-ж зямлі пасёлкі маюць некаторую перавышку, а менавіта: у рублёх для сярэдняй групы Бабруйскага і Мазырскага гнязда.

| | ПП | ПЗ | РГ |
|---|---|---|---|
| Пасёлкі . . . . . | 0,98 | 50,0 | 0,99 |
| Хутары . . . . . | 1,01 | 46,0 | 1,00 |

32. Найвышэйшую тavarнасьць маюць калгасы (30%), за імі ідуць хутары (11,7%), затым вёскі (8,1%) і пасёлкі (6,9%). Невысокая таварнасьць пасёлкаў тлумачыцца пэрыядам першаістага росту, які яны перажываюць.

## III. Вытворчыя адносіны

33. У новых формах землякарыстаньня суадносіны эканамічных груп больш спрыяючы, чымся ў вёсках: маецца меншы % бядняцкіх гаспадарак і больш сярэдніх і буйных. Але на хутарох гэты працэс ідзе адначасова з працэсам паглыбеньня разрыву паміж групамі, чаго няма ў пасёлках, дзе розьніца паміж дробнымі, сярэднімі і буйнымі гаспадаркамі найменшая.

У інтэнсыўных раёнах працэс перасоўкі груп ідзе больш шпарка, чымся ў экстэнсыўных.

34. У адносінах проценту гаспадарак, не маючых асноўных відаў жывёлы (коняй, кароў, сьвіней), формы землякарыстаньня вызначаных тэндэнцый не выяўляюць.

35. Разьмер сумеснага карыстаньня сродкамі вытворчасьці ў індывідуальных формах землякарыстаньня наогул не вялікі і хістаецца паміж асобнымі формамі ў межах ад 1,5 да 2,7% ад агульнай каштоўнасьці ўсіх сродкаў вытворчасьці. Сумеснае карыстаньне на хутарох тлумачыцца галоўным чынам наяўнасьцю нерасдалосных хутароў, якія атрымаліся ў выніку падзелу (канчатковая стадыя эвалюцыі хутара).

36. У адносінах уплыву на разьмер сумеснага карыстаньня інтэнсыўнасьці раёну і віду сродкаў вытворчасьці заўважваецца агульная тэндэнцыя з аграмаджаньнем у калгасах, а менавіта: найбольшы процант сумеснага карыстаньня падае на інтэнсыўныя раёны, а па відах сродкаў вытворчасьці больш усяго аграмаджаны машыны, за імі ідуць будынкі, потым жывёла.

37. Каапэраванасьць пасёлкаў і хутароў аднолькава, вёскі-ж процантаў на 80 стаяць ніжэй іх. Процант каапэраванасьці павялічваецца з ростам разьмеру гаспадарак ва ўсіх формах землякарыстаньня, але адносіны %% каапэраваньня беднякоў, сераднякоў і заможных па формах не аднолькавы: на хутарох каапэраван адносна большы процант буйных гаспадарак, чымся ў пасёлках і вёсках.

У адносінах каапэраванасьці розных форм па відах каапэрацыі асабліва рэзкая розьніца заўважваецца ў крэдытнай каапэрацыі, дзе хутары займаюць першае месца, за імі ідуць пасёлкі, затым вёскі.

38. Па найму (куплі і прадажу) працсілы на першым месцы стаяць хутары і атрубы, перавышаючыя пасёлкі і вёскі ў 2—3 разы.

39. Эканамічныя групы незалежна ад формы землякарыстаньня маюць цэлы шэраг „надформенных" тэндэнцый у пытаньні наймы працсілы (павялічэньне рыначнага звароту працсілы з узбуйненьнем гаспадаркі, „излюбленность" буйнымі гаспадаркамі зьдзельнага найму і г. д.), але формы ўносяць свае асаблівасьці. Як напрыклад, звычайная тэндэнцыя якая зьмяшчаецца ў тым, што буйныя гаспадаркі прадаюць працсілу па больш высокай цане, чымся купляюць, а дробныя наадварот, мае па формах землякарыстаньня тую асаблівасьць, што на хутарох яна выяўлена найбольш яскрава, тады як ў пасёлках, мае адваротны выгляд.

| Плата за адзін працоўн. дзень падзённаму рабочаму: Руб. | Вёскі | | | Пасёлкі | | | Хутары | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | I | II | III | I | II | III |
| пры продажу . . . . . | 1,0 | 1,43 | 1,73 | 1,33 | 0,85 | 0,93 | 1,25 | 13,5 | 2 |
| пры куплі . . . . . . . | 1,13 | 0,80 | 0,97 | 1,25 | 1,10 | 1,0 | 2,0 | 1,0 | 1,0 |

40. Арэндныя адносіны (па здачы і найму) найбольш ажыўлены ў пасёлках, за імі ідуць хутары, затым вёскі. Для пасёлкаў гэта тлумачыцца тым, што тут здаюць бядняцкія гаспадаркі, атрымаўшыя большы зямельны надзел і не пасьпеўшыя яшчэ асвоіць яго, а здымаюць буйныя гаспадаркі, маючыя адносна меншы разьмер зямлі, чымся буйныя гаспадаркі іншых форм. На хутарох становішча дыямэтральна процілеглае: здымаюць больш дробныя гаспадаркі, адносна горш землязабясьпечаныя.

## Агульныя вывады.

41. Вытворчы эфэкт калгасаў і новых індывівуальных форм землякарыстаньня найбольш рэзка выяўляецца ў інтэнсыўных раёнах БССР, у якіх, з прычыны больш шпаркага тэмпу разьвіцьця сельскай гаспадаркі, хутчэй і паўней рэалізуюцца перавагі новых форм.

42 Вытворчы эфэкт вывучаных калгасаў, не гледзячы на іх маладасьць, аказаўся настолькі вышэй усіх індывідуальных форм сялянскага землякарыстаньня, што цалкам пацьвердзіў на практыцы тэарэтычныя прадпасылкі іх арганізацыі.

43. Сярод індывідуальных форм землякарыстаньня першае месца прыналежыць пасёлкам. Склад у іх вытворчых адносін, больш адпаведаючых нашу ладу, і шырокі абхоп пасёлкамі прагрэсыўных напрамкаў у разьвіцьці с.-гаспадаркі прымушаюць аддаваць перавагу ім перад другімі індывідуальнымі формамі. Перавышка пасёлкаў старымі хутарамі ў адносінах шэрагу паказальнікаў вытворчай эфэктыўнасьці тлумачыцца „маладасьцю" пасёлкаў і не мае пэрспэктыў, таму што есьць падстава дапушчаць, што тэмп разьвіцьця пасёлкаў вышэй тэмпу старых хутароў.

41. Хутары зьяўляюцца менш эластычнай і ўспрыймальнай формай для ўтварэньня новых вытворчых адносін, як па-за дворам, так і ўнутры яго. Вытворчая эфэктыўнасьць хутароў не настолькі вяліка, каб магла кампэнсаваць, хоць-бы часова, нежаданыя тэндэнцыі сацыяльнага характару, выражаныя ў іх найбольш яскрава і тыя невыгоды тэхнічнага характару, якія ствараюцца ў рэзультаце індывідуальнай комасацыі тэрыторыі для аграмаджаньня сельскай гаспадаркі.

# IV. DIE HAUPTSÄCHLICHSTEN GRUNDSÄTZE.

## I. Methodologie und Untersuchungsverfahren.

Als hauptsächlichter Unterschied der Arten von Landnutzung von ein ander ist der verschiedene social-rechtliche und technische Zustand der Landparzelle aufzufassen, inwiefern sie dem Nutzniesser zur Führung eines landwirtschaft lichen Betriebes überlassen wird. Der Einfluss der Form der Landnutzung auf die betriebstechnischen Beziehungen und die Betriebsart kann aufgefasst werden, als Einfluss eines Aufbaues auf der Grundlage im Gegenseitigkeitsverhältniss und kann prineipiell eingeschätzt werden nur vom Standpunkt einer grösseren oder geringeren Anpassung der Landnutzungart an die Entwickelung des fortschrittlichen Wirtschaftssystems und der ersprobten Betriebsverhältnisse, welche im Grunde von anderen mächtigeren Faktoren und Voraussetzungen abhängen.

2. Die Darstellung der Betätigung der Landnutzungsant kann vollzogen werden durch Vergleich der den Zustand charakterisierenden Merkmale und durch den Verlauf des ldw. Betriebes und der Betriebsverhälnisse bei verschiedenen Arten von Landnutzung. Da gleichzeitig mit den Arten der Landnutzung auch noch andere Faktoren auf den Betrieb und die Betriebsverhältnisse einwirken, so ist es erforderlich: 1) den Finfluss der Form analytisch festzustellen und 2) die Methode der Isolierung anzuwenden.

3. Ueber Anwendung des Isolierungsverfährens bei einer empirischen Untersuchung der wirtschaftlichen Entwicklung kann natürlich nur in höchst beschränktem Masse gesprochen werden und selbstoerständlich kann nicht davon die Rede sein, bei den untersuchten Objekten alle Bedingungen und Faktoren, ausserder Art der Landnutzung, vollständig kennen zu lernen. Immerhin ist dies bei einer ganzen Reihe derselben in gewissem Sinne erreichbar, entweder bei der Wahl des Objektes oder bei der Ausarbeitung.

Bei der Wohl des Objektes, dessen hauptsächlichste Vorbedingung Gleichkeit der Verhältnisse im Zusammenhange mit dem Raum (vor allem klimatischer Eigenheiten, Entfernung vom Markt u. dgl) ist, muss in territorialer Annäherung bestehen, Hieraus ergiebt sich eine nesterweise Anordnung der Objekte. Ferner muss innerhalb des Nestes „die Auswahl des Objektes" möglichst in Anpassung an die Eigentümliphkeiten des Bodens, das Verhältniss der einzelnen ldw, Nutzungsflächen, die Grösse der Landnutzung u. dgl. geschehen. Mit Rücksicht auf eine Ausgleichung der Vergleichsobjekte muss eine einheltliches Gruppierungsverfahren für alle zu untersuchenden Objekte eines Nestes angewandt werden.

4. Die Betätigungsart ein und derselben Form der Landnutzung ist unter verschiedenen natürlichen und öknomischen Bedingungen nicht gleichartig, daher ist für eine detaillirte Aeusserung der vegleichsweisen Betätigungsart und der beständigen Eigenheiten der Form eine Erforschung derselben in verschiedenen lbw. Gebieten erforderlich.

Vorliegende Untersuchung ist in 4 Gebieten, welche bei der Einteilung von BSSR in Kreise vom Leiter der Abth. für ldw. Oekonomik des Landplanes, L. G. Oprja ausgeschieden wurden: 1) im Witebsk-Gorodetzschen,

2) im Minsk-Slutzschen, 3) im Rogatschewschen (Kreis Bobruisk) und 4) im Poless'schen (Kreis Mosyr) ausgeführt. Die Gebiete sind in der Weise ausgewählt, das sie die hauptsächlichsten ldw. Typen umfassen und räumlich in den entgegengesetzen Teilen von BSSR: im Nordem-Süden, Westen-Osten gelegen sind.

5. Als fundamentale Objekte der Untersuchung dienten in Einzelbesitz befőndliche Formen von Landnutzung bei Selbstbetätigung, wie sie in BSSR zu meist vertreten sind: 1) in von der Landeinrichtung nicht berührten Dörfern, 2) in Siedelungen 3) auf Einzelhöfen. Daneben wurden, sofern sie im Nest auftraten, Einödhöfe und Streustücke der Untersuchung unterzogen.

Ausser der im Einzelbesitz befindlichen Form von Landnutzung wurden in 3 Nestern (Witebsk'schen, Minskischen und Mosyr'schen) Kallektiwirtschaften (Artelle=Arbeitsgenossenschaften und Kommunen) mit herangezogen, um sie mit den im Einzelbesitz befindlichen vergleichen zu können, in der Absicht einige Momente der Betätigungsart deutlicher hervortreten zu lassen.

6. Die Grundlagen des Untersuchungsverfahrens und der Bearbeitung des Materiales sind folgende: Das Material wurde von Untersuchungsexpeditionen gesammlt an Ort und Stelle im Jahre 1927, in dem das Budgetjahr 1926/27 mit ein bezogen wurde.

b) als Untersuchungsnester wurden solche gewählt, die für den betreffenden ldw. Kreis (Punkt 4) wie in Bezug auf die natürlichen und die Marktverhältnisse, als auch in Bezug auf die Betriebsart als typisch gelten können.

c) Das Gebiet eines jeden Untersuchungnestes übersteigt nirgends dasjenige eines administrativen Kreises, dabei eine bedeutend kleinere Fläche umfacsend.

d) Als Objekte (Ansiedelungen) innerhalb der Untersuchungsnester wurden mit Berücksichtigung einer müglichsten Gleichheit und Eigenartigkeit in Bezug auf Boden auf Bodenverhältnisse, Gelände, Grösse der Landnutzung und des Verhältnisses der ldw. Nuuzungsflächen zu einander in Betrucht gezogen.

e) Die Altersverhältnisse der Untersuchungsobjekte sind folgende: die Sidelungen sind 2 — 5 Jahre alt, im Mittel aller Nester etwas höher als 3 Jahr, ein ebenso hohes Alter besitzen im Mittel die Kollektivwirtschaften; dte Streustücke stammen aus der Zeit vor der Revolution (1912—1913); die Einzelhöfe sind zu 3/4 ebeufalls vorrevolutionieen Ursprungs, ihr Alter beträgt im Mittel 12 Jahre (10 Budgetjahre). Die jüngsten Einhöfe gelangten im Bobruiskischen Kreise zur Untersuchung (ca 60% nachrevolutionäre).

f) Die Untersuchung geschah nach 3 Formularen: 1) Monographie der Ansiedelung 2) Listen für die einzelnen Höfe (komplizierte) 3) Listen des Agrarbudgtes (auszügliche).

g) Das angesammelte Material wurde folgendermassen verarbeitet: 1) die Höfe gesondert in jedem Neste, innerhalb des Nestes nach der Art der Landnutzung und innerhalb der Art der Landnutzung nach ökonomischen Gruppen (3) und Ansiedelungen. Die ökonomische Gruppierung wurde nach 2 Richtlinien vorgenommen: nach den hauptsächlichsten Betriebsmitteln und nach der ldw. Fläche für jede Wirtschaft. 2) die Beschreibung des Agrarbudgets wurde nach dem Buchhaltungsverfahren ausgeführt und zusammengefasst in Tabellen noch den einzelnen Wirtschaften, den Formen der Landnutzung in den Nestern.

## II. Der Landwirtschaftsbetrieb.

### Die Anordnung des Landgebietes.

7. Auf die Anordnung des Landgebietes äussern in technischer Beziehung hauptsächlich die Verhältnisse des ldw. Kreises ihren Einfluss. Die Kreise können nach summarischer Bezeichnung aller Makmale technischer Einordnung des Landgebietes (viel-klein-eng-abgelegen-streifenförmig) in folgender Stufenfolge angeordnet werden indem der bestorganisierte zuerst steht: der Witebsk'sche, Minskische, Mosyrsche und Bobruiskische.

8. Scharf unterscheidet sich die territoriale Anordnung auf den Einzelhöfen verschiedener Kreise, was sich durch die verschiedenen Zeiträume der Evolution erklärt, in welcher sich die Einhöfe befinden. Im Witebskischen ldw. Gebiete, „auf seiner historischen Heimatsscholle" führt ein Teil der Einzelhöfe ihre „natürliche" Entwicklung zum Abschluss, in dem sie durch Aufteilung des Landbestandes an die einzelnen Fomilienglieder statt in abgesonderte einheitliche Stücke zur Streifenwirtschaft zurückkehrt, damit vor unseren Augen im Kleinen den Vorgang bei der Bildung streifenweiser Dörfer uns vorführend. Im Mosyrschen Kreise ist die Anordnung des Landgebietes der Einzelhöfe gleichfalls sehr niedrig, hier jedoch erklärt sich dies dadurch, dass sich ein Teil der Einzelhöfe hier im Stadium „des Zusammenschlusses", eines selbsttätigen Zusammenströmens abgelegener Streifen durch Umtausch—vor der Revolution durch Ankauf u. s. w. - befindet. Der Minskische Slutz'sche Kreis nehmen eine Mittelstellung ein, auch hier erscheint der streifenweise geteilte Einzehof als Ergebniss beider Processe.

9. Die summarische Betätigung von Siedelungen und Einzelhöfen in intensiveren Gebieten (dem Witebskischen, Minsk-Slutzkischen) in Bezug auf Landeinrichtung des Gebietes unterscheidet sich nur wenig von einander, dagegen um so schärfer von den Dörfern während in den extensiven Kreisen (dem Bobruiskischen und Mosyrschen) sich eine gleichmässigere, weniger scharf abweichende Zunahme der Betätigung von Dorf zum Einzelhof hin beobachten lässt.

10. Die Betätigung in der Gebitesanordnung in verschieden Arten der Landnutzung der intensiveren Kreise, welche empirisch-normatif aus der Ersparniss an Ausgaben durch Verminderung der durchschnittlichen Entfernungen und der Raine sich berechnen liess, kann in folgenden Zahlen auf je ein Hektar ldw. Fläche ausgedrückt werden: auf Einzelhöfen=14 Rbl., in Siedelungen 11,30; auf Streustücken 8,50 Rbl. Das Verhältniss des Betrages an Ausgaben, veranlasst durch die oben angeführten Momente (die durchschnittliche Entferkung, Raine) ist folgendes: im Einzelhof = 1; in der Siedelung 1,3, m Streustück 2,4, im Dorf. 5,2.

11. In den ökonomischen Gruppen ist die technische Anordnung des Landgebiets am stärksten „differenziert" auf den Einzelhöfen, wo die Armeleutewirtschaften sich in verhältnissmässig schlechteren Bedingungen befinden, als in den Siedelungen.

12. Eine grundsätzliche Aenderung im Bestande der ldw. Nutzflächen unter den neuen Formen der Landnutzung äussert sich in der Steigerung des specifischen Gewichtes des bäuerlichen Hofplatzes und der Weidetrift auf den Einzelhöfen.

### Die Anordnung der Betriebsmittel.

13. In bezug auf den Gehalt an Betriebsmitteln auf je eine Wirtschaft, je ein Hektar und je einen Kopf der Bevölkerung stehen die neuen Arten

der Ladnutzung (Siedelungen, Einzelhöfe) höher als die Dörfer. Siedelungen haben nach allen drei Merkmalen eine Steigerung um 7—10% zu verzeichnen, während die Steigerung der Merkmale bei den Einzelhöfen weniger gleichmässig verläuft, und zwar besitzen sie an Betriebsmitteln gerechnet auf eine Einzelhofwirtschaft 40% mehr als die Dörfer, auf 1 Hektar berechnet jedoch nur 17%, auf einen Kopf der Bevölkerung 31%.

Dieses zeugt dafür, dass das Ansteigen des Gehaltes an Betriebsmitteln auf den Einzelhöfen hauptsächlich hervorgerufen wird durch eine Erhöhung des Gehaltes an Landnutzung. Der Unterschied zwischen Siedelungen und Einzelhöfen, mit Ausnahme des Minskischen Nestes, wo in die Siedelungen hauptsächlich Armeleutewirtschaften übergingen, ist bedeutend niedriger in allen 4 Nestern und zwar auf je eine Wirtschaft und einen Kopf der Bevölkerung um 12—13% und auf je ein Jahr um 2%.

14. In den intensiveren Kreisen (dem Witebskischen und Minskischen) ist der Unterschied zwischen den Dörfern und den neuen Formen erheblich grösser, als in den extensiveren, ihre ökonomische Bückständigkeit, welche den allgemeinen Hemmschuh für jedliche Entwicklung der Landwirtschaft bildet, bedingte ine weniger krasse Abweichung.

15. Die allgemeine Wechselbeziehung (Struktur) der hauptsächlichsten Betriebsmittel (Gebäudo, todtes und lebendes Inventar) ist in ihrem Werte in den individuellen Formen der Landnutzung ein förmig; Schwankungen in den verschiedenen Formen der Landnutzung je nach den Gebieten übersteigen nicht 1—3%.

16. Die Wechselbeziehungen nnerhalb des lebenden Inventars zwischen Arbeitstieren und produktvem Vieh unterscheiden sich scharf je nach den Formen ber Landnutzung, wobei sch dieser Untersched deutlicher in der Naturaberechnung (nach der Kopfzahl) als in der Wertberechung (nach dem Kostenpreise) äussert. Nach der Rechnung besitzen auf je 100 Hektar lbw. Fläche an Arbeitsvieh: die Dörfer 21 Stück, Siedelungen—18; Einzelhöfe 16 und Kollektivwirtschaften 6, 2) dem Werte nach: Dörfer, Siedelungen und Einzelhöfe-fast gleichviel zu 20—23 Rbl. auf 1 Hektar, Kollektivwirrschaften jedoch 12 Rb. Auf diese Weise vollzieht sich in den neuen Formen der Landnutzung ein antagonistscher Process der Verminderung der Anzahl an Arbeitsvieh zind einer Steigerung seines Wertes (seiner Qualität) pro Kopf; zugleich steigt der Unterhalt des Vieh's. Berechnet auf 100 Hektar ldw. Fläche ist die Ersparniss vom Unterhalt des Arbeitsviehes im Vergleich zu den Dörfern: in den Siedelungen—36 Rb., inden Einzelhöfen—120 Rb. und in den Kollektivwirtschaften 1308 Rb.

17. Das produktive Vieh unterzieht sich derselben Tendenz, hier jedoch überhalt das Anwachsen des Wertes n den neuen ndividuellen Formen das Dorf. In Folge dessen ist der qualitative Bestand der Tierc (nach dem Kopfpreise Gewicht, Melkergebniss, Mastfähigkeit) in den neuen Formen der Landnutzung bedeutend höher, wobei ein Unterschied sch besonders beim Pferde bemerkbar macht; in der Kollektivwrtschaft—204 Rb., im Einzelhof—150 Rb. in der Siedelung—110 Rb. Bei den anderen Tierarten schwonken die Weiser.

18. Der Bestand und die Wechselbeziehungen der Betriebsmittel in den ökonomischen Gruppen. der im Allgemeinen kleinen, mittleren und grossen Wirtschaften eigentümlichen Tendenz folgend, hat nach den Formen der Landnutzung die Eigenheit, dass der Unterschied im Werte der Produktionsmittel für eine Wirtschaft am grössten unter den Gruppen auf den Einzelhöfen ist, ein wenig niedriger in den Dörfern und noch niedriger in den Siedelungen; auf diese Weise erwiesen sich die Siedelungen als die „demo-

